ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 48 (2627)
ПЯТНІЦА
1
снежня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Марыя Цітавец—свінарка саўгаса «Раванічы» Чэрвеньскага раёна. Аднавяскоўцы любяць і паважаюць яе за няўрымслівы характар, шчодрасць душы, залатыя рукі. Марыя зусім маладая, але ўжо ўдастоена высокага гонару прадстаўляць сваіх землякоў у Вярхоўным Савеце БССР.

Фота П. НАВАТАРАВА. (БЕЛТА).

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

# ЗАЎСЁДЫ З ПАРТЫЯЙ, ЗАЎСЁДЫ З НАРОДАМ

*Аб'яднаны пленум праўленняў творчых саюзаў СССР*

«50-годдзе ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і развіццё савецкай шматнацыянальнай культуры»—гэтай тэме прысвечаны аб'яднаны пленум праўленняў творчых саюзаў і арганізацый СССР, які адбыўся 29 лістапада ў Маскве.

У Вялікім Крамлёўскім палацы сабраліся вядомыя пісьменнікі, кінематаграфісты, кампазітары, мастакі, тэатральныя дзеячы, архітэктары, журналісты. Тут прысутнічаюць сакратары ЦК кампартый саюзных рэспублік, шэрагу крайкомаў і абкомаў партыі, кіраўнікі цэнтральных і мясцовых ідэалагічных устаноў і ведамстваў, рэдактары цэнтральных газет і часопісаў.

Цёпла сустрэлі прысутныя таварышаў **А. П. Кірыленку, Ф. Д. Кулакова, А Я Пельшэ, М. А. Суслава, П. Н. Дземічава, Б. М. Панамарова.**

Удзельнікі пленума з вялікім натхненнем выбралі ганаровы прэзідыум у саставе Палітбюро ЦК КПСС.

З дакладам на пленуме выступілі першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР **Г. М. Маркаў,** першы сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў СССР **Л. А. Куліджанаў,** першы сакратар праўлення Саюза кампазітараў СССР **Ц. Н. Хрэннікаў,** першы сакратар праўлення Саюза мастакоў СССР **Н. А. Панамароў,** намеснік старшыні праўлення Саюза журналістаў СССР **І. І. Удальцоў,** першы сакратар праўлення Саюза архітэктараў СССР **Г. М. Арлоў.**

Кіраўнікі творчых саюзаў адзначылі як найвялікшую заваёву савецкага грамадства — стварэнне шматнацыянальнай сацыялістычнай культуры. Камуністычная ідэйнасць, партыйнасць і народнасць — вось тыя высокія крытэрыі, якімі кіруюцца ў сваёй творчасці дзеячы літаратуры і мастацтва нашай краіны. Разам з партыяй, разам з народам яны сустракаюць вялікае свята адзінства і брацтва — 50-годдзе ўтварэння СССР. Да знамянальнай даты майстры культуры прыйшлі з вялікімі дасягненнямі ва ўсіх галінах сваёй шматграннай дзейнасці.

**Г. М. Маркаў** падкрэсліў, што маральна-палітычная згуртаванасць нашага грамадства, адзіная ідэйна-мастацкая накіраванасць дзеячаў савецкай літаратуры і мастацтва выражаецца ў мастацкім метадзе сацыялістычнага рэалізму. На аснове яго ярка расквітнелі савецкая шматнацыянальная літаратура і мастацтва.

Заснаваны на ленінскіх прынцыпах народнасці і партыйнасці, метад сацыялістычнага рэалізму мае на ўвазе адкрытае і сумленнае служэнне мастака справе партыі і народа, ідэям камунізму.

У нядаўна апублікаванай пастанове ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі», падкрэсліў **Л. А. Куліджанаў,** гаворыцца аб паспяховым развіцці кінамастацтва ў саюзных рэспубліках. У гэтым партыйным дакуменце абагульняюцца факты, з'явы, працэсы, якімі мы па праву ганарымся. Гэта пастанова ўспрынята савецкімі кінематаграфістамі як ідэйна-эстэтычная аснова і практычная праграма новага ўздыму савецкай шматнацыянальнай кінематаграфіі, якога чакаюць ад нас партыя і народ.

Узнікненне маладых музычных культур у нашай шматнацыянальнай дзяржаве — сапраўдны цуд, які мог ажыццявіцца толькі ва ўмовах сацыялізму, пры пастаянных бацькоўскіх клопатах і падтрымцы ленінскай партыі, сказаў **Ц. Н. Хрэннікаў.**

Савецкія мастакі, заявіў **Н. А. Панамароў,** з пачуццём адказнасці перад народам і партыяй рыхтуюць сваю ўсесаюзную выстаўку «СССР — наша Радзіма», прысвечаную слаўнаму юбілею. Яна ўвасобіць ідэі ўсенароднага брацтва, дружбы, адзінства савецкай сацыялістычнай мастацкай культуры.

На трыбуне — **І. І. Удальцоў.**

Вялікі і слаўны шлях, пройдзены савецкімі народамі за мінулыя паўстагоддзя, сказаў ён. І ўсе гэтыя гады ў перадавых радах барацьбітоў за станаўленне новага жыцця знаходзіліся савецкія журналісты.

Савецкая журналістыка сёння — гэта звыш 12 тысяч газет і часопісаў, якія выходзяць на 58 мовах народаў СССР разавым тыражом больш чым 300 мільёнаў экземпляраў. Гэта найшырэйшая сетка тэлевізійнага і радыёвяшчання і шматлікая армія рабочых і сялянскіх карэспандэнтаў.

Выконваючы рашэнні XXIV з'езда, указанні Цэнтральнага Камітэта партыі, друк, радыё, тэлебачанне, інфармацыйныя агенцтвы вядуць цяпер вялікую работу па мабілізацыі сіл савецкага народа на рэалізацыю задач камуністычнага будаўніцтва.

**Г. М. Арлоў** падкрэсліў, што ўтварэнне СССР аб'яднала намаганні ўсіх рэспублік у вырашэнні адзіных велічных задач развіцця архітэктуры і будаўніцтва.

## СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧЫ СХОД

27 лістапада адбыўся справаздачна-выбарчы сход партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР.

У спрэчках па дакладу, з якім выступіў намеснік сакратара партбюро т. Прокша Л. Я., прынялі ўдзел камуністы: Я. Каршукоў, А. Рыбак, Я. Семяжон, М. Ягораў, П. Мільто, А. Масарэнка, І. Грамовіч, Ул. Юрэвіч, С. Шушкевіч, Ф. Міхееў, М. Татур, І. Шамякін, сакратар Ленінскага райкома КПБ Р. Піёнава.

Сход выбраў новы склад партыйнага бюро. У яго ўвайшлі: тт. Э. Агняцвет, А. Асіпенка, Г. Бураўкін, І. Грамовіч, Х. Жычка, К. Кірэенка, А. Кулакоўскі, Я. Кучар, А. Марціновіч, М. Матукоўскі, Г. Папоў, Л. Прокша, М. Танк, І. Шамякін, Г. Шыловіч.

На арганізацыйным пасяджэнні партыйнага бюро яго сакратаром абраны А. Марціновіч, намеснікамі — Г. Бураўкін, Я. Кучар, Л. Прокша.

## ПЕРШЫЯ КАНЦЭРТЫ УСЕСАЮЗНАГА...

Чацвёрты Усесаюзны конкурс піяністаў пачаўся у Мінску. Адбыліся першыя канцэрты маладых музыкантаў, сярод якіх ёсць прадстаўнікі лепшых фартэпіянных школ краіны. Ад Беларусі ў конкурсе выступаюць Лідзія Дваржэц і Ігар Палівода.

Конкурс мае тры туры. У апошнім з іх удзельнікі конкурсу будуць выконваць творы для фартэпіяна з аркестрам.

Журы ўзначальвае прафесар Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі імя Чайкоўскага Я. Зак. У яго складзе — У. Алоўнікаў, І. Цвятаева (Мінск), Н. Габунія (Тбілісі), Э. Назірава (Баку), Ю. Карнавічус (Вільнюс), П. Серабракоў (Ленінград) і іншыя выдатныя прадстаўнікі музычнага мастацтва.

Пераможцам прысуджаюцца грашовыя прэміі і дыпломы. Лаўрэаты першых прэмій атрымліваюць права на гастролі па гарадах краіны і на запіс на грампласцінкі.

Конкурс працягнецца да 11 снежня г. г.

## СУСТРЭЧА З ГУМАРАМ

У клубе Саюза пісьменнікаў Беларусі адбыўся вечар сатыры і гумару. Са сваімі лепшымі творамі выступілі празаікі і паэты—Іван Грамовіч, Міхась Пянкрат, Леанід Прокша, Міхась Скрыпка, Уладзімір Правасуд, Язэп Семяжон, Георгій Юрчанка, Янка Курбека, Алесь Ставер, Іосіф Васілеўскі, Мікола Вяршынін і Алесь Рыбак. Былі прачытаны цікавыя байкі, фельетоны, гумарэскі, пародыі і мініяцюры. Вечар прайшоў з вялікім поспехам.

## ПРЫСВЕЧАНЫ Якубу КОЛАСУ

*Учора ў Маскве ў калоннай зале Дома саюзаў, калі вярстаўся гэты нумар газеты, адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. На вечары выступілі прадстаўнікі літаратурнай грамадскасці краіны. У зале гучалі вершы паэта, музычныя творы, напісаныя кампазітарамі на яго тэксты.*

*Справаздача аб вечары будзе надрукавана ў чарговым нумары «Літаратуры і мастацтва».*

# ПАЛАВІНА ВЫДАННЯ — ЁСЦЬ!

**Не, такога яшчэ мы не ведалі! Гэта свята без пышных прамоў: Беларуская Энцыклапедыя, радасць першых вішнёвых тамоў.**

Пімен Панчанка.

ГЭТЫХ ПЕРШЫХ вішнёвых тамоў ужо шэсць. Палавіна выдання. Усяго запланавана дванаццаць. У 11-м томе будзе змешчаны «Дадатак». 12 том зойме абагульняльны матэрыял пра Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку.

Чарговы сёмы том БелСЭ здадзены ў набор. Заканчваецца работа над рукапісам яшчэ аднаго тома. План дванаццатага тома ўжо распрацаваны і абмеркаваны ў навуковых і іншых калектывах спецыялістаў. Усё выданне будзе закончана ў 1975 годзе.

У год паўвекавога юбілею СССР выйшлі ў свет пяты і шосты тамы БелСЭ. У іх, як і ў папярэдніх, яскрава паказаны дасягненні БССР за 55 гадоў Савецкай улады, здабыткі іншых братніх народаў Савецкага Саюза, згуртаваных у дружнай сям'і, якая будуе камунізм. У пятым томе змешчаны артыкулы аб Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і аб яе састаўной частцы — Кампартыі Беларусі. Гэта ёй, ленінскай партыі камуністаў, належыць кіруючая і арганізуючая роля ва ўсіх дасягненнях нашай вялікай Радзімы.

У шостым томе змешчан артыкул аб вялікім Леніне, з імем якога звязаны пачатак новай, сацыялістычнай эры ў свеце, стварэнне СССР, міжнародны рэвалюцыйны працэс сучаснасці.

У адрозненне ад артыкулаў іншых энцыклапедый артыкул аб У. І. Леніне ў БелСЭ змяшчае новы матэрыял аб глыбокім вывучэнні правадыром эканамічнага, сацыяльнага і палітычнага развіцця Паўночна-Заходняга краю, у які да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ўваходзіла Беларусь. Аўтары артыкула сабралі шмат цікавага матэрыялу аб ролі правадыра ў развіцці рэвалюцыйнага працэсу ў Беларусі, аб перамозе сацыялістычнай рэвалюцыі, аб стварэнні беларускай дзяржаўнасці, аб дапамозе У. І. Леніна ў арганізацыі Савецкай улады ў рэспубліцы, у аднаўленні яе народнай гаспадаркі. Калі ўвосень 1920 года партыйныя і савецкія арганізацыі Беларусі паставілі пытанне аб заключэнні саюзнага дагавору паміж Савецкай Беларуссю і Расійскай Федэрацыяй, У. І. Ленін горача падтрымаў гэта і даручыў Старшыні ЦВК і СНК БССР А. Р. Чарвякову выпрацаваць праект дагавору. Артыкул добра ілюстраваны па тэксту і на ўклейках.

Біяграфія правадыра сусветнага пралетарыяту непасрэдна дапаўняецца артыкулам «Ленініяна». У ім гаворыцца пра творы мастацтва, літаратуры і народнай творчасці, у якіх увасоблены вобраз У. І. Леніна. Велічнасць і шматграннасць ленінскага генія натхняе прагрэсіўных мастакоў усяго свету на стварэнне высокамастацкіх твораў пра рэвалюцыйныя пераўтварэнні грамадства, увасабленне камуністычных ідэй. Пераважную ўвагу артыкул надае беларускай Ленініяне. У ім называюцца творы фальклору і літаратуры, выяўленчага мастацтва, музыкі, тэатра. На ўклейках да артыкула выдатныя творы беларускіх мастакоў-жывапісцаў К. Касмачова, А. Шыбнёва, мастакоў-графікаў В. Шаранговіча, Р. Маліноўскага, А. Дзямарына, скульптуры А. Бембеля, фотаздымкі сцэн, дзе ў ролі Леніна выдатныя беларускія акцёры П. Малчанаў, Б. Платонаў, Д. Арлоў, Ф. Шмакаў.

Артыкул «Ленінскі мемарыял» расказвае аб увекавечанні памятных мясцін ва Ульянаўску, звязаных з нараджэннем і раннім дзяцінствам У. І. Леніна, і аб тым, што мемарыял будавалі вопытныя майстры — прадстаўнікі трынаццаці нацыянальнасцей СССР, у тым ліку з Беларусі, брыгады інтэрнацыянальнага атрада з дзесяці сацыялістычных краін. На ўклейцы да артыкула — усе асноўныя элементы архітэктурнага ансамбля мемарыяла.

Хочацца адзначыць адно цікавае супадзенне. У шостым томе БелСЭ змешчаны артыкулы пра заснавальнікаў беларускай літаратуры Янку Купалу і Якуба Коласа. Том выйшаў у год іх юбілеяў — 90-годдзя з дня нараджэння. Артыкулы ілюстраваны ўклейкамі.

У любым томе БелСЭ можна знайсці матэрыялы на самыя разнастайныя тэмы. І ў шостым томе шырока прадстаўлены геаграфія і геалогія, біялогія і медыцына, фізіка і матэматыка, астраномія і тэхніка, гісторыя і літаратура, мастацтва і філасофія, народная адукацыя і друк. Вось некаторыя з найбольш важных, акрамя ўжо названых артыкулаў гэтага тома (па парадку алфавіта): Класіцызм, Кніга, Красная плошча, Крэмль Маскоўскі, Куба, Курганы Славы, Курорты, Латвійская ССР, Левітан, Лекавыя расліны, Ленінград, Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларсі, Лёгкая атлетыка, Літоўская ССР, Магілёў і Магілёўская вобласць, Мазаіка, Макоўскі, Малдаўская ССР, Манументальнае мастацтва, Мангольская Народная Рэспубліка і інш.

Адзначу цікавы па сваёй методыцы артыкул у шостым томе — «Курганы Славы». Акрамя вызначэння таго, што такое Курганы Славы і якія бываюць курганы, даецца спіс Курганоў Славы на Беларусі.

БелСЭ усюды, дзе магчыма, робіць поўны пералік з'яў, аб якіх змяшчаюцца артыкулы, дае паіменныя іх спісы. Напрыклад, упершыню ў даведачнай літаратуры прыведзены ў БелСЭ спіс рэпертуару беларускіх тэатраў, спісы асоб з розных галін дзейнасці, якія атрымалі званні заслужаных (у артыкулах «Заслужаны аграном БССР», «Заслужаны артыст БССР» да т. п.). Народ творыць гісторыю, і няма безыменных падзей у ёй; усё створана і ствараецца людзьмі, іх імёны павінны быць увекавечаны.

Цікава размяшчаецца матэрыял пра вобласці Беларусі. У другі том БелСЭ ўвайшлі артыкулы аб Брэсце, Брэсцкай вобласці і іншыя з цыкла «Брэст». У чацвёртым змешчаны артыкулы гродзенскага цыкла — пра Гродна і Гродзенскую вобласць, гродзенскія ўстановы і інш. Шосты том — магілёўскі. У ім 45 грунтоўных артыкулаў з цыкла «Магілёў». У сёмым томе будуць змешчаны артыкулы «Мінск», «Мінская вобласць» і іншыя з мінскага цыкла.

БелСЭ — універсальны даведнік. Таму ў ёй чытач знаходзіць звесткі па самых разнастайных пытаннях. Аднак, з'яўляючыся Беларускай энцыклапедыяй, яна змяшчае матэрыялы, пераважна звязаныя з Беларуссю, з яе гісторыяй, навукай, культурай, дасягненнямі ў тэхніцы, эканоміцы, з яе геаграфіяй і побытам, традыцыямі і інтарэсамі народа. Рэдакцыйная калегія і рэдакцыі БелСЭ імкнуцца не ўпусціць нічога істотнага з беларускага матэрыялу, адносна якога чытачу можа спатрэбіцца тая ці іншая даведка.

У стварэнні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі ўдзельнічаюць сотні спецыялістаў. Артыкулы кожнага тома піша да 700 аўтараў. Калі да гэтага дадаць кансультантаў, рэцэнзентаў і рэдактараў, то кола ўдзельнікаў выдання яшчэ больш расшыраецца.

Многія тэмы артыкулаў нам падказваюць чытачы, і мы яшчэ і яшчэ раз звяртаемся да іх з просьбай аддаваць свае веды нашай любіміцы. Агульнымі намаганнямі беларускіх вучоных, работнікаў культуры, грамадскіх і дзяржаўных дзеячоў і нават хавальнікаў унікальных звестак з розных галін жыцця ствараецца БелСЭ на радасць гераічнага беларускага народа, а таксама на радасць шматнацыянальнай сям'і савецкіх народаў.

Прынцыпы адбору матэрыялаў у БелСЭ даюць чытачу магчымасць без цяжкасці і хутка знайсці неабходную яму даведку: пра падзеі ў гісторыі, звесткі з геаграфіі і геалогіі, пра з'явы літаратуры і мастацтва, эканомікі і тэхнікі, пра навуковыя і навучальныя ўстановы, з'явы этнаграфіі і народнай творчасці, пра дзеячоў розных гістарычных эпох і грамадскага жыцця.

Калі на тую або іншую тэму ў БелСЭ не дадзена «чорнае слова» (загалоўны тэрмін), дык яе можна адшукаць у іншых артыкулах праз прадметны, імянны або геаграфічны паказальнікі. Скажам, малады пачынаючы вучоны напісаў артыкул для энцыклапедыі, і ён пайшоў пад яго подпісам; праз некалькі гадоў малады стане вядомым, і імянны паказальнік энцыклапедыі паведаміць аб пачатку яго навуковага шляху. Акрамя персаналіі пісьменнікаў, мастакоў і іншых дзеячоў культуры ў БелСЭ змяшчаюцца спісы творчых саюзаў, з якіх відаць, хто і калі пачаў свой шлях на ніве культуры.

Артыкулы ў БелСЭ звязаны між сабой, багата ілюстраваны, забяспечаны грунтоўнай бібліяграфіяй. Калі ласка, чытач, атрымлівай кваліфікаваную, патрэбную табе даведку.

У шасці тамах ужо вызначыўся твар БелСЭ. Нават нашы нядобразычліўцы за мяжой не могуць адмаўляць вялікай навуковай і даведачнай каштоўнасці выдання. Добрыя водгукі чытачоў радуюць стваральнікаў Беларускай энцыклапедыі. Дапушчаныя недакладнасці, хоць яны і дробныя, мы пастараемся выправіць, а ў далейшым іх пазбегнуць. Уважліва і надалей будзем адносіцца да заўваг, пажаданняў і просьбаў чытачоў. Пішыце нам, дарагія сябры, шчыра, сур'ёзна, удумліва.

**П. Д. ПУЗІКАЎ,**
нам. галоўнага рэдактара, прафесар.

# Мінск, плошча Леніна, ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

*Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР... Варта толькі «злавіць» вачыма гэтыя звычныя словы на першай старонцы газеты, і мы ўжо, не адрываючыся, прачытаем усё да канца. Прачытаем, ці гэта будзе Указ аб скліканні сесіі Вярхоўнага Савета, аб узнагароджанні завода ў сувязі з юбілеем, прысваенні ганаровага звання пісьменніку. Прачытаем, бо ведаем — гэта зыходзіць з вышэйшага органа дзяржаўнай улады рэспублікі. Менавіта тут распрацоўваюцца новыя законапраекты, каб быць потым разгледжанымі і зацверджанымі Вярхоўным Саветам, тут выдаюцца Указы па розных аспектах нашага жыцця, ажыццяўляецца штодзённае кіраўніцтва Саветамі рэспублікі, вырашаюцца пытанні, звязаныя з каардынацыяй работы пастаянных камісій Вярхоўнага Савета, кантралюецца захаванне правоў, гарантаваных савецкім людзям Канстытуцыяй.*

*Напярэдадні Дня Савецкай Канстытуцыі, карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» пабываў на чарговым пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі, пазнаёміўся з работай яго аддзелаў.*

ЗАЛА ПАСЯДЖЭННЯЎ Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Абшытыя дубовымі панэлямі сцены, мяккія дывановыя дарожкі, што прыглушаюць крок, доўгі стол для членаў Прэзідыума, крэслы для запрошаных. Строгая, урачыстая і разам з тым дзелавая абстаноўка.

Іх — дзевятнаццаць. Дзевятнаццаць чалавек, надзеленых высокім даверам народа. Яны — розныя па ўзросце, па жыццёвым вопыце, па займаемых пасадах. Першы сакратар Гродзенскага РК КПБ Антаніна Іванаўна Белякова і звеннявая механізаванага звяна калгаса імя Чапаева Міёрскага раёна Леакадзія Балеславаўна Зімнік, галоўны вучоны сакратар Прэзідыума Акадэміі навук БССР Аляксандр Сямёнавіч Махнач і брыгадзір комплекснай брыгады муляроў з Магілёўшчыны, Герой Сацыялістычнай Працы Аляксандр Паўлавіч Старавойтаў, старшыня Віцебскага аблвыканкома Пётр Яфімавіч Рубіс і цялятніца саўгаса «Судкава» Хойніцкага раёна Алена Яфімаўна Вяргейчык... Усіх іх яднае беззапаветная адданасць справе партыі, народу, высокае адчуванне адказнасці за справу, якая ім даручана.

...Пасяджэнне пачынаецца роўна ў адзінаццаць. Сёння разглядаецца пытанне аб рабоце выканкома Баранавіцкага гарадского Савета па прадухіленні правапарушэнняў падлеткаў. Са справаздачай выступае старшыня Баранавіцкага гарвыканкома І. Стаўроўская.

Справаздача, як кажуць, «гладкая», з мноствам лічбаў і фактаў, якія павінны сведчыць аб паспяховай выхаваўчай рабоце сярод баранавіцкай моладзі. Але ў членаў Прэзідыума ёсць свая думка наконт гэтага пытання. Перад тым, як вынесці яго на пасяджэнне Прэзідыума, адзін з аддзелаў доўга і скрупулёзна вывучаў становішча з прававым выхаваннем моладзі ў Баранавічах і склаў падрабязную даведку, з якой відаць, што ў горадзе яшчэ ёсць выпадкі парушэння працоўнага заканадаўства аб падлетках, пераводу ў вячэрнія школы вучняў з нізкай дысцыплінай і паспяховасцю, дрэнна працуюць дзіцячыя пакоі пры міліцыі і домакіраўніцтвах...

Выступаюць члены Прэзідыума, выступаюць запрошаныя на пасяджэнне міністр унутраных спраў А. Клімаўской, Старшыня Вярхоўнага суда рэспублікі А. Бондар. Усе яны выказваюць шэраг канкрэтных прапаноў, накіраваных на выпраўленне становішча. Гэтыя прапановы кладуцца ў аснову пастановы, якая прымаецца Прэзідыумам.

Наступнае пытанне парадку дня—разгляд заяў аб памілаванні. Члены Прэзідыума загадзя атрымалі для вывучэння судовыя дакументы, асуджаных за крымінальныя злачынствы і зараз выказваюць свае меркаванні па кожнай справе. Рашэнне прымаецца большасцю галасоў...

У ГЭТЫ ДЗЕНЬ супрацоўнікам аддзела па рабоце з Саветамі хапала турбот. Назаўтра склікаўся рэспубліканскі семінар сакратароў выканаўчых камітэтаў абласных, раённых і гарадскіх Саветаў дэпутатаў працоўных і ўсе клопаты па яго арганізацыі клаліся на іх плечы. І хоць усё загадзя было распрацавана і падрыхтавана (семінар прысвечаны нядаўна прынятаму Закону «Аб статусе дэпутатаў Саветаў дэпутатаў працоўных у СССР») — лекцыі, выезды ў раёны рэспублікі, экскурсіі — усё роўна хваляванняў хапала.

— Галоўная задача нашага аддзела, калі яе коратка сфармуляваць, — гаворыць намеснік загадчыка Я. Пыльнікаў, — аказанне Саветам практычнай дапамогі на месцах, абагульненне перадавога вопыту.

Саветы дэпутатаў працоўных... Яўген Паўлавіч называе лічбы. Сёння ў рэспубліцы налічваецца больш 80 тысяч дэпутатаў мясцовых Саветаў. 63,2 працэнта з іх складаюць рабочыя і сяляне, 65,5 працэнта дэпутатаў маюць вышэйшую і сярэднюю адукацыю. Пры мясцовых Саветах працуе больш 10 тысяч пастаянных камісій. А вось яшчэ адзін унушальны паказчык. Летась на пасяджэннях выканкомаў і сесіях Саветаў было разгледжана 27 тысяч розных пытанняў, падрыхтаваных пастаяннымі камісіямі і звязаных з гаспадарчым і культурным жыццём рэспублікі.

— Улічыце яшчэ, — заўважае Яўген Паўлавіч, — што на арбіце кожнага Савета працуе шмат самадзейных арганізацый — сельскія і вулічныя камітэты, жаночыя саветы, групы народнага кантролю і г. д. Такіх арганізацый у рэспубліцы каля 90 тысяч. У іх рабоце прымае ўдзел мала не 800 тысяч чалавек.

Пад кантролем аддзела і падрыхтоўка выбараў у мясцовыя Саветы, Вярхоўныя Саветы рэспублікі і краіны, справаздачы дэпутатаў перад выбаршчыкамі, захаванне ўсіх канстытуцыйных патрабаванняў да правядзення сесій.

Праз аддзел праходзіць і падрыхтоўка матэрыялаў па зменах ў адміністрацыйна - тэрытарыяльным падзеле рэспублікі. Толькі ў гэтым годзе Прэзідыум сваім Указам пераўтварыў гарадскі пасёлак Міёры і рабочы пасёлак Барань у гарады раённага падначалення. Выклікана гэта тамашнім ростам насельніцтва, развіццём прамысловасці і культуры.



Са сваім клопатам к дэпутату. (Прыём вядзе дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, звеннявая калгаса імя Фрунзе Шклоўскага раёна Т. Залуцкая.

Фота М. ЖАЛУДОВІЧА. (БЕЛТА).

НА СТАЛЕ ЗАГАДЧЫКА юрыдычнага аддзела Я. Бурдзявіцкага ляжыць тоўсты том у мяккай блакітнай вокладцы. На ім надпіс: «Водны кодэкс Беларускай ССР». Зверху грыф: «Праект». Кодэкс неўзабаве павінен абмяркоўвацца і прымацца на адной з бліжэйшых сесій Вярхоўнага Савета.

У яго падрыхтоўцы прымалі ўдзел Міністэрства юстыцыі, Дзяржаўны камітэт па ахове прыроды пры Савеце Міністраў БССР, Міністэрства меліярацыі і воднай гаспадаркі, пастаянныя камісіі Вярхоўнага Савета — па ахове прыроды, заканадаўчых меркаванняў, па прамысловасці, па сельскай гаспадарцы і юрыдычны аддзел.

— Да кампетэнцыі аддзела, — расказвае Яфім Якаўлевіч, — адносяцца прававое абслугоўванне Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі, удзел у падрыхтоўцы праектаў законаў, Указаў і пастаноў Прэзідыума нарматыўнага характару, падрыхтоўка прапаноў і матэрыялаў па вывучэнні эфектыўнасці заканадаўства, унясення прапаноў па яго ўдасканальванню.

Аддзел прымае ўдзел у праверцы работы міністэрстваў, ведамстваў, выканкомаў мясцовых Саветаў па захаванню сацыялістычнай законнасці і правапарадку.

У сферы работы аддзела — кансультацыі па прававых пытаннях мясцовых Саветаў, а таксама дэпутатаў.

У АДНЫМ З ПАКОЯЎ аддзела ўзнагарод — стэлажы ад падлогі да столі. Тут захоўваецца картатэка ўзнагароджаных.

Мы гутарым з намеснікам загадчыка аддзела Ганнай Макараўнай Мартыненка.

— Праз наш аддзел, — расказвае яна, — праходзіць уся дакументацыя, звязаная з прысваеннем ганаровых званняў, узнагароджваннем ганаровымі граматамі і граматамі Вярхоўнага Савета, ордэнамі «Мацярынская слава» і медалямі «Медаль мацярынства». Рыхтуем праекты Указаў аб узнагароджанні медалем «За адвагу на пажары», «За выдатную службу па ахове грамадскага парадку»...

Амаль тры дзесяцігоддзі аддаляюць нас ад часоў Айчыннай вайны, але і сёння яшчэ ўзнагароды шукаюць герояў. Пошук партызан, якія ў свой час былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі і па нейкіх прычынах не атрымалі іх — таксама клопат работнікаў аддзела.

У БАРЫСА ПЯТРОВІЧА СЕРАФІМОВІЧА, загадчыка прыёмнай Прэзідыума, сядзеў наведвальнік — сярэдніх гадоў высокі мужчына з мыліцамі. Прыслухоўваюся да размовы. Справа, якую адразу і не ўцяміш. Чалавек некалькі гадоў назад купіў аўтамашыну і падарыў яе брату. Нядаўна той брат нецвярозы сеў за руль і падбіў жанчыну, за што быў асуджаны народным судом. Па рашэнні суда машына яго канфіскавана і будзе прададзена праз камісійны магазін. Наведвальнік з мыліцамі на прамілы бог прасіў, каб аўтамабіль прадалі менавіта яму — былому ўладальніку.

— Добра, — кажа Барыс Пятровіч,— паспрабуем вам, як інваліду, дапамагчы. Але ж вы маеце права на бясплатную машыну з ручным кіраваннем. Чаму не звярталіся ў органы сацыяльнага забеспячэння?

Чалавек адказвае, што ён пра гэта не ведаў, але ўсё роўна ў яго адна просьба, каб яго былую «Волгу» прадалі толькі яму...

— І шмат такіх прасіцеляў? — цікаўлюся я, калі мы застаемся ўдвох.

— Хапае, — усміхаецца загадчык. — Але пераважная большасць наведвальнікаў прыходзіць з вельмі слушнымі прапановамі ды і скаргамі, сур'ёзнымі і абгрунтаванымі. Калі ж гаварыць пра агульную тэндэнцыю, дык трэба падкрэсліць, што за апошнія тры — чатыры гады паток наведвальнікаў, пісьмаў са скаргамі скараціўся недзе на трэць. Тлумачыцца гэта тым, што людзі сталі лепей жыць, ну і, вядома, больш чула, уважліва пачалі ставіцца да скаргаў на месцах.

Просьба кожнага наведвальніка, змест кожнага пісьма, якое трапляе ў прыёмную, заносіцца на асобую картку. Тут жа вырашаецца, які ход даць заяве ці пісьму. Адны перасылаюць у кампетэнтныя органы з просьбай разабрацца і даць адказ заявіцелю, па другіх, найбольш важных, работнікі прыёмнай самі выязджаюць на месца.

Барыс Пятровіч успамінае пісьмо пастуха з Бялыніцкага раёна, які скардзіўся на тое, што яго, старога, паважанага працаўніка незаслужана крыўдзіць дырэкцыя саўгаса. На месца выехалі работнік прыёмнай разам з прадстаўнікамі пракуратуры рэспублікі і Міністэрства сельскай гаспадаркі. Скарга аказалася абгрунтаванай. Паводзіны дырэктара абмяркоўваліся на бюро райкома і абкома партыі, яму было вынесена спагнанне, а старшыня рабачкома зняты з работы.

Усе пісьмы і заявы работнікі прыёмнай сістэматызуюць і абагульняюць па канкрэтных пытаннях. Скажам, жыллёвых, пенсійных, судовых і г. д. Пры гэтым улічваецца геаграфія, сацыяльнае становішча прасіцеляў, як пытанні вырашаюцца на месцах і г. д. За год складаецца аглядная даведка па ўсіх гэтых пытаннях, якая потым аналізуецца Прэзідыумам.

— За апошні час, — расказвае Б. Серафімовіч, — Прэзідыум разгледзеў некалькі пытанняў, падрыхтаваных нашымі работнікамі. Напрыклад, як праводзіцца прыём грамадзян у выканкомах Саветаў у Магілёўскай вобласці, рэагаванне на прапановы, заявы і скаргі працоўных у сістэме ўпраўлення Беларускай чыгункі, Міністэрстве сельскага будаўніцтва і г. д.

...РАМКІ ГАЗЕТНАГА РЭПАРТАЖУ не дазваляюць ахапіць усю вялізную, шматгранную работу Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі на чале з яго старшынёй Фёдарам Анісімавічам Сурганавым. Можна было яшчэ шмат расказваць пра тое, як глыбока і скрупулёзна вывучаюць члены Прэзідыума кожнае пытанне, перш чым яно набудзе сутнасць і форму дзяржаўнага дакумента — Указа ці Пастановы.

...З вакон другога паверха Дома ўрада, дзе размешчан Прэзідыум Вярхоўнага Савета, бачны помнік Ільічу. І гэта сімвалічна. Тут, у двух кроках ад яго, працуе вышэйшы орган Савецкай улады рэспублікі, улады, заснавальнікам якой быў вялікі Ленін.

**М. ЗАМСКІ.**

# ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

Лета і восень юбілейнага года поўныя яркімі падзеямі ў культурным жыцці краіны. Сярод іх віднае месца займаюць вернісажы, прысвечаныя залатому юбілею Савецкага Саюза.

Асаблівае месца сярод вернісажаў юбілейнага года займала мастацкая выстаўка «Зямля і людзі», арганізаваная ВДНГ СССР, Саюзам мастакоў СССР і Міністэрствам культуры СССР.

140 мастакоў, амаль з усіх саюзных рэспублік, прадставілі больш 180 твораў жывапісу, скульптуры і графікі.

Сярод лепшых работ выстаўкі карціны беларускіх майстроў: «Маё Палессе» — Г. Вашчанкі, тры лісты з серыі «Жанчыны Палесся» А. Паслядовіч — «Гаспадыня», «Лета ўраджайнае», «Рабіна», «Хлеб» і «У полі» М. Савіцкага, аўталітаграфія «У садзе», карціна «Лікбез» В. Сумарава.

Выстаўка была цікавай і захапляючай.

Аб гэтым красамоўна гавораць шматлікія запісы суайчыннікаў і замежных гасцей, зробленыя ў кнізе водгукаў.

Вось некаторыя з іх:

«Дзякуй за радасць!» (Група з Махачкалы).

«Гонар і пашана Вам, выдатныя савецкія мастакі» (С. Дзімітрава. Сафія — Балгарыя).

«Выстаўка пацвярджае веліч і перамогу непарушнай дружбы братніх рэспублік. Такое мастацтва — вечнае!» (Студэнты-уральцы).

«З усіх карцін, самае моцнае ўражанне зрабіла на мяне карціна М. Савіцкага «Хлеб». Яна глыбокая па свайму ўнутранаму зместу, яна высокаэмацыянальная. Якая сіла любві да людзей, да іх працы, да іх шчасця і дабрабыту заключаны ў ёй» (Ларын С. К.).

Выстаўку «Зямля і людзі» за месяц наведала больш 30 тысяч чалавек.

**Вал. БЕЛЯКОЎ.**

Масква.

Валянцін МЫСЛІВЕЦ

НАРЫС



# СТАНАЎЛЕННЕ

**У гэтым нарысе мне хацелася расказаць пра лепшых людзей гомельскага завода «Цэнтраліт», пра тыя вырашаныя і нявырашаныя задачы, якія стаяць перад калектывам. Я пабываў ва ўсіх асноўных цэхах новага для рэспублікі прадпрыемства, азнаёміўся з вытворчымі працэсамі, назіраў за працай рабочых...**

**З прыемнасцю ўспамінаю сустрэчы з энергічным, валявым парторгам «Цэнтраліта» Мікалаем Антонавічам Паўлоўскім, з чалавекам цікавага лёсу, галоўным энергетыкам завода Юрыем Аляксеевічам Каспраліным, на долю якога выпала шмат нялёгкіх жыццёвых выпрабаванняў, з начальнікам заводскага бюро рацыяналізатараў і вынаходнікаў Іванам Пятровічам Костачкам, які разам з іншымі распрацаваў і ўкараняе ў вытворчасць новыя фармовачныя сумесі.**

## 1. ФАРМОЎКА

Цэх фармоўкі і заліўкі. Як скрозь на заводах — з цэглы і бетону, апаясаны з усіх бакоў вялікімі, адно пры адным, сталістасінімі ад пылу вокнамі. Толькі вельмі прасторны і прыгожы, як кожны новы будынак.

У цэху таксама звыклы парадак: апокі, мадэлі, шпянёвыя скрынкі ярусамі абступаюць праходы, дымнавата, пахне акалінай. Гэтым, можна сказаць, і вычэрпваецца падабенства ліцейкі «Цэнтраліта» на іншыя аднародныя вытворчасці.

Першае, што кідаецца ў вочы, уражвае, радуе, дык гэта механізацыя, канвееры: верхні — стужкі транспарцёраў, трубы; ніжні — рэйкі ў безлічы канфігурацый і малюнкаў. Магутныя маставыя краны на вышыні служаць усяго толькі для падачы металічных цяжкіх апок, буйных і нялёгкіх мадэляў на рабочае месца.

Механізацыя ў руках спецыялістаў. Націскаюць сабе хлопцы на кнопкі — ніякіх фізічных намаганняў, — падвозяць грузы, рэгулююць апокі, фармуюць, адпраўляюць на прасушку, на зборку і заліўку. Такая незалежнасць падабаецца ўсім — сам жа сабе чалавек гаспадар. Ад уласнага старання, спрыту, кваліфікацыі і пашана табе, і гонар, і матэрыяльны дабрабыт.

Гадзіну-другую ходзіш па цэху, азіраешся наўкола, услухоўваешся — ніяк не ўгледзець і не пачуць у рабоце пнеўматычных трамбовак, без якіх яшчэ зусім нядаўна ліцейка проста не ўяўлялася. Зніклі яны з цэха і — добра: не шкодзяць людскому здароўю.

Шчуплы, невысокага росту, гадоў трыццаці начальнік ліцейнага цэха Анатоль Мікалаевіч Мухін, з якім мы ідзём, сваім выглядам як бы падказвае: прыгледзьцеся да нашых людзей, бачыце, якія юныя твары, якая маладая змена — камсамольскі ўзрост! І ўсё ж позірк свой ён затрымлівае на шыракаплечым, стройным чалавеку ў камбінезоне з пільнымі ясна-блакітнымі вачыма.

— Сіроцін Канстанцін Пятровіч, — гаворыць спакойна, як заўсёды і з усімі, разважлівы начальнік ліцейнага цэха. — Больш пятнаццаці гадоў працуе фармоўшчыкам.

— Малады ж надта...

— А тут усе цяпер маладыя, — ніколькі не ўсміхаючыся, з сур'ёзным выразам твару гаворыць Анатоль Мікалаевіч. — Заўважце, новыя сумесі зусім бясшкодныя...

Але я хачу больш пачуць пра Сіроціна... Пра тое, як увайшоў ён у рабочую сям'ю, як узнікла і сталела яго павага да сваёй прафесіі фармоўшчыка... Гэта ж нямала — 15 гадоў аддаць ліцейцы. Складанай, цяжкаватай, не вельмі чысценькай працы.

А калі да ўсяго гэтага дадаць нялёгкае абпаленае вайною дзяцінства...

І вось я чую цікавую рабочую біяграфію.

...У Хадоры і Пятра Сіроціных, як кажуць, ладная была сямейка: дзесяць дзяцей. Роўных ім у Дуброўцы, што на Магілёўшчыне, не было. Маці, пакуль падняліся першыя, усё была пры доме і пры доме.

Накарміць, прычасаць, абмыць кожнага... Дні ляцяць незаўважна. І работы яе, быццам, не відаць, а занятая з галавою.

Бацька, як большасць сельскіх працаўнікоў, на ўсе рукі майстар: і жнец, і касец, і на дудачцы іграц. Але меў і свой злюблены, пастаянны занятак — сталярнічаў. Годны быў Пётр Сіроцін і да вайсковай службы. Сыну Косцю споўнілася якраз два гадкі, а назаўтра пайшоў бацька на фінскую. З таго часу малы нічога не запомніў, адно — маці часта адлучалася з дому — хадзіла ў калгас на работу.

Надышла Айчынная, зноў Пётр Сіроцін у першы ж дзень вайны ў арміі. Пабачыў слёз, крыві, гора. Сам зазнаў пакуты, боль.

Доўгачаканай была Перамога. Прыйшоў бацька з вайны... Косця добра запомніў, як не злазіў з яго моцных пяшчотных рук. Неўзабаве яшчэ адна падзея: Хадоры прысвоілі званне «Маці-гераіня». Радасны настрой панаваў у сям'і Сіроціных у тыя дні.

А франтавік Пятрок то старанлівы быў гаспадар: як пачнецца лета, дык да позняй восені не выпускае з рук сякеру. На калгаснай сядзібе, бывала, абчэсвае з мужчынамі дубовае калоддзе на шулы ў канюшню, кароўнік, свінарнік — нічога ж не ўцалела з вайны. А надвячоркам — сякеру на плячук — трухае ў Дуброўку, памагаць спаленаму канцу вёскі абжывацца, ладаваць свой куток. Але ж заробкі вядомыя былі адразу пасля вайны... Таму дзецям, як адрасталі крыху ад зямлі, самім даводзілася пасабляць маці па гаспадарцы і нават рабіць пасільную працу, здабываць сабе хлеб. Летам на шчаўі жылі, на іншай зелянiне...

У вольныя ад работы і школы часіны, што часцей выпадалі на зімовыя, асабліва віхурна-завейныя ці надта марозныя дні любіў Косця чытаць кнігі. Больш за ўсё, канечне, пра вайну.

Але ніколі, як кажуць, нават не сніў Канстанцін Сіроцін, што давядзецца быць так блізка каля легендарнага Краснадона, дзе змагаліся мужныя маладагвардзейцы, што жыццёвыя шляхі-дарогі завядуць яго ў прамысловы Данбас.

Прачулі хлопцы - аднакласнікі пасля заканчэння дзесяцігодкі: у Ясінавоцку адкрываецца тэхнічнае вучылішча ліцейшчыкаў, параілі Косцю разам у дарогу збірацца, шукаць лёсу...

У Ясінавоцку іх ужо чакалі. На станцыю прыехалі дырэктар мясцовага гарадскога завода, на якім яны потым праходзілі практыку і засталіся працаваць, адміністрацыя вучылішча, выкладчыкі, майстры. Не абяцалі нябеснай манны, лёгкага жыцця. Пасялілі ў інтэрнат. Выдалі спецадзенне і форму. Замацавалі за сталоўкай. Праз дзень хадзілі на завод, падручнымі да вопытных спецыялістаў. Косцю доўга нецярпелася адчуць, калі ж стане цяжка?

Цікавіліся навучэнцы больш за ўсё практычнымі заняткамі. Паднесці драўляныя мадэлі ці апокі — сілы стае ў кожнага. Шуфлем засыпаць па месцу фармовачную зямлю — таксама не вельмі стомішся, бо рыхлая яна, чорная, як перамешаны торф. Пнеўматычная трамбоўка спачатку, маладому і дужаму, не надта ўрывала рукі, хоць начамі, пакуль Косця прывык, ён прахопліваўся, доўга не мог заснуць, зноў перажываючы напружаны працоўны дзень, прыгадваючы свае і чужыя пралікі. У цэху назіраў Сіроцін, што хлопцы не заўсёды карыстаюцца чарцяжамі з тэхналагічнай распрацоўкай, таму шмат адлівак ідзе ў брак. Сам жа праглядаў скрэмзаныя ўдоўж і ўпоперак рознакаляровымі алоўкамі ватманскія лісты, але нічога не разумеў, хоць на класных занятках не раз ужо тлумачылі тэхналагічную карту. Цвёрда рашыў асвоіць чарцяжы. Ён, пасля дзесяцігодкі, не павінен раўняцца на тых, хто хоць сабе і з вялікім працоўным стажам, але ў каго не вельмі да вучобы сэрца ляжыць.

З першага дня самастойнай работы ўразумеў Косця, што мадэльшчыкі — першапраходцы. Тое, што канструктары ўявілі разумова, абстрактна, яны ўвасаб-

---

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ



У Брэсце адкрыта выстаўка-конкурс работ народных умельцаў, прысвечаная 50-годдзю СССР.

На здымку: работы памочніка машыніста цеплавоза Юрыя Чэрнева (Брэст).

Фота В. ГЕРМАНА (БЕЛТА).

---

# ВЯСЁЛКА... А ЦІ ЎСІМІ КОЛЕРАМІ?

Мінулай зімой на Міншчыне, таксама як і ў іншых абласцях рэспублікі, адбываўся агляд-конкурс агітацыйна - мастацкіх брыгад, якія працуюць пры гарадскіх і сельскіх дамах культуры, пры клубах. Толькі ў занальных выступленнях было выяўлена каля 200 калектываў—хаця, праўда, мастацкі ўзровень іх праграмы, ідэйны змест яе і агітацыйна - прапагандысцкая якасць неаднолькавыя.

Званне лаўрэата атрымаў агітацыйна - мастацкі тэатр «Полымя», які створаны пры Стаўбцоўскім раённым доме культуры. Нядрэнна выступілі і калектывы іншых раёнаў: са Смалявіч, Мядзельшчыны, Валожына... Ва ўсім гэтым шматгалоссі не чуваць было толькі слова случчан. А гэта, як не дзіўна і не парадаксальна, той раён, дзе на сяле ёсць не толькі клубы, але і шмат дамоў культуры, дзе шырокавядомы Казловіцкі народны хор...

Не выступіла агітбрыгада ў Мінску, не праводзіўся агляд і ў раёне. Зацішнасць панавала не адзін месяц: не працавалі гурткі мастацкай самадзейнасці, маўчаў народны тэатр, бяздзейнічаў гарадскі Дом культуры. Нарэшце ў гарадскім і раённых аддзелах спахапіліся, замахалі, як кажуць, рукамі.

У тэрміновым парадку прынялі меры. Сяго-таго папрасілі падшукаць іншую работу, некаторым напомнілі на неабходнасць выконваць службовыя абавязкі. Здавалася, «камень» быў скрануты.

Мінула некалькі месяцаў. У Доме культуры не толькі новы дырэктар, але і метадыст. Аднавілі сваю работу ранейшыя гурткі мастацкай самадзейнасці, аб'яўлены запіс ў новыя. Тое-сёе робіцца і ў тэатры... Што датычыць агітацыйна - масавай брыгады, з-за якой разгарэўся ўвесь сыр-бор, то і тут нібыта адбыўся зрух.

У Слуцку былі створаны аж дзве агітмастацкія брыгады. Першая, якой далі прыгожую беларускую назву «Вясёлка», дала за час жніва каля 30 выступленняў. Але якія гэта выступленні?

Калейдаскоп няхай сабе і нядрэнных мастацкіх нумароў, якія не маюць агульнай тэматычнай думкі, назваць праграмай агітмастацкай брыгады нельга. Да таго ж, як паказвае вопыт сталых калектываў, цяжкасці агітбрыгадцаў узнікалі перш за ўсё з-за таго, што нярэдка не маглі падабраць добрага кіраўніка. Хто кіруе агітбрыгадай у Слуцку?

Цяперашні дырэктар гарадскога Дома культуры Вячаслаў Сяргеевіч Тарасевіч на гэтай пасадзе нядаўна. Ён выпускнік Маладзечанскага музычнага вучылішча. За справу ўзяўся горача. Члены самой брыгады шмат гаварылі пра дырэктара добрага. Але дзіўна, што пра агітбрыгаду ад яго нельга пачуць ні слова. Ён адсылае нас да кіраўніка, «які, маўляў, вам усё раскажа». У пакоі, ля якога спыніліся, ідзе рэпетыцыя. Побач з кіраўніком брыгады, метадыстам Дома культуры Міхаілам Арловым інструктар Алег Зайцаў... Мы разгаварыліся. Міхаіл добры субяседнік і, галоўнае (а гэта адчуваеш адразу), умее працаваць па-сапраўднаму.

Раней жыў у Чавусах,

ляюць у дрэве, а то і метале, калі дэталь серыйная.

Шмат увагі аддаваў Косця Сіроцін сваёй рабоце. Ажно бухгалтарка Волечка, што неўзабаве стала яго жонкай, іншы раз пускала ў яго бок жарцікі:

— У тваіх руках, Косця, і метал праходзіў бы старэнне...

— Мне ў кожнай справе, Оля, трэба дайсці да тонкасці...

— Марудзіш ты, Косцік... Другія шпарчэй робяць!

Скажа каханка і пойдзе.

Паглядзіць ёй услед Косця, уздыхне з дакорам: нічога ж ты, Оля, не разумееш у нашай справе... Тут трэба найвышэйшая патрабавальнасць да сябе, пільнасць да тэхналогіі, канструктыўных асаблівасцей будучай дэталі. Фармоўшчык не проста табе: насыпай болей, трамбуй шчыльней. Ён, як усякі спецыяліст, павінен быць тэхнічна адукаваным, гатовым да ўсякіх капрызаў вытворчасці, якія толькі невукам, слабым людзям здаюцца непапраўнымі дэфектамі.

Нарэшце, як бы зусім нечакана, Сіроціна прызначылі майстрам фармовачнага ўчастка, пачалі называць Канстанцінам Пятровічам. Родная жонка не адразу паверыла: ты ж, маўляў, звычайны фармоўшчык... Навошта браць на свае плечы столькі?

— Адгаворваўся, што не спраўлюся, — усміхаўся той. — А начальнік цэха адно: ты, Сіроцін, пацягнеш змену.

— А ці зможаш? — не супакойвалася жонка. — Яшчэ папросяць з пасады... Сорамна людзей будзе, Косця.

— Пастараюся, Оля. Пойдзе справа — буду майстрам. А калі не — мой гэта хлеб, зноў папрашуся ў фармоўшчыкі. Які ж сорам быць самім сабою?

Праходзілі гады. Падрастала дачушка Сіроціных Галя, падаваў голас з калыскі сынок Сяргей. І заробкі былі добрыя, і кватэра раскошная, і многа сяброў у Ясінавоцку, а заныла з нечага раптам душа Косці па дому, да болю ў сэрцы захацелася ў Беларусь.

Вольга заўважыла, што муж стаў нейкім неспакойным, задуменным, але не здагадвалася, чаму. Думала, што гэта часова, можа якія непрыемнасці па працы.

А Косця — прачуў пра завод «Цэнтраліт», быў у адпачынку, прыпыніўся ў Гомелі. Да дырэктара новага завода завітаў. Так вось і так — хачу да вас на работу. Спецыяліст пятага разрада. Разумею чарцяжы. Быў майстрам. Кватэра там...

Дырэктар на момант разгубіўся, не ведаў, што ж адказаць чалавеку. Такія спецыялісты трэба яму да зарэзу. Але ж, пэўна, захоча кватэру адразу. Ды пасаду, можа, запатрабуе. Чаго ж будзе ездзіць Сіроцін з месца на месца без ніякай выгады?

— Ведаеце, — не хітраваў, прама выкладваў свае ўмовы дырэктар «Цэнтраліта». — Фармоўшчыкі нам патрэбны. Але пасады майстроў заняты... І кватэру атрымаеце не раней, як праз паўтара-два гады. Згода?

— Што ж, пажывем на прыватнай... Жонку я ўгавару.

Летам 1970 года пераехалі Сіроціны ў Гомель. Косця стаў фармоўшчыкам у цэху буйнага ліцця. Вольгу прызначылі аператарам на ўчастку прыгатавання сумесей.

Чалавек бывалы, вопытны, Косця ў першыя дні шмат новага адкрыў для сябе на «Цэнтраліце». Уразіла яго сістэма канвеераў, больш прадуманае, любае воку і сэрцу размяшчэнне механізмаў і прыстасаванняў.

Працаваць жа першыя месяцы было нялёгка. На вачах у Сіроціна выпраўляліся пралікі праектных арганізацый. Колькі пакутвалі фармоўшчыкі з устаноўкай для прыгатавання абліцовачных самацвярдзеючых сумесей! І тое перараблялі, і іншае, а прадукцыйнасць машын не ўзнімалася вышэй трох тон сумесі ў гадзіну — давала толькі адну трэць планавага, не магла забяспечыць цэх. Дык Косця Сіроцін прапанаваў адступіцца ад новаўвядзення, перайсці да ліцця ў сухіх формах. І — не блага, адразу зрушыліся справы.

Хапала і іншых непаладак. Ды людзі не пасавалі перад цяжкасцямі, выпрабоўвалі дзесяткі новых варыянтаў, ішлі ўперад. Так у цэху быў заменены новы кантавацель на лініі фармоўкі буйнага ліцця, была перароблена сушылка, шпянёвая лінія на вадкіх самацвярдзеючых сумесях. Сёння ўсё гэта — пройдзены этап. Але прыемна і радасна ўсведамляць, што і твае прапановы ўкараняюцца ў вытворчасць, даюць плён.

Замяняюцца новымі, больш дасканалымі машынамі і прыстасаваннямі старыя, даўнія прыёмы і метады ручной працы. У многім змяняецца, расце, гартуецца чалавек на вытворчасці, павышаецца яго роля рабочага ў жыцці грамадства. Прыклад таму — цікавы лёс, самаадданая праца Канстанціна Пятровіча Сіроціна.

**Працяг у наступным нумары.**

цяпер пераехаў у Слуцк. Работа яму падабаецца, любіць Міхаіл сваю прафесію, асабліва хвалюецца за агітбрыгаду. Абласны агляд аказаўся горкім урокам. Вось і пачалі ствараць невялічкі калектыў. Спачатку пастаяннымі артыстамі сталі работнікі органаў культуры, потым прыйшлі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці з заводаў, фабрык і арганізацый горада. Пакрысе калектыў згуртаваўся. Цяпер у ім 18 чалавек. Аднак лічба гэтая прыблізная. Амаль кожны дзень склад удзельнікаў мяняецца. Члены брыгады працуюць на розных прадпрыемствах. Здараецца, што ў дзень выступлення ў рабочага іншая змена, і ён, вядома, выступаць не можа. Частка нумароў механічна выпадае. Цэласнага, мэтанакіраванага выступлення не адбываецца.

Ніхто не патрабуе рабіць нейкія паблажкі для самадзейных артыстаў. Але хіба нельга кіраўнікам таго прадпрыемства, дзе яны працуюць, паклапаціцца, каб гэтыя два-тры чалавекі працавалі заўсёды ў адну і тую ж змену? На пачатку так і рабілася, але потым засталіся адны абяцанні. На жаль, вырашэнне гэтага пытання не ўзята пад належны кантроль. Па-ранейшаму пры выездзе ў гаспадаркі раёна частка самадзейных артыстаў адсутнічае. Да таго ж, падводзіць рэпертуар.

Прасочым за яго зместам. Гэта — «Алёша», песні з кінафільма «Дзеці капітана Гранта», нумары на калгасныя тэмы. У праграме ў асноўным — «хадавыя» песні. Яны, вядома, маюць поспех у гледачоў, але страчваецца самае важнае: праграма брыгады падмяняецца звычайным канцэртам. Прыкра і тое, што зусім мала нумароў сучасных, нацыянальных.

Але ёсць у калектыве ўжо і ўдачы, і свае, цікавыя знаходкі. Часта па прыездзе ў тую ці іншую гаспадарку артысты даведваліся аб прозвішчах перадавікоў, а таксама гультаёў і адразу на мясцовым матэрыяле складалі гумарыстычныя і сатырычныя прыпеўкі. Іх з задавальненнем успрымалі гледачы.

Адначасова з агітбрыгадай працавала перасоўная бібліятэчка, дзе можна было пачытаць свежыя газеты і часопісы. Папярэдне ў гаспадарку выязджаў кіраўнік аператыўнага атрада міліцыі Анатоль Сомаў і рабіў здымкі для спецыяльнай вітрыны. Чыталіся таксама лекцыі і даклады.

Радуе творчае гарэнне кіраўніка «Вясёлкі» Сяргея Арлова, засмучае пасіўнасць тых, хто павінен прыйсці на дапамогу брыгадзе. У першую чаргу гэта датычыцца райкома камсамола. Члены агітбрыгады справядліва выказалі шмат папрокаў на адрас райкомаўцаў, якія больш гавораць, чым дапамагаюць. А менавіта камсамол павінен узяць пад свой кантроль дзейнасць гэтага калектыву, дапамагчы яму.

Агітбрыгада «Вясёлка» працуе пры гарадскім Доме культуры. Між іншым, у горадзе ёсць яшчэ некалькі калектываў, якія прэтэндуюць на званне агітацыйна - мастацкай брыгады, але ім, бадай, яшчэ ў большай ступені ўласцівы яе недахопы і праблемы. Некаторыя ўдзельнікі калектыву аўтазавода, фабрыкі мастацкіх вырабаў перайшлі ў агульнагарадскую брыгаду.

Магчыма, гарадскому адзелу культуры сумесна з раённым трэба наладзіць сістэматычныя заняткі з кіраўнікамі гэтых калектываў.

А пакуль што на Случчыне адна агітмастацкая брыгада «Вясёлка» адпавядае сваёй назве. Невялікі, маляўніча аформлены аўтобус — часты госць сярод мясцовых хлебаробаў. Члены гэтага калектыву ўжо рыхтуюць праграму да паўвекавога юбілею Краіны Саветаў. Пакуль што няма ў яе назвы. Але галоўнае не гэта. Важна, што калектыў шукае дарогу да гледача.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**спец. карэспандэнт газеты «Літаратура і мастацтва».**

## Паэтычная паверка

### Марына БАРСТОК



●

*В. П.*

З чым параўнаць святло тваіх вачэй:
Ці з нашым сінім васільком у жыце,
Ці з вечаровай зоркай у блакіце,
Што ў цемры разгараецца ярчэй...
З чым параўнаць святло тваіх вачэй?

З сярэбраным адлівам на азёрах
Ля Полацка, Браслава ці ў Міёрах,
Дзе рэха адгукаецца званчэй...
З чым параўнаць святло тваіх вачэй?

З высокімі — у квецені — ільнамі,
З палескімі густымі туманамі,
Што тым гусцей, чым дзень быў гарачэй...
З чым параўнаць святло тваіх вачэй?

### МНЕ ЖОЎТЫ ЛІСТ...

Мне жоўты ліст аб восені напомніў.
Срабрысты іней выспеў на траве.
У садзе ціха-ціха, і шпакоўні
Сумуюць, што ніхто ў іх не жыве.

Ружовіцца рабіна-чараўніца:
У сонца многа чырвані ўзяла.
З лясоў перасяляюцца сініцы
Да чалавека, да яго жытла.

Крык жураўліны ў сінім небе тоне,
Бяроз не гасне белае святло...
Сняжок гадоў зацерушыў мне скроні,
Маршчыны аплялі маё чало.

### ЧАЛАВЕК

Чалавек — невычэрпная рэчка,
Пачынае ён шлях з малога,
Ад утульнай калыскі-гняздзечка,
Потым—шыр перад ім і дарога.
Чалавек — галінастае дрэва,
Што ў зямлю ўрасло каранямі.
Яго гушкаюць буры павевы,
Яго хвошча жыццё перунамі.

### ШКАДА, ШКАДА...

Шкада, шкада развітвацца з зямлёю.
Хвіліна — і навекі немата.
Я не ўяўляю: цемень нада мною,
І гліны пласт, і з каменя пліта.
А што далей? Не варта дбаць аб гэтым!
Жыццё — рака без меж і берагоў.
Нябёсы будуць. Сонца. Зімы. Леты.
Пушысты снег і музыка вятроў.

●

Мой сусед, крапак чырванашчокі,
Што прыйшоў на свет куды пазней,
Прыпыніў свае мажныя крокі,
Паглядзеў з дакорам на мяне:
— Ў Вашых вершах элегічнасць тону,
Жоўталісце, ніцая вярба.
Час адліву — вечар і сутонне,
Поры года — восень і журба...
Што сказаць вясёламу суседу?
Ён пазнаў камфорт і дабрыню,
Ён сваёй бяды яшчэ не зведаў,
Ад чужой — паспеў набыць браню.
— Я гляджу нязводна ў тыя далі
(І пагляд адвесці не магу),
Дзе сябры-равеснікі ўміралі
Ў непагоду, холад і смугу.
Неадступны ад мяне і сёння
Восенню, зімой —у час любы—
Матчыных вачэй бяздонне,
Невычэрпнасць смутку і журбы.

# КОНКУРС ПРАДОЎЖАНЫ

*Міністэрства ўнутраных спраў БССР разам з Саюзам пісьменнікаў БССР і Саюзам журналістаў БССР у 1972 г. праводзяць конкурс на лепшы твор, прысвечаны барацьбе за бяспеку руху.*

*На конкурс паступіла нямала рукапісаў. З мэтай прыцягнення большага кола аўтараў для адлюстравання жыцця і працы людзей на аўтатранспарце, а таксама дзейнасці Дзяржаўтаінспекцыі, грамадскіх аўтаінспектараў вырашана конкурс «За бяспеку ў дарозе» прадоўжыць да 1 мая 1973 года.*

*Нагадваем умовы конкурсу.*

*На конкурс прымаюцца апавяданні і нарысы, вершы і тэксты песень з музыкай, фельетоны, плакаты з подпісамі, у якіх ставяцца пытанні ўзаемаадносін пешахода і вадзіцеля на вуліцах і дарогах, узнімаюцца надзённыя праблемы бяспекі руху, паказваецца вялікая праца работнікаў Дзяржаўтаінспекцыі, грамадскіх аўтаінспектараў, лепшых вадзіцеляў.*

*Конкурс адкрыты, рукапісы на беларускай або рускай мовах у 2-х экземплярах прысылаюцца з пametкай «На конкурс» на адрас: г. Мінск, вул. Энгельса, 9, журы конкурсу «За бяспеку ў дарозе».*

**Журы конкурсу прысуджае прэміі:**

**За лепшае апавяданне — адна першая прэмія—250 рублёў, дзве другія — па 150 рублёў, дзве трэція — па 100 рублёў.**

**За лепшы нарыс — адна першая прэмія—150 рублёў, дзве другія— па 100 рублёў, дзве трэція — па 75 рублёў.**

**За лепшы фельетон — адна першая прэмія—100 рублёў, дзве другія—па 75 рублёў, дзве трэція — па 50 рублёў.**

**За лепшы верш—адна першая прэмія — 100 рублёў, дзве другія — па 75 рублёў, дзве трэція — па 50 рублёў.**

**За песню (тэкст і музыку) — адна першая прэмія—200 рублёў, дзве другія—па 150 рублёў, дзве трэція —па 100 рублёў.**

**За плакат з подпісам—адна першая прэмія — 200 рублёў, дзве другія — па 150 рублёў, дзве трэція—па 100 рублёў.**

**МІНІСТЭРСТВА УНУТРАНЫХ СПРАЎ БССР**
**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**
**САЮЗ ЖУРНАЛІСТАЎ БССР**

**Саюз пісьменнікаў БССР і рэдакцыя часопіса «Бярозка» выказваюць глыбокае спачуванне супрацоўніку рэдакцыі, паэту Міколу Чарняўскаму з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці бацькі.**

Ульмас УМАРБЕКАЎ

# СТРЭЛЬБА ЦЁТКІ

АПАВЯДАННЕ

САПРАЎДЫ, вось дык гісторыя атрымалася! Стары, паважаны чалавек, які нават міма турмы ніколі не хадзіў, і раптам сядзіць разам з махлярамі і дробнымі зладзюжнікамі — асуджаны на тры гады. Два пастаяльцы раённай турмы, Сашка і Франт-Туляган, якія ўжо добра азнаёміліся з крымінальным кодэксам, паспрабавалі растлумачыць старому, чаму, маўляў, суд мае падставу і чаго ён, стары, не разумее, але ніякага толку не дабіліся. Стары ніяк не згаджаўся з іх тлумачэннем, хоць і быў прызнаны вінаватым у смерці чалавека.

Сваякі і знаёмыя не забываюцца на старога Сулеймана, прыносяць яму клункі з ляпёшкамі і каструлі з пловам. Але турма не чайхана — нічога не лезе ў горла... Сам старшыня калгаса двойчы прыязджаў да старога, а пра яго старую ўжо і казаць няма чаго — ходзіць ля варот туды-сюды, нібы тая курыца, што не паспела ў час патрапіць у куратнік. І хто б ні прыйшоў да Сулеймана — ці то старшыня, ці то старая, сваякі ці проста знаёмы — стары ўсіх сустракае са слязьмі на вачах; яго пачынаюць суцяшаць, але суцешыць ніяк не могуць. Няшчасце абрынулася на ягоную галаву такое страшнае і гэтак нечакана, што ніякім словам ужо тут не паможаш...

А ўсё пачалося так добра! Стары Сулейман-ата зусім нядаўна пайшоў на пенсію. І паколькі ўсё сваё жыццё аддаў працы, то цяпер і не ведаў, куды падзець сябе, і дужа сумаваў без справы. У руках ён яшчэ адчуваў сілу, і ногі трымалі някблага, ды і вочы пакуль што адрознівалі рыс ад курмаку. Здаралася, праўда, часам ныла паясніца, аднак жа ад гэтага яшчэ ніхто не паміраў... Пабаліць-пабаліць і пройдзе, асабліва, калі ў цяпле пасядзіш дзень-другі. І вось як цяпер, з гэткім здароўем будзеш лынды біць? Праўда, удзень стары корпаўся троху ў сябе на бахчы, а па вечарах звычайна ішоў у чайхану, тую, што ў зялёным гаёчку, — калгас яе спецыяльна для старых пабудаваў. Ды ўсё роўна адчуваў сябе Сулейман-ата адзінокім, нікому не патрэбным чалавекам.

У чайхане, сярод такіх жа, як і сам пенсіянераў, ён на нейкі час забываўся на сваё бяздзейнае становішча, але потым змрочныя думкі зноў апаноўвалі ягоную душу, усё страшэнна надакучыла, і ён гатовы быў без дай прычыны кінуцца ў спрэчкі з першым стрэчным.

Гаспадарыў у чайхане бязногі Гулам-ака, былы франтавік. Здавалася б, калі ёсць загадчык, павінны быць і падначаленыя. Але ў бязногага чайханшчыка іх не было і ўпраўляцца з усім яму аднаму было даволі цяжкавата. Таму ў чайхану па чарзе прыходзілі пасля школы яго ўнукі, каб памагчы дзеду. Відаць, дзеля іх і павесіў Гулам-ака ў чайхане аб'яву: «Распіваць спіртныя напіткі забаронена». Крыху ніжэй стаяў подпіс: «Загадчык чайханы Гулам Карабаеў». Раней Сулейман-ата не звяртаў на аб'яву ўвагі, а сёння ўзлаваўся: «І што гэта за жыццё такое пайшло — выпіць чаркі спакойна не даюць! І загадчык яшчэ нейкі бязногі...».

— Эй ты, кульгавы! — крыкнуў ён чайханшчыку. — Раней ты на вары рукі грэў, а цяпер і на заварцы, а?

Гулам-ака разумеў, чаго нервуецца стары і не знаходзіць сабе месца, і, вядома, не ўпусціў выпадку пазлаваць яго:

— Такім дзядам шкодна піць моцны чай! Што ні кажы — сэрца пенсійнага ўзросту. Чаго добрага, яшчэ перад старой трэба будзе адказ трымаць!

— Ах ты, кульгавы шайтан! Каб у цябе заўсёды быў гэткі моцны чай, як твой язык!

Гулам-ака зарагатаў і, грукаючы дзеравяшкаю па падлозе, прынёс сябру чайнік свежага чаю.

У чайхане звычайна бывае не дужа шмат наведвальнікаў. Часцей за іншых паяўляюцца тут двое — Халпаранг-ата, той, што касавурыў на левае вока, і Хакімбек-ата. Сулейман заўсёды з радасцю сустракаў іх у парозе: «Не адзін я лынды б'ю», — вітаючы старых, часта думаў ён сам сабе.

Нягледзячы на грозную аб'яву, старыя скідваюцца на пляшку віна і пасылаюць унука Гуламака ў бліжэйшую крамку. Стары Халпаранг — майстар гатаваць плоў, кожны, хто пакаштуе, толькі пальчыкі аблізвае. А пакуль плоў будзе гатавацца ў сваім катле, старыя бавяць час за размовамі — і адкуль толькі словы бяруцца — прыгадваюць пра ўсё і пра ўсіх, а потым яшчэ і песні спяваюць...

Разыходзіліся звычайна познім вечарам, спыняліся на кожным рагу, прыгадваючы дарогу, і доўга развітваліся...

Начамі Сулейман-ата не спаў. Ды і адкуль узяцца таму сну, калі цэлы дзень нічога не робіш? Ён уставаў з пасцелі, выходзіў на вуліцу, прыслухоўваўся да далёкага сабачага брэху і блізкага стракатання конікаў, потым зноў ішоў спаць. І гэтак кожную ноч... «Як быццам вартую каго», — горка ўздыхаў Сулейман.

І вось аднойчы чацвёра старых, бавячы час у чайхане, нават не падазравалі, што менавіта ў гэты дзень адбудзецца нечаканае. А здарылася вось што. Зайшоў у чайхану калгасны садоўнік Мірвасік і звярнуўся да прысутных з такімі словамі:

— Дарагія і паважаныя таварышы, прыйшоў я да вас з вялікаю просьбаю. Хачу, каб хто-небудзь з вас даў згоду часова павартаваць склад. Цётка Марыля цяжка захварэла, у бальніцу вымушаны быў адвезці...

— Пра што тады гаворка, вядома, я згодны павартаваць, — першы падаў голас Халпаранг.

— Глупства ты гаворыш, шаноўны, — абурыўся Хакімбек, — піялы ад чайніка адрозніць не можаш, а хочаш калгасны сад вартаваць. У гэтай справе патрэбна вострае вока, такое, напрыклад, як у мяне...

— Глядзі ты, які шустры знайшоўся, — пакрыўдзіўся Халпаранг. — А хто табе плоў згатаваў, які ты еў і пальчыкі аблізваў, а? Сябры мае, вы чуеце, што ён пляце? Знайшоў сляпога! Бачу я, што ты сам сляпы!

— Я — сляпы? — ажно падхапіўся Хакімбек.

— Так, так, менавіта ты і ёсць сляпы. Мусіць, ужо забыў, як на пахаванні Сарсанбая ў арык плюхнуўся!

— Ну, хопіць вам, хопіць! — пачаў супакойваць сваіх сяброў Сулейман-ата. — Бачу я, што вы абодва нікуды не варты. Я сам буду вартаваць склад!

Хакімбек і Халпаранг здзіўлена паглядзелі адзін на аднаго, гатовыя ўжо заключыць саюз паміж сабою. А Сулейман-ата тым часам гаварыў далей:

— Хто раней за вас пайшоў на пенсію, а? Ага, маўчыцё? Значыць, мне і стрэльбу ў рукі... — Стары тут жа ўстаў, даючы гэтым зразумець, што размова скончана. Мірвасіку ж сказаў:

— Хадзем, сынок, вядзі мяне!

Мірвасік з вінаватым выглядам паглядзеў на няўдачнікаў і падаўся ўслед за Сулейманам з чайханы. Тыя толькі самотнымі вачмі праводзілі пераможцу.

У тую ж ноч стары Сулейман заступіў на працу. Старая прынесла яму кашму, кумган, каб згатаваць чаю, рознай ежы і, адыходзячы, паскардзілася:

— Зняславілі вы мяне. Зусім з глузду з'ехалі. Гэта ж трэба — старую пакідаць адну дома. Усе разумныя людзі па вечарах дома сядзяць...

— Ну добра, добра, старая, памаўчы ўжо. Распусціла язык! Дай вам толькі волю, бабам... Ідзі ты дадому і займайся якой справай! — загадаў Сулейман жонцы.

Калі старая пайшла, наведаць сябра прыйшлі Халпаранг і Хакімбек. Яны з зайздрасцю паглядалі на Сулеймана — той павольна хадзіў па двары ў доўгай світцы, хоць на вуліцы было цёпла, і з важным выглядам трымаў за спіною стрэльбу.

— Ну і спрытна ж ты нас ашукаў, стары д'ябал! — паскардзіўся Халпаранг.

— Сярод белага дня абвёў вакол пальца, — дадаў Хакімбек.

У іх словах было столькі шчырай крыўды, што Сулейман у душы нават паспачуваў ім, праўда, выгляду не падаў.

— Смелыя гарады бяруць! — падмаргнуўшы сябрам, адказаў ён.

— Так, пашанцавала табе, нічога не скажаш, — ціхім голасам згадзіўся Хакімбек. — Ну, а заўтра прыйдзеш?

— Гэта куды?

— У чайхану, вядома! Унук з Андыжана рысу прывёз для плова, лепшы гатунак...

— Нават не ведаю, што і сказаць табе, бек, — Сулейман-ата не мог адным махам парваць са старою звычкаю. — Калі будзе час — прыйду, а не, дык і не чакайце. Самі ведаеце — праца... Не крыўдуйце...

— А я мог бы падзяжурыць замест цябе...

Тут раптам пачулася дзесьці за складам нейкае падазронае шастанне, і Сулейман-ата з крыкам: «Стой, хто там?» кінуўся ў цемру, нават не адказаўшы старому сябру.

— Так, гэта сапраўдны вартаўнік, — сказаў Халпаранг, пазіраючы ўслед Сулейману і крышку радуючыся, што ў Хакімбека нічога не атрымалася з пловам і заменай.

— Але, стараецца...

Старыя моўчкі стаялі на месцы і чакалі, калі вернецца іх сябар. Але таго не было чуваць. Праз колькі часу падаліся дадому.

На наступны дзень Сулейман-ата ў чайхану не прыйшоў. Плоў з андыжанскага рысу елі без яго.

Не прыйшоў Сулейман і праз дзень — не было як марнаваць час на розныя дробязі. Удзень хапала клопату на бахчы, а з надыходам вечара трэба было спяшацца на варту. Дзе там ужо думаць пра чайхану!

Службаю сваёю Сулейман-ата быў задаволены. За плячом стрэльба, у халодную ноч старэчыя косці надзейна саграе цёплы чапан, але самую вялікую радасць прыносіла адчуванне сваёй адказнасці: ведай нашых — на варце стаю!

Ды толькі бяда прыйшла зусім неспадзявана.

З раніцы Сулейман быў у гуморы, жартаваў, смяяўся. Мірвасік расказаў яму, што цётка Марыля з бальніцы паехала адразу да сына і нібыта застанецца там да вясны. Напяваў сабе пад нос вясёлую песеньку, потым падаўся на бахчу, палоў грады, падвязваў да калкоў кусты паміндораў.

Ад работы адарваў яго ўнучак:

— Дзеду, вас Халпаранг-ата кліча. Чакае вас на ферме.

— Што ён там згубіў на ферме, лайдак?

— Не ведаю, дзеду. Толькі сказаў, каб вы як мага хутчэй ішлі да яго.

На двары фермы ўвесь мокры ад поту Сулейман знайшоў свайго сябра. Той з важным выглядам сядзеў на нейкай старой скрыні, падабраўшы пад сябе ногі.

— Ты чаго гэта тут расселся? Відаць, чайхану новую адкрыў, а?

— Хіба не бачыш? — Халпаранг-ата абвёў рукою двор. — Сам старшыня мяне прызначыў!

— Што ж, на бязрыб'і і рак рыба! — Сулейман-ата ўпікнуў прыяцеля, хоць у душы і пазайздросціў: усё ж не ноччу працуе, а на вачах у людзей. А ўголас палічыў патрэбным дадаць:
— Напэўна, старшыня і мятлу даў, а?

Халпаранг-ата зморшчыўся ўвесь, але сварыцца з сябрам не стаў:

— Усё, усё старшыня даў, шчырую праўду кажу табе! І мятлу, і рыдлёўку! Спатрэбіцца табе гной для бахчы, нікога не трэба прасіць. Захочаш арбу, захочаш дзве — калі ласка, самага лепшага... Вось так, любы мой. Гэта табе не ля складу тупаць туды-сюды замест цёткі Марылі! Тут сапраўдная мужчынская работа! Сам бачыш, не сляпы... — і ён падмаргнуў адзіным сваім вокам.

Сапраўды, работа ў цябе цудоўная, — згадзіўся Сулейман-ата, ды толькі будзь асцярожны...— і ён перайшоў на шэпт.

Халпаранг міжвольна схіліўся да яго, стараючыся не прапусціць ніводнага слова.

— Ведаеш што, — гаварыў далей Сулейман, — тут на стайні коні ёсць дужа палахлівыя. Толькі ўгледзяць цябе, кульгавага такога, спужаюцца ды як спляжаць па ўцалелым воку!

Халпаранг-ата зрабіў выгляд, што не пачуў гэтых абразлівых слоў.

— Я паклікаў цябе для таго, каб пачаставаць пловам. З самага лепшага рысу... Мы з табою цяпер людзі рабочыя, не маем часу заседжвацца ў чайхане. Пайшлі да мяне...

Вечарам, як і звычайна, стары Сулейман закінуў стрэльбу за плячо і падаўся вартаваць склад. Калі Мірвасік замкнуў памяшканне на ўсе замкі і пажадаў старому добрае ночы, Сулейман-ата абышоў двор, зазірнуў ва ўсе куткі, потым расклаў агонь і стаў гатаваць у кумгане чай. Было цёпла, ціха і ўтульна. Стары сёрбаў маленькімі глыточкамі чай, сонна глядзеў, як гарыць ламачча, і аб нечым сваім думаў.

Раптам штосьці цяжка ўпала — ці то з даху, ці то з плота. Стары ажно ўздрыгнуў, акінуў вокам двор. Нікога не было відаць. Можа, каты дзе гойсаюць уночы? Ён зноў задрамаў, але яго ізноў разбудзіў незвычайны гук. Толькі цяпер ужо ён здагадаўся, што менавіта яго ўстрывожыла — хтосьці кашлянуў. Сулейман-ата ўсхапіўся на ногі, прыслухаўся. За свірнам хтосьці яшчэ ціха кашлянуў, пачуўся шэпт. Сулейман кінуўся на голас — і аслупянеў: два асілкі, раскідаўшы ля плота дах, выцягвалі з памяшкання склада аўтапакрышкі.

Сулейман-ата памятае толькі, што, здаецца, крыкнуў: «Стой!» і тут жа кінуўся да злодзеяў.

# МАРЫЛІ

Адзін з іх падляцеў да вартаўніка, размахнуўся і з усяе сілы ўдарыў яго кулаком паміж вачэй. Той бразнуўся вобзем і колькі часу праляжаў у непрытомнасці. Калі ж да яго вярнулася памяць, адразу сцягнуў з пляча стрэльбу і слабым голасам крыкнуў:

— Стой, страляць буду!

Адзін са злодзеяў быў заняты справаю — перакідваў цераз плот цяжкую пакрышку, — другі ж, вялізны і страшны, падхапіў на хаду камень і рынуў на Сулеймана. Але ў гэты момант начную цішу разарваў стрэл, — стары не цэлячыся, націснуў на курок. Бандыт схапіўся за жывот, неяк дзіўна прыгнуўся, зрабіў яшчэ два-тры крокі і ўпаў амаль ля самых Сулейманавых ног.

На стрэл адразу збегліся людзі, узняўся шум, крык. Сярод мноства галасоў вартаўнік разабраў толькі словы Мірвасіка:

— Малайчына, ата, мы даўно за імі палявалі, ды толькі ніяк не маглі злавіць!.. Дзякуй вам! Давайце памагу вам устаць, трымайцеся за маё плячо...

— Я, здаецца, пацэліў у яго? — разгублена спытаў Сулейман.

— Так яму і трэба!

Праз паўгадзіны раённая «хуткая дапамога» забрала раненага злодзея. А С‥лейманава старая патрымала соннага ўнука над шматком ваты і потым прыклала гэты шматок да апухлага мужавага вока.

А раніцай людзі валам паваліліі ў хату Сулеймана-ата, нібы на нейкую сямейную ўрачыстасць, горача віншавалі яго і хвалілі за храбрасць.

— Я думаў, — тлумачыў сябру стары Хакімбек, — што ты і вераб'я спалохаешся... А выходзіць, ты сапраўдны герой, адважны джыгіт...

— Так, так, — шматзначна падтрымаў яго Халпаранг-ата,—злодзей—гэта табе не конь, абы куды не ўбрыкне, выбірае месца... Ты ўжо, браце, беражы вока, яно ў цябе адно цэлае і здаровае...

У Сулеймана-ата пачало нервова торгацца падбітае вока, але стары нічога не адказаў сябру.

Прыйшоў старшыня. Ад імя калгаснікаў выказаў падзяку і накінуў на Сулейманавы плечы новы чапан, падарунак за геройскую службу. Потым сказаў, што бандыты, злоўленыя ўчора, ужо тройчы абкрадалі калгасны склад, на дзве тысячы сцягнулі дабра, так што яшчэ раз дзякуй...

Не зважаючы на страшэнны боль у воку, Сулейман-ата радаваўся жыццю. Старая і сябры не ведалі, дзе пасадзіць яго, чым пачаставаць. Адным словам, зрабіўся ён героем дня. А ўвечары прыбег Сулейманаў унучак і прынёс страшную вестку: у бальніцы ад раны сканаў бандыт... Гэтага ўжо ніхто не чакаў. Сам Сулейман усю ноч не сплюшчыў вачэй, кідаўся ў пасцелі, стагнаў. Старая спрабавала супакоіць яго тым, што ад яго, Сулейманавых, пакут нябожчыку ўсё роўна лягчэй не стане, але Сулейман не слухаў яе.

Пасля быў суд. Сулеймана-ата асудзілі былі на пяць гадоў зняволення, але потым, улічваючы ўзрост, скарацілі тэрмін да трох гадоў. Тры гады турмы... Хіба думаў стары Сулейман, што ўсё так павернецца, калі вясёлы і радасны збіраўся на дзяжурства ў той нешчаслівы вечар! Праўду кажуць — бяда прыходзіць, калі яе зусім не чакаеш...

— Ата, пацярпіце крышку, мы гэтага так не пакінем, — супакойваў старога старшыня калгаса. — Калі вам даверылі стрэльбу — павінна ж яна калі-небудзь стрэліць!..

Але Сулейман-ата з вялікага гора не чуў гэтых цёплых слоў. Ды і што сказаў бы ён у адказ, каб пачуў пра тое, што чалавек сапраўды даражэй за ўсё на свеце і што за пакражу не забіваюць. Нічога не зробіш — трэба пацярпець тры гады...

Ён праслухаў усе выступленні ў судзе і ўсё зразумеў. Толькі аднаго не зразумеў: як стала вядома, існуе чатыры катэгорыі вартаўнікоў. Вартаўнікі першых трох катэгорый маюць права страляць, а чацвёртай — не маюць, могуць толькі пужаць стрэльбаю. Сам Сулейман належыў як раз да апошняга класа мірных вартаўнікоў. Але гэтага ён ніяк не мог зразумець. Менавіта гэта і стараліся растлумачыць яму турэмныя старажылы Франт-Туляган і Сашка, але таксама марна.

— Вы, ата, зноў жа самі вінаваты, — казаў Туляган, ён жа Франт, старому Сулейману, — таму і седзіцё разам з намі... Хіба вялікая бяда здарылася б, каб ён узяў колькі пакрышак? Гэта ж не з вашай хаты кралі! Ды і сам злодзей, далібог, нейкі дурань! Трапіў бы ён да нас у рукі, мы з яго чалавека зрабілі б. Яму вось што трэба было: ціхутка падысці да вас, адабраць стрэльбу і, не спяшаючыся, рабіць сваю справу, а потым, на развітанне, перакінуў бы вам стрэльбачку цераз плот. Вось так, бацька, трэба было б рабіць.

— Невук ён, — падтрымаў сябрука Сашка і са свістам плюнуў. — Сам вінаваты! Зрабіў бы ўсё чыста — цяпер толькі б радаваўся жыццю, ды і вы спалі б ціха-мірна. Так што праўда за вамі і не варта кроіць сабе сэрца праз гэтага дурня... Вось пабачыце — адменяць ваш прысуд, успомніце тады мае слова. Можаце верыць нам... Але пачакаць, вядома, давядзецца...

Непрыкметна мінуў месяц, пайшоў другі. Амаль увесь кішлак перабываў у гасцях у старога Сулеймана, і, вядома, часцей за іншых — Халпаранг-ата і Хакімбек-ата. Хадзілі да яго два сябры, хадзілі ды раптам перасталі, нібыта з'ехалі куды. Спачатку Сулейман крыўдаваў, потым занепакоіўся і пацікавіўся ў сваёй старой, ці хоць жывыя і здаровыя яны.

— А што з імі зробіцца, здаровыя, як коні,— адказала злосна старая, яна таксама была ў крыўдзе на сяброў, якія забыліся на яе мужа. — Мусіць, знайшлі сабе нейкую работу ў горадзе, кожны дзень ездзяць туды. Я і думаць не стала б пра іх.

— Я проста так спытаў, — махнуў рукой Сулейман, але на сэрцы ў яго нібы камень ляжаў.

— Старшыня вам прывітанне перадае, кажа, падасць заяву некуды ў высокія інстанцыі, каб вас вызвалілі... Мірвасік таксама ездзіў у горад хадайнічаць...

— Э-э, лепш не гавары мне пра гэтага шалапута, — узлаваўся стары, — праз яго ўсё і здарылася, як быццам не мог каго маладзейшага знайсці!..

За месяц з нечым ніякіх змен да лепшага ў жыцці Сулеймана не адбылося. Ён уставаў раней за ўсіх і гатаваў чай, а потым яшчэ наводзіў парадак у турэмнай прыёмнай.

Яму ўжо стала здавацца, што час спыніўся, і ён заўсёды гатаваў чай і наводзіў парадак у прыёмнай. Але аднойчы, калі чай загатаваўся і ён думаў, што б зрабіць яшчэ, яго выклікаў начальнік:

— Ата, прыйшла папера па вашай справе, віншую вас з вызваленнем!

Сулейман разгублена пазіраў на начальніка і маўчаў:

— Так-так, ата, вы з сённяшняга дня вольны чалавек.

— І я магу ісці?

— Вядома.

Стары пабег у барак, але нічога не ўзяў са сваіх рэчаў, схапіў толькі чапан — той, што падарыў за добрую службу старшыня, і заспяшаўся да прахадной. Там ён прыцішыў крок, каб палаяць вартавога — як вартаўнік вартаўніка, бо той ціха сабе соп пад нос, прысланіўшыся да свае вінтоўкі:

— Эй, соня, прачніся, а то яшчэ часам грымне твая цацка, шалапут!

Калі Сулейман-ата выйшаў на дарогу, ён убачыў у цяню лазовага куста сваіх дружбакоў, і старэчыя слёзы міжвольна набеглі на вочы:

— Хакімбек, Халпаранг!

— А ты, напэўна, думаў, што мы памерлі, хіба не так? — усміхнуўся Хакімбек.

— Што гэта ты раскрычаўся, шаноўны, як ты з такім голасам дадому вернешся, коней напалохаеш, чаго добрага яшчэ і вока пашкодзіць могуць! — прыгадаў старое Халпаранг.

— Як жа гэта вы забыліся на мяне, а? — не змог утрымацца, паскардзіўся Сулейман.

Хакімбек пачаў быў расказваць аб тым, як хадзілі яны па розных інстанцыях, як разам са старшынёй дабіваліся яго, Сулеймана, хутчэйшага вызвалення, але Халпаранг штурхнуў яго локцем у бок і перапыніў:

— Так, сапраўды забыліся, нічога не зробіш, старасць, каб яна спрахла! А з цябе магарыч!

— За што? Кажы хутчэй! — Сулейман ужо не глядзеў у бок турмы, ён чакаў цяпер толькі добрых вестак.

— Стала вядома, што цётка Марыля болей не вернецца сюды — сын не адпускае!

Усе зарагаталі і падаліся дадому. Калі выйшлі на бальшак, Хакімбек заспяваў песню, Халпаранг падтрымаў яго, а затым да іх галасоў далучыўся і тэнарок Сулеймана-ата.

— Чуеш, гэта ж наш дзед, — сказаў Франт-Туляган. — Ён разам з Сашкам муравалі цагляную сцяну, і Франт зверху угледзеў на дарозе Сулеймана.

— Ён сам. Казаў жа яму, што хутка выйдзе на волю. А ён яшчэ сумняваўся, не верыў мне...

І махляры пачалі слухаць песню, якую спявалі старыя дружбакі.

З узбекскай пераклаў Леў САЛАВЕЙ.

# ТАЛЕНТ, ЗАГАРТАВАНЫ КАСТРЫЧНІКАМ

*ДА 70-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Анатоля ВОЛЬНАГА*



У 1935 годзе я разам з А. Вольным быў на працягу двух тыдняў у Доме творчасці ў Пухавічах. У гэтай мясцовасці 2 снежня 1902 года і нарадзіўся пісьменнік.

У дваццатыя гады Вольны быў шырока вядомы як паэт і празаік, як адзін са стваральнікаў літаратурнай арганізацыі «Маладняк». Разам з А. Александровічам яны выдалі ў 1924 годзе паэтычны зборнік «Камсамольская нота», у 1926 годзе ў сааўтарстве з А. Александровічам і А. Дударом А. Вольны напісаў раман «Ваўчаняты». Пасля выдаў два зборнікі фельетонаў, напісаў некалькі драматычных твораў і аповесць «Два».

У сваіх фельетонах, якія падпісваў псеўданімам «Алёша», ён выкрываў цемрашалаў, хабарнікаў, прайдзісветаў і злачынцаў, пісаў фельетоны і на літаратурныя тэмы.

З канца дваццатых гадоў і пачатку трыццатых А. Вольны самастойна і ў сааўтарстве напісаў сцэнарыі, па якіх былі пастаўлены кінафільмы «Хвоі гамоняць», «Атэль «Савой», «У агні народжаная», «Сонечны паход», «Новая Радзіма» і шэраг іншых.

Урадам рэспублікі была высока ацэнена яго творчая праца, яму нададзена была годнасць заслужанага дзеяча мастацтваў БССР. Памёр А. Вольны ў 1937 годзе.

Сёлета я быў у калгасе імя Гастэлы, праходзіў праз вёску Калядзічы і ўбачыў на адным з пагоркаў стары прысадзісты клён са зломанай вяршыняй. Гэта тое дрэва, якое пасадзіў падпольшчык Уладзімір Шумскі, той клён, пад якім калісь і стаяў Анатоль Вольны...

Такіх людзей, як Анатоль Вольны, загартаваў Кастрычнік, яны аддалі свой талент Радзіме. Яны назаўсёды застануцца ў памяці народнай.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ.**

# БЕЛАРУСКІЯ МАСТАКІ — ГОСЦІ ВІЛЬНЮСА

22 лістапада ў Палацы мастацкіх выставак Вільнюса адкрылася выстаўка жывапісу і графікі Савецкай Беларусі, прысвечаная 50-годдзю ўтварэння СССР.

Ансамбль народных інструментаў выканаў святочную мелодыю выдатнага мастака і кампазітара К. Чурлёніса — тую самую мелодыю, якая ў 1906 годзе ўпершыню прагучала перад адкрыццём першай літоўскай прафесійнай выстаўкі выяўленчага мастацтва. Гэтая мелодыя і да сённяшняга дня гучыць на самых урачыстых вернісажах.

Міністр культуры Літвы Л. Шэпеціс высока ацаніў выяўленчае мастацтва беларускіх майстроў, ахарактарызаваў тыя культурныя сувязі, якія існуюць паміж народамі Літвы і Беларусі.

61 жывапісец і 43 графікі Беларусі прапанавалі ўвазе гледачоў 226 твораў, з якіх самай «старой» рабоце 5—6 год, а самай маладой — лічаныя тыдні. Аўтары іх — майстры розных пакаленняў, ад старэйшых, увенчаных лаўрамі вядомасці, І. Ахрэмчыка, Я. Зайцава, К. Касмачова, А. Тычыны да нядаўніх выпускнікоў мастацкіх навучальных устаноў — М. Рыжыкава, У. Пашчасцева, З. Літвінавай, С. Катковай і інш.

На адкрыцці выстаўкі прысутнічаў першы сакратар ЦК Кампартыі Літвы А. Снечкус.

**Б. КРЭПАК.**

# ПАЭЗІІ ЖЫВОЕ СЛОВА

Сустрэча, якая пачалася ў мінулую сераду а сёмай гадзіне вечара ў клубе Саюза пісьменнікаў рэспублікі, крыху незвычайная. І раней тут былі частымі гаворкі аб маладой літаратуры, аб творчасці той змены паэтаў і празаікаў, якія прыйшлі ў яе ў апошнія гады, але члены літаратурных аб'яднанняў горада разам сабраліся ўпершыню. Студэнты і рабочыя, журналісты і настаўнікі — яны групуюцца ў аб'яднаннях пры газетах «Чырвоная змена», «Знамя юности», «Мінская праўда», «Вячэрні Мінск», шматтыражцы «Трактор» і іншых. Некаторыя з іх ужо выдалі альбо падрыхтавалі свае першыя паэтычныя зборнікі, імёны другіх — часта з'яўляюцца ў перыядычным друку, але большасць робіць у літаратуры толькі першыя крокі.

І рэдактар часопіса «Маладосць» Генадзь Бураўкін, які адкрыў сустрэчу і вёў яе, і літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў Анатоль Вярцінскі, які выступіў затым, слушна заўважылі, што амаль усе сённяшнія літаратары прайшлі праз літаратурныя аб'яднанні, і гэты першы творчы вечар-сустрэча пачынаючых паэтаў павінен стаць добрай традыцыяй.

Таварышы па пяру, пісьменнікі, якія прыйшлі на вечар, усе прысутныя з цікавасцю слухалі вершы Наталлі Татур і Людмілы Забалоцкай, Яўгена Гарадніцкага і Ніны Загорскай... Выступалі іншыя маладыя аўтары. У кожнага свая манера пісьма, сваё бачанне свету. Шчырасць, непасрэднасць характэрна для іх лепшых вершаў.

Васіль Вітка, Алесь Ставер, Пятрусь Макаль выказалі свае думкі аб некаторых вершах.

**А. ВІШНЕЎСКІ.**

**АДБЫЎСЯ рэспубліканскі агляд драматургіі і тэатральнага мастацтва, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР. На сталічнай сцэне былі паказаны лепшыя спектаклі мінскіх тэатраў і калектываў з Віцебска, Бабруйска, Магілёва і Гомеля. Беларускае тэатральнае аб'яднанне наладзіла навукова-тэарэтычную канферэнцыю па матэрыялах прагледжаных спектакляў, удзельнікі якой абмеркавалі даклад А. Сабалеўскага пра пастаноўкі п'ес драматургаў братніх народаў СССР на беларускай сцэне.**

**Пра некаторыя з твораў, якія цяпер атрымалі высокую ацэнку грамадскасці, газета «Літаратура і мастацтва» апублікавала артыкулы пасля прэм'ер. Так, спектакль «Чалавек збоку» па п'есе І. Дварэцкага ў Рускім тэатры БССР імя М. Горкага аналізаваў рэцэнзент Алесь Мажэйка (23 чэрвеня г. г.). Пра інсцэніроўку рамана «Снежныя зімы» І. Шамякіна, якую паставіў Беларускі драматычны тэатр імя Я. Коласа, пісаў Барыс Бур'ян (21 ліпеня г. г.). Са словам пра літоўскую казку «Я спяшаюся за летам» В. Пальчынскайтэ на сцэне Рэспубліканскага тэатра юнага гледача імя 50-годдзя камсамола Беларусі на старонках газеты выступаў паэт Сяргей Грахоўскі (13 кастрычніка г. г.). Спектакль Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы «У ноч зацьмення месяца» па драме М. Карыма аналізаваў кандыдат мастацтвазнаўства Анатоль Сабалеўскі (20 кастрычніка г. г.).**

**Сёння газета публікуе водгукі на спектаклі гасцей Мінска. Народная артыстка БССР Таццяна Заранок дзеліцца ўражаннямі ад пастаноўкі інсцэніроўкі кнігі лаўрэата Ленінскай прэміі Ч. Айтматава «Тапалька мая ў чырвонай касынцы» Магілёўскім абласным драматычным тэатрам. Журналіст Дзіна Манаева рэцэнзуе спектакль Магілёўскага тэатра драмы і камедыі (Бабруйск) «Птушкі нашай маладосці» па п'есе малдаўскага драматурга І. Друцэ. У наступным нумары мяркуем надрукаваць артыкул пра спектакль Гомельскага тэатра «Не трывожся, мама!..».**



# СТАНАЎЛЕННЕ ХАРАКТАРУ

ЗРАЗУМЕЛА, да гэтага спектакля можна прад'явіць тыя прэтэнзіі, якія звычайна адрасуюцца інсцэніроўкам прозы наогул. Ад кнігі ўражанне застаецца часцей за ўсё больш яркае за яе сцэнічны варыянт. П'еса, створаная Ю. Асносам па матывах аповесці «Тапалька мая ў чырвонай касынцы», таксама выглядае даволі спрошчаным пераказам арыгінала. Але, калі глядзіш спектакль Магілёўскага тэатра (рэжысёр Ул. Караткевіч), пераконваешся, што калектыў імкнуўся перадаць пафас твора праз вобраз і характар галоўнага героя — Ільяса, і гэта ў значнай меры адпавядае задуме выдатнага сучаснага празаіка.

Спектакль так і пабудаваны рэжысёрам — гэта споведзь маладога чалавека, які прайшоў пэўны этап духоўнага станаўлення.

**Як актрыса, я адчувала і здагадвалася, што выканаўца галоўнай ролі ў спектаклі магіляўчан А. Гаманюк вельмі хваляваўся. Мабыць, сам паказ «Тапалькі маёй...» на сталічнай сцэне, фактычна яшчэ адна прэм'ера ў «чужых сценах», ствараў крыху нервовую атмасферу. Да таго ж Ул. Караткевіч прапанаваў артысту надзвычай складаныя мізансцэны — Ільяс то займае месца за рулём грузавіка, то залазіць на дах кабіны і адтуль саскоквае (вышыня — метраў тры!) і працягвае актыўна спрэчкі з іншымі персанажамі спектакля. Нервовае напружанне плюс фізічнае... І ўсё ж мушу сказаць, што А. Гаманюк стварыў надзвычай пераканаўчы характар. Ён паказвае свайго Ільяса ў руху, у духоўным станаўленні.**

Першая станоўчая якасць акцёра — ён вельмі арганічны. Прынамсі я ні разу не пачула з яго вуснаў фальшывую інтанацыю. Калі яго Ільяс выступаў жартаўніком і так, з усмешкай, заляцаўся да Асель, а потым сам адчуваў, што гэтая горская дзяўчына — тая адзіная, якую ён можа пакахаць усім сэрцам, і ў голасе юнака з'явіліся, мабыць, дзіўнаватыя і для яго самога ноткі, — глядзельная зала назірала за пераменлівым настроем жывога чалавека. І нават сачыў Ільяс за тым, як танцуе Асель пад гукі музыкі з транзістара, нібы «адкрываючы» ў ёй нешта адметнае.

А як тактоўна перадае А. Гаманюк нацыянальны тэмперамент кіргізскага юнака! Не, ён не злоўжывае акцэнтам (дае ледзь прыкметны «ўсходні» рытм мовы), не падкрэслівае знешне, што яго герой — кіргіз. Артыст шукае і знаходзіць тую напоўненасць рэакцый на словы і ўчынкі партнёраў, якія пераконваюць нас, што перад намі — сын сонечнага Цянь-Шаню, часам няўрымслівы, а часцей стрыманы.

**Магчыма, нават залішне стрыманы — А. Гаманюк мог бы, як мы кажам на рэпетыцыях, часцей «даваць выйсце» і паэтычнаму настрою, і выбухам тэмпераменту. Не крыкам, зразумела, а больш шырокім дыяпазонам галасавых фарбаў...**

Гісторыя кахання Ільяса і Асель захапляе хараством і драматызмам у першай частцы спектакля. Другая — слабейшая па драматургічнаму матэрыялу п'есы. Тут Ільяс, перажываючы крах сваёй ідэі (ён прапануе вадзіць праз Цянь-Шань грузавікі з прычэпамі) і губляючы Асель, глушыць гора «чаркай». І артысту празмерна доўга даводзіцца іграць гэты стан персанажа. І яго тэмперамент набывае не зусім натуральнае гучанне: перад намі ўсё ж нецвярозы малады мужчына. Яму верыш, бо і тут А. Гаманюк трымаецца ў рамках «жыццёвага праўдападабенства». Ды затое драматызм унутраных пакут набывае зусім іншую — не ад характару героя — прычыну, даволі выпадковую, стыхійную.

Спектакль ідзе як споведзь героя. Вось ён выйшаў на авансцэну і абвяшчае: маўляў, потым я пайшоў туды і туды і зрабіў тое і тое... А на сцэне тым часам гэтыя падзеі як бы «ажываюць». І партнёрам А. Гаманюка, асабліва ў другой частцы, нічога не застаецца, як «падыгрываць» герою. Напружанне дзеі зніжаецца. Тут нават выканаўца ролі Асель Н. Караткевіч губляе нешта са знойдзенага актрысай раней. Скажам, яе Асель спачатку ўспрымалася па-дзівоснаму супярэчлівай — то рамантычнай натурай, схільнай да музыкі, спеву, танцаў, то зусім практычнай дачкой сваёй даволі патрыярхальнай маці...

А спектакль глядзіцца. Рэжысура знаходзіць арыгінальныя дэкаратыўныя вырашэнні дынамічных эпізодаў (грузавікі у горах), робіць актыўнай «саўдзельніцай» музыку. Жыццёвыя прыгоды Ільяса і Асель з іх партнёрамі цікавяць гледача, бо яны яшчэ і адбываюцца далёка ад нашай Беларусі, маюць пэўны мастацкі акцэнт, пэўны «водар», не так часта «перакладаемыя» з літаратурнай мовы на сцэнічную. Такім чынам, ёсць тут і штосьці ад «экзотыкі». Дзякуй тэатру, што ён не націскае на гэтую «экзатычнасць», што ён праяўляе густ у адлюстраванні нацыянальных асаблівасцей твора.

**Што гэта задача складаная, мы, артысты Брэсцкага тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі, ведаем і па асабістаму вопыту. Нядаўна наш калектыў паказаў «У ноч зацьмення месяца» М. Карыма. Таму нам было надзвычай цікава пазнаёміцца з работай калег з Магілёва. Я пішу не рэцэнзію, таму хай даруюць мне артысты, якіх не называю. Добрыя словы ў адрас А. Гаманюка, які захапіў мяне акцёрскай шчырасцю і праўдай паводзін на сцэне, зразумела, стасуюцца да ўсяго тэатра, бо кожны з нас можа раскрыць сябе толькі ў атмасферы творчага ўзаемаразумення і добразычлівасці. Відаць, такая атмасфера ў Магілёве створана.**

Разам з выканаўцамі поспех падзялілі справядліва мастак М. Волахаў і аўтар музычнага афармлення Э. Катковіч. Праўда, і для іх нязвыклая сцэна ў Мінску была перашкодай для поўнага выяўлення намераў. Але, паўтараю, мы, дзякуючы іх намаганням (на чале з Ул. Караткевічам), яшчэ раз пагарталі старонкі цудоўнай прозы і «пабывалі» там, дзе зззяе блакітам і сонцам Ісык-Куль і зіхаціць снежнымі вяршынямі Цянь-Шань.

**Таццяна ЗАРАНОК,**
**народная артыстка БССР.**

# БУСЛЫ ВЯРТАЮЦЦА...

СПЕКТАКЛЬ пачынаецца трывожнай нотай: хлынула горлам кроў у чалавека, і не могуць яе спыніць. У натоўпе вакол хворага чуваць адчайныя воклічы. Хтосьці вырываецца з натоўпу і бяжыць, бяжыць, каб паспець прынесці гаючай вады: яна ёсць у старой знахаркі. Хтосьці шалёна грукае ў дзверы, б'е нагамі, нарэшце, зрывае дзверы з завесаў.

Старая Руца сядзіць ля ачага, нібы каменная скульптура, і нават галавы не паверне ў яго бок.

«Дай гаючай вады для Паўла, а то памрэ ён!» — кідаецца да яе Андрон Русу.

«Не дам, я яго ненавіджу!» — шыпіць старая і, уцягнуўшы галаву ў сухія плечы, зноў глядзіць на агонь...

Ужо гэтая першая сцэна спектакля бабруйчан «Птушкі нашай маладосці» (рэжысёр-пастаноўшчык У. Шыманскі) раскрывае асноўны канфлікт п'есы Іона Друцэ.

Два чалавекі ненавідзяць адзін аднаго. І справа тут не ў тым, што ў іх процілеглыя характары, а ў розным разуменні жыцця. Прыглядаемся да старой Руцы, ролю якой выконвае актрыса А. Палухіна. Высокая, худая, апранутая ў чорнае, яна нібы зберагае агонь у хаце, агонь, які не саграе ўжо яе. Здаецца, яна акамянела. Але як толькі грукнуць дзверы, як толькі на парозе з'явіцца Андрон Русу (артыст Л. Кучко), старая Руца мяняецца, яе рукі нервова перабіраюць чорны шалік, вяртаюцца да кошыка з травамі... і—зноў яна непахісная.

**(Заўважым, што пэўнае ўражанне празмернай жорсткасці ад такога малюнку вобраза застаецца. Ці варта было рэжысёру падаваць Руцу такой змрочнай? Яна — знахарка. Але ж яна—жанчына, хай сабе і з сэрцам, якое стамілася ў жыццёвай барацьбе...).**

# ГАЎРОШЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ...

*«ГАЎРОШЫ БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ» А. МАХНАЧА У ТЭАТРЫ ЮНАГА ГЛЕДАЧА*

КАБ ДУША назаўсёды свяцілася агнём маральнага хараства, па ёй павінны прайсці адбіткі праўдзівых і велічных падзей... Паэтыка несмяротнасці, палымянасць, роздум без фальшу, данесеныя шчырым майстрам да вачэй нявіннага маленства, пяройдуць у сэрца дзіцяці з сілай самога жыцця.

Алесь Махнач, як і людзі яго пакалення, увабраў у сябе ўражанні гераічных гадоў, але шмат з перажытага і адлюстраванага ў памяці застанецца ў ім часткай асобы, непарушнай і недазволенай для мастацкага паказу на людзях. Гэта запаветнае, нават інтымнае, але яго ўспрыняцце, яго бачанне тых, хто быў дарагім і навек застаўся маладым. Здавалася б, адно скажы пра гэта нешта прыблізна праўдзівае — і яно знікне назаўсёды, або набудзе нейкія новыя, чужыя рысы. Аднак боль робіцца з часам грунтам і поклічам для філасофскага асэнсавання з'явы і цэлага перыяду ў жыцці, асабліва для пісьменніка. І ўдзельнік абароны Брэсцкай крэпасці А. Махнач, сёння аўтар шматлікіх твораў пра вайну, шукае сродкі ўзнаўлення таго свету, у якім жыў з першых хвілін баёў на заходняй граніцы.

Кожнае праўдзівае слова сведкі гістарычных часоў становіцца дакументальным, яно ўзрушвае кожнага, хто помніць тыя дні. Але як данесці яго да чалавека, які не бачыў нічога падобнага, ані блізка не быў ля трагедыі?..

Алесь Махнач, каб расказаць пра перажытае вучням сярэдняга ўзросту, узнаўляе малюнак мірнага вечара 21 чэрвеня ў ваенным гарадку. Сённяшні школьнік натуральна ўваходзіць у атмасферу гульняў, імкненняў да незвычайнага, мараў пра недаступнае. Дзеці хочуць злавіць шпіёна, гуляюць у вайну, ствараюць свет фантазіі, узнёсласці, энергічнасці. Вайна для іх яшчэ як здзяйсненне фантазіі, гульня ў нязвыклае. Але хутка яна становіцца абавязкам, суровай рэчаіснасцю, і тады ўзнікае туга па тым, што засталося ў мінулым, чаго проста не цанілі. І як адзнака дарослацці, словы дачкі афіцэра:

— Хлопчыкі, а мне так хочацца ў «давайну» пагуляць...

**Сказана няшмнога... Але па глыбіні зместу, па важкасці напаўнення гэтыя словы ствараюць мастацкую дэталь вялікага эмацыянальнага гучання. Так сказаць літаральна перад пагрозай смерці мог маленькі чалавек па ўзросце і жыццёвым вопыце, які нешта адкрыў для сябе—і для нас!—нечаканае. Дык і варта было б рэжысуры разгарнуць гэты матыў шырэй, падштурхнуць, можа, і драматурга на развіццё ўдала знойдзенай дэталі. Каб акцэнтаваць на ёй увагу гледача, менавіта тут дарэчы быў бы і музычны эпізод, і пантаміма, і нават праекцыя на кінаэкране... Адным словам, дарэмна тэатр пакінуў яркі сказ толькі момантам, толькі «выбухам»! Не скарыстана шчаслівая магчымасць узбагаціць тэкст і сцэнічны паказ «падлетка на вайне». Яны былі ў тых жа абставінах, што і дарослыя, адчувалі, што не дажылі належнае ім «шчаслівае маленства». Яны пачыналі разумець, што могуць нават не адпомсціць за сваю страту—і таму перад намі трагедыя дзяцей з аднаго гарнізона, водсвет трагедыі народа, сапраўдная філасофія факта і яго мастацкае асэнсаванне.**

Як відаць, гэты матэрыял без лішняе дыдактыкі спрыяе выхаванню дзяцей на прыкладзе гераічнай спадчыны. Блізкасць аўтара да традыцый дзіцячай літаратуры падкрэслена самою назваю драматычнага апавядання А. Махнача — «Гаўрошы Брэсцкай крэпасці». Па гэтым творы Рэспубліканскі тэатр юнага гледача імя 50-годдзя камсамола Беларусі паставіў спектакль.

Рэжысёр Р. Баравік меў волю або ўбачыць дзяцей на прыгранічча такімі, як малявала піянераў даваенная літаратура, ці падобнымі да сённяшніх хлопцаў і дзяўчат з ваеннага гарадка, або проста перанесці класічнага Гаўроша з рамана В. Гюго ў новыя ўмовы. Зразумела, што абраны вобраз мусіў быць да спадобы тым равеснікам маленькага паўстанца, якія запаўняюць залу свайго тэатра на вуліцы Энгельса ў Мінску. Пеця, Лёня, Коля і Нюра Кіжават павінны быць падобныя да гледача і ўсё ж адметныя ад яго, бо яны праходзяць праз драматычныя абставіны і не маюць права на хібы і хістанне.

**Акрамя таго, што спектакль для дзяцей—мастацкая з'ява, ён яшчэ і педагагічнае мерапрыемства. Таму арганізацыя і пераключэнне ўвагі гледа-**

А вось да яе заходзіць удава Арціна. Артыстка Ж. Зарэмба ў гэтай ролі адразу неяк па-трапяткому папросіць паваражыць на мужыка, які прапаў без вестак, нас зноў здзівіць незразумелая перамена ў твары старой: у ім будзе столькі жалю, столькі мудрага разумення душы чалавечай.

«Скажы ты мне, што ашукалі тады твае карты, дарэмна я яго чакаю дваццаць год», — моліць знахарку ўдава. «Прыйдзе, чакай!»— паўтарае адно Руца. Яна пераканана — чалавека нельга пазбавіць надзеі, як нельга адняць у яго любоў да роднай зямлі. Без гэтага ён сэрцам згасне...

Хто ж яна такая, старая Руца? Дарэчы, яе іграе ў Бабруйску маладая актрыса — А. Палухіна. Яна зусім нядаўна скончыла Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Трэба мець творчую мужнасць, каб у 25 гадоў іграць такую ролю! Але А. Палухіна ўзялася за яе і атрымала творчую перамогу.

Толькі момантамі ў яе ігры адчуваеш напружанне, актрыса нібы стрымлівае сябе, каб не захапіцца і забыцца на ўзрост гераіні. У такія хвіліны А. Палухіна раптам, бывае, саб'ецца з рытму, прыглушыць штучна тэмперамент. Але гэта толькі на якую хвіліну...

Актрыса правільна знайшла ўнутраны стан гераіні, і гэта падказвае ёй адзіна неабходны пластычны малюнак вобраза. Унутраная ж гісторыя пакут і радасцей яе гераіні пераконвае адразу. Тут і дакладна размеркаваныя светацені ў тэмпераменце, і прыхавана-паэтычны настрой душы. Здаецца, ад яе позірку могуць заспяваць птушкі, заквітнець травы, адазвацца пошумам лісце дрэў... Глыбокія фальклорныя крыніцы жывяць сцэнічны партрэт старой Руцы, створанай драматургам у п'есе і актрысай на сцэне. Неяк хораша і на дзіва кранальна перадаецца А. Палухінай вера старой Руцы ў добрую сілу буслоў: калі яны гняздуюць на даху твайго дома, зло тут ніколі не паселіцца. Колькі вякоў вераць у гэта людзі...

Ды раптам буслы адляцелі ў вырай. Адляцелі і больш не вярнуліся сюды.

Сумуе Руца. Яна вінаваціць ва ўсім пляменніка Паўла. Як толькі ён пачаў перабудоўваць вёску на новы, калгасны лад — птушкі адляцелі. Крыніцы сохнуць... Як людзі будуць жыць далей?

Трэба сказаць, што А. Палухіна іграе гэты матыў сардэчных роздумаў старой Руцы надзвычай тонка, псіхалагічна ярка, і «нерв» у спектаклі пачынае трымцець, як звонкая струна.

А Павел, рыхтуючыся да развітання з жыццём, перабірае старонкі таго, што было. Артыст В. Філатаў трывожна прыслухоўваецца да плыні ўнутраных перажыванняў героя. Ён бачыць, як маці схілілася над яго ложкам... Як франтавыя сябры наведваюць яго і нібы пытаюцца: ці ўсё ты зрабіў, што мог, — ты ж быў за старэйшага тут!..

Рэжысёр і мастак апранулі вайсковых сяброў Паўла ў белыя плашч-палаткі. Знешне гэта робіць моцнае ўражанне. Мастак І. Чумакоў тут як бы дае сімвалічна асэнсаваны малюнак былога. На жаль, самі фігуры гэтага своеасаблівага хору статычныя, а мізансцэны, распрацаваныя рэжысёрам, не зусім выразныя. Яшчэ менш удалым выглядае ў спектаклі сцэна размовы Паўла з былымі таварышамі па службе, з якімі ён гутарыць пра... ўраджаі, надоі малака і г. д. Але тут прэтэнзіі можна адрасаваць і драматургу.

Цяпер у тэатрах хор наогул уводзіцца даволі часта. Гэта стала модным. У спектаклі бабруйчан «Птушкі нашай маладосці» эпізоды, дзе ўдзельнічае ўмоўны хор, маглі б набыць больш апраўданае гучанне, калі б мы пачулі ў ім голас сумлення, што не змаўкае ў душы героя. Але адзервянелыя фігуры, што стаяць шэрагам за спіной Паўла, амаль немагчыма ўспрыняць як увасабленне пачуццяў і дукан героя, яго ўнутранай барацьбы.

Да таго ж наогул у спектаклі няўдала распрацаваны і пастаўлены амаль усе масавыя сцэны. Спектакль хвалюе тады, калі дзея «трымаецца» на двух галоўных дзеючых асобах.

Праўда, В. Філатаву яшчэ, мабыць, прадстаіць канчатова вызваліцца ад скаванасці ў некаторых істотных момантах драмы. Тут яму варта арыентавацца на апошнюю сцэну спектакля, дзе яго Павел так шчыра, з тэмпераментам гутарыць з Руцай. Магчыма, гэтаму артысту, наогул, лягчэй уступаць у кантакт з канкрэтным, рэальным партнёрам, бо менавіта толькі тады яго вочы праменяцца розумам, а мова пераліваецца эмацыянальнымі адценнямі. Тут Павел В. Філатава вырастае ў сур'ёзнага апанента вясковай знахаркі.

Не, яна памыляецца, старая Руца! Яна не разумее праўды новага жыцця, яго хараства, якое так глыбока адчувае Павел. Яе старыя вочы не могуць разгледзець у высокім небе бусліны вырай. А ён, Павел, бачыць буслоў, якія вяртаюцца на родную зямлю, і важак выраю ўрачыста трубіць славу ёй...

Спектакль аптымістычна сцвярджае гэтую дыялектычную заканамернасць — буслы вясновай парой вяртаюцца. Праўда, Павел В. Філатава не менш любіць жаўрукоў. Як весела спяваюць яны над узараным полем, нібы пераклікаюцца з трактарам і з людзьмі! Старая Руца пачынае здагадвацца, што ў кожнай маладосці — свае птушкі. А любоў у іх з Паўлам — адна: родная зямля, людзі...

МУДРУЮ І СВЕТЛУЮ драму напісаў малдаўскі драматург І. Друцэ. У ёй ёсць бытавая праўда: п'еса часам гучыць паэтычным паданнем, падслуханым у народзе. Тэатр, які многае «прачытаў» у такім складаным творы пераканальна і тонка, заслугоўвае добрага слова. Нават цяпер, калі ў спектаклі адчуваеш працэс яго мастацкага станаўлення, «Птушкі нашай маладосці» ў выкананні бабруйскіх артыстаў хвалююць і выклікаюць змястоўны роздум аб жыцці.

Дзіна МАНАЕВА.

*АКЦЁРЫ І РОЛІ*

# У РЭПЕРТУАРНЫМ СПІСЕ ПАЗНАЧАНЫ...



НЯДАЎНА грамадскасць Гродна віншавала артыста Уладзіміра Дзёміна з днём нараджэння — яму споўнілася пяцьдзесят. Побач з гэтай лічбай называлася і другая: сто пяцьдзесят. Так, амаль за трыццаць гадоў артыстычнай дзейнасці юбіляр сыграў столькі роляў на сцэне. Значную частку іх ведаюць гродзенцы. Яны апладзіравалі гэтаму артысту за яго гераічныя і камедыйныя, адкрыта ўмоўныя і сакавіта «напісаныя» псіхалагічныя партрэты з класічнага і сучаснага рэпертуару. Ён умее сёння заняць цэнтральнае месца ў спектаклі, а назаўтра, як кажуць, «выйсці» ў эпізодзе. І ўсё будзе зроблена Ул. Дзёміным з пачуццём прафесійнай адказнасці за кожнае слова і кожны крок на сцэне.

А з чаго пачынаўся яго творчы шлях? Тут сябры артыста прыгадваюць такі незвычайны выпадак з яго творчай біяграфіі.

...Дырэктара тэатра ледзь не схапіў паралюш. Мастацкі кіраўнік пацягнуўся па валідол.

За кулісамі перапалох:

— Што ж будзе? Што?

— Ды гэта ж «ЧП»!

— А куды глядзеў памочнік рэжысёра!..

— Закрыць заслону!..

А на сцэне малады ўсхваляваны голас працягваў: «...И растерялся весь и падал сколько раз — и вот за подвиги награда...»

Здарылася вось што. Уладзімір Дзёмін самастойна падрыхтаваў ролю Чацкага і, апярэдзіўшы артыста, першы выйшаў на сцэну... За «подзвігі» ўзнагароды не было. Але на працягу першага акта Дзёмін хадзіў усё ж у вобразе Чацкага...

Гэта было ў Краснаярску, калі Ул. Дзёмін вучыўся ў тэатральнай студыі. Дарэчы, там ён выступаў на сцэне разам з невядомым тады шырокай грамадскасці маладым акцёрам Інакенціем Смактуноўскім...

Такі пачатак сведчыў пра дзёрзкую ініцыятыўнасць юнака. І тое, што мы, гродзенцы, бачым цяпер на мясцовай сцэне, пацвярджае такую характарыстыку Уладзіміра Данілавіча Дзёміна. Ён можа даць завострана гратэскавы малюнак персанажа, можа скарыстаць лаканічныя сродкі раскрыцця вобраза, можа шчодра паказаць «жыццё чалавечага духу», пераломныя моманты біяграфіі героя. Мы маглі б спыніцца на любой ролі з яго вялікага рэпертуарнага спісу. Але ёсць у гэтага мастака сапраўдная вяршыня творчасці — гэта вобраз Фрыдрыха Энгельса ў спектаклі «Дачка Расіі» па п'есе П. Чараднічэнкі.

Разам з народным артыстам БССР Я. Кімбергам, які ўпершыню на беларускай сцэне стварыў тэатральны партрэт Карла Маркса, Ул. Дзёмін прадэманстраваў здольнасць паглыблена і ў лепшым сэнсе гэтага слова зацікаўлена «гартаць» незабыўныя старонкі гісторыі. Так было і літаральна — рэжысёр спектакля, усе выканаўцы роляў перачыталі працы заснавальнікаў навуковага камунізму, іх перапіску, дакументальныя і мастацкія творы аб іх жыцці і дзейнасці. Крыніцай мастацкага асэнсавання гэтых велічных постацей быў вядомы раман-трылогія Галіны Серабраковай «Праметэй».

— Калі гаварыць пра «зерне» ролі, то яго я знайшоў у словах пісьменніцы пра тое, што Энгельс, на яе думку, адзін з самых сучасных, абаяльных і шчырых у галерэі геніяў чалавецтва,— успамінае Ул. Дзёмін.

Такім яго паказваў на сцэне артыст, такім Фрыдрых Энгельс быў у спектаклі Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра.

Работа над роллю вымагала напружанага творчага пошуку. Грым і манера паводзіць сябе, інтанацыі голасу ў розным эмацыянальным стане, унутраная высакароднасць і вулканічны тэмперамент, — усё гэта патрэбна было акцёру ўвабраць у сябе, зліць у гарманічны характар.

Зразумела, работа Дзёміна — не завершаны вобраз, гэта, хутчэй, таленавітыя штрыхі да партрэта, эскізы. Ён і сам, чалавек патрабавальны да сябе, не лічыць, што зрабіў усё, што мог бы...

Сказаўшы, што Ул. Дзёмін знайшоў пераканальныя і маляўнічыя рысы характару Фрыдрыха Энгельса, мы не перабольшылі. Герой, сапраўды, выглядаў інтэлектуальна багатай натурай, гледачы адчувалі, што перад імі мысліць і дзейнічае паслядоўны рэвалюцыянер. І, разам з тым, яму была ўласціва душэўная далікатнасць. Тое сяброўства, якое яднала К. Маркса і Ф. Энгельса, трымцела ў выкананні ролі Ул. Дзёміным запаветнай унутранай тэмай сцэнічнага вобраза.

Не выпадкова глядзельная зала так часта ўзнагароджвала выканаўцаў гарачымі апладысментамі. Яны адрасаваліся і Ул. Дзёміну.

— Мабыць, ніколі раней мне не даводзілася так уважліва перачытваць «Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы» Энгельса, — гаворыць артыст. — Мне хацелася прасачыць і зразумець ход думкі, яе развіццё і фармаванне. І цяпер, што б я ні іграў, назапашанае тады памагае мне часам глыбей адчуць сапраўдныя вартасці грамадскага жыцця чалавечай асобы...

Бывае, асобнага акцёра ў трупе называюць «фарбай» на палітры. Мушу сказаць, што Ул. Дзёмін — адна з найбольш выразных і пэўных фарбаў у Гродзенскім драматычным тэатры. І тады, калі ён іграе на сцэне, і ў штодзённым жыцці калектыву акцёр-камуніст Уладзімір Данілавіч Дзёмін шчыра і паслядоўна служыць справе, якую ён абраў аднойы і назаўсёды.

Ігар ЛЯКІН,
старшы рэдактар Гродзенскай студыі тэлебачання.

чоў—такая ж немалаважная задача, як і лагічная аснова пастаноўкі. Асістэнт рэжысёра Б. Піскун, мастак па асвятленні Д. Цыпкін, піратэхнік Г. Малюцін дасканала працуюць на задуму рэжысёра, сваімі эфектамі ўскалыхваюць гледача.

Сцэнічная рэдакцыя «Гаўрошаў», зробленая Р. Баравіком, не мае на мэце псіхалогію ўчынкаў. Рэжысёр-сцэнарыст лічыць сваім клопатам паказ падзей, верагоднасць сцэн, асоба ж Нюры або Лёнькі або капітана Патаповіча з яго сталасцю бацькі-воіна цалкам залежыць ад акцёра. Здаецца, каб памяняў выканаўцаў тэмпераментамі, рытм спектакля не парушыўся б. Адчуваецца гэта і пад час пастаноўкі, і пасля, пры аналізе бачанага. Памяць не трымае імёнаў дзейных асоб, запамінаюцца эпізоды, а не людзі, хоць нават малыя здольны вынесці з батальных сцэн і захаваць у сэрцы, да прыкладу, вобразы Анкі-кулямётчыцы і Пецькі, нягледзячы на тое, што ўся ўвага і сімпатыі — з Чапаевым.

Але неўзабаве эфекты ад святла і выбухаў перастаюць «працаваць» на спектакль. Пыл і порах пранікае ў рады, да гледачоў, і цяжка ўжо пераключыць іх увагу, развеяць яе, каб потым сканцэнтраваць на галоўных матывах п'есы. Паўза, што нясе на сцэне часам самыя вялікія нагрузкі, у гэтым спектаклі прымаецца як замінка ў дзеянні, непаладкі ў механізме абсталявання. І шчырая Нюра (артыстка К. Доўнар) і адметны Патаповіч (артыст К. Сянкевіч) не могуць авалодаць становішчам, бо супраць іх... прага падлетка-гледача, шчодра задаволеная рэжысёрам. Самы невялічкі маналог здаецца нудотай, што адбірае забаўкі, бо змястоўныя рэплікі не падкрэслены тымі тэхнічнымі сродкамі, якія ўмела скарыстаны для прагону дзеі.

«Мы падчас забываемся аб цішыні... — казаў А. Даўжэнка.— Можа быць цішыня прасторы. І можа быць цішыня патэтычная ці лірычная цішыня спакою. І ёсць цішыня сузірання і поўная самай высакароднай паэзіі цішыня роздуму, цішыня творчасці або цішыня выніку, развязкі, цішыня глыбокіх унутраных перажыванняў. Гэта — не проста адсутнасць слова, а такое развіццё ўсяго дзеяння спектакля, якое дазваляе скарыстаць паўзу ў якасці яскравага сродку мастацкай выразнасці».

Трэба мець на ўвазе, што муры крэпасці і казематы сярод сцэны прыцягваюць увагу, асабліва, калі там час ад часу хаваюцца выхаванцы палка, нават, калі Нюра і хлопцы выходзяць на авансцэну. Доўга пасля выбуху голас здаецца глухім. Таму невыразнаю выглядае заключная сцэна спектакля, па задуме аўтара, манументальна-сімвалічная.

Што мы бачым на сцэне?

...Трэці тыдзень абароны. Загінуў, здабываючы патроны і кулямёт, Лёнька. Стомленыя, без вады, Нюра, Коля і Пеця нясуць баявую службу: як некалі Гаўрош, збіраючы боепрыпасы або ведучы бой.

Смяротна паранены Пеця.

ПАТАПОВІЧ: Дарагія сябры! Сёння мы сабраліся для таго, каб ушанаваць нашых юных герояў— Гаўрошаў Брэсцкай крэпасці... Яны ў цяжкую для Радзімы часіну стаялі побач з намі і змагаліся да апошняга... І зараз, у гэты ўрачысты дзень, я хачу сказаць: слава вам, маленькія салдаты!..

Пасля напружанага рытму пастаноўкі позы акцёраў уяўляюцца плакатна-цьмянымі. Адна хіба цішыня і камандны голас Патаповіча непасрэдна да тых, хто ў зале, здолелі б страпянуць на момант прызвычаенага да піратэхнічных эфектаў гледача. Але ў такім разе патрэбны не толькі іншыя словы, а і іншае рэжысёрскае вырашэнне ўсёй заключнай часткі.

А спектакль быў задуманы як «экранізацыя» падзей для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту, таму канчаецца ён без авацыі ці ўрачыстай мемарыяльнай маўклівасці: тут парушаецца кантакт з прысутнымі. Займальнае апавяданне пра вайну таксама знойдзе месца ў выхавальным арсенале, але шкада марнага лёсу філасофска-драматычнае ролі Гаўроша. Віктар Гюго называў яго homuncio — чалавечак, а не parvulus — дзіця. І яшчэ да таго, як Гаўрош пайшоў на барыкаду, В. Гюго пісаў пра яго: «Парыжскі гамэн—гэта Рабле ў мініяцюры...»

Дзіця, падлетак на барыкадах, у цытадэлі, на полі бою — гэта складаная натура. Каб раскрыць яе, мала толькі даць ілюстрацыю «на тэму». Тут чакаеш заглыбленага падыходу да сцэнічнага (або літаратурнага) вобраза, увагі да супярэчлівых эмоцый, дзе ёсць месца і апантанаму гераізму, і хвілінам роспачы, якую маленькі змагар хавае нават ад самога сябе, і спробе юнага героя «пабачыць» сябе збоку... Інакш кажучы, мастак абавязаны «слухаць», як б'ецца маленькае сэрца!

Часамі застаецца такое ўражанне, што Р. Баравік, захапіўшыся рэжысёрскім вынаходніцтвам, «забывае» пра «сэрца» юных герояў спектакля.

Цікавы і разнастайны свет у нашых падлеткаў. Сёння яны сядзяць у зале тэатра, што павінен абудзіць у іх тыя іскрынкі душы, якія трапяталіся ў сэрцы Гаўроша, калі ён поўз сярод забітых, каб назбіраць патронаў, — як потым дзеці Брэсцкай крэпасці.

Уладзімір ІСКРЫК.

# ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ АБ ДРАМЕ

ТРЫ ГАДЫ таму назад выйшла ў свет першая кніга даследавання тэатразнаўцы А. Сабалеўскага «Беларуская савецкая драма». Гэта, па намерах аўтара, спроба глянуць на пяцідзесяцігадовы шлях, які прайшла наша драматургія, спроба падсумаваць яе набыткі. Зразумела, прааналізаваць усе п'есы амаль немагчыма, увага засяроджана на найбольш значных драматургічных творах, на тых п'есах, якія былі характэрнымі для свайго часу.

Цяпер выдадзена другая кніга, якая з'яўляецца працягам даследавання і дае агляд драматургіі да сённяшніх дзён.

Трэба вітаць імкненне А. Сабалеўскага падагуліць дасягненні **ўсёй** беларускай савецкай драматургіі, пачынаючы ад першых дакастрычніцкіх год і канчаючы апошнім часам. Такой **цэласнай** працы аб драматургіі ў нас яшчэ не было; мы маем толькі даследаванні пра паасобных беларускіх драматургаў (у прыватнасці пра К. Крапіву, К. Чорнага) альбо пра паасобныя драматычныя жанры (напрыклад, пра беларускую камедыю) ці пра развіццё нашай савецкай драматургіі пэўнага этапу.

Можна таксама гаварыць, што абедзве кнігі напісаны даходліва і зразумела для самага шырокага чытача, у іх мы не знойдзем таго акадэмічнага мудрагельства, наўмыснай «вучонасці», чым любяць часам пафарсіць некаторыя даследчыкі.

**У першай сваёй кнізе А. Сабалеўскі даследуе беларускую драматургію даваеннага часу, вылучаючы ў асобныя манаграфічныя характарыстыкі разгляд п'ес тых пісьменнікаў, якія ўнеслі ў развіццё беларускай драматычнай літаратуры таго перыяду найбольш значны ўклад (У. Галубка, Е. Міровіча, Я. Коласа, К. Чорнага, К. Крапівы, Э. Самуйлёнка, В. Вольскага). Паколькі гэта кніга ўжо атрымала ацэнку ў нашым перыядычным друку і ацэнку станоўчую, то мы не будзем спыняць на ёй сваю ўвагу. Заначым толькі, што яна, як і другая кніга, увогуле, сведчыць аб добрым веданні аўтарам прадмета даследавання, аб разуменні ім спецыфікі драматычнай літаратуры. Сам аналіз матэрыялу ацэнка п'ес не выклікаюць якіх-небудзь сур'ёзных пярэчанняў, хоць з некаторымі момантамі, думкамі, вывадамі і нельга цалкам пагадзіцца, а некаторыя хочацца дапоўніць ці ўдакладніць.**

Пяройдзем цяпер непасрэдна да другой кнігі даследавання, якая і з'яўляецца галоўным аб'ектам нашай размовы. У гэтай кнізе разглядаецца беларуская драматургія ваеннага і ўсяго пасляваеннага перыяду. Прычым кампазіцыйна яна пабудавана па такім жа прынцыпе, што і першая кніга: у пачатку кожнага раздзела коратка гаворыцца ўвогуле аб развіцці драматургіі пэўнага этапу, а потым аўтар робіць разгляд п'ес таго ці іншага пісьменніка ў паасобных манаграфічных характарыстыках. Такая кампазіцыя дазваляе даследчыку сканцэнтраваць галоўную ўвагу на творчасці найбольш буйных драматургаў (К. Крапівы, К. Губарэвіча, А. Макаёнка, А. Маўзона), аднак яна часам парушае храналагічны прынцып некаторых агульных раздзелаў і непазбежна вядзе да паўтораў. І ўсё ж такі трэба прызнаць, што выбраны аўтарам прынцып пабудовы сваёй работы найбольш адпавядае характару даследавання — храналагічна · манаграфічнаму.

Пачынаецца другая кніга з разгляду драматычных твораў, напісаных у час вайны і пра вайну. Тут звяртаецца ўвага на тое, што ў аснове першых беларускіх п'ес пра Вялікую Айчынную вайну, як правіла, ляжаць дакументальныя падзеі і факты, асноўнымі героямі выступаюць рэальныя людзі.

Пераходзячы да творчасці беларускіх драматургаў пасляваеннага перыяду (раздзел «Сучаснасць і гісторыя»), А. Сабалеўскі перш за ўсё спыняецца на славутай «тэорыі» бесканфліктнасці, што нанесла нашай літаратуры, асабліва драматургіі, вялікую шкоду. Тут канкрэтна называюцца тыя п'есы, якія напісаны з пазіцый гэтай тэорыі альбо ў якіх заўважаецца яе адмоўны ўплыў. Нават такі выдатны наш драматург, як К. Крапіва і той не пазбегнуў яе ўплыву (п'есы «Пяюць жаваранкі», «Зацікаўленая асоба»), слушна заўважае даследчык...

У другім раздзеле кнігі ў асобны манаграфічны нарыс вылучан аналіз п'ес патрыярха нашай драматургіі К. Крапівы. Пры гэтым галоўную ўвагу (амаль палавіну нарыса) А. Сабалеўскі ўдзяліў яго сатырычнай камедыі «Мілы чалавек», даўшы ёй вельмі высокую ацэнку. Думаецца, што ён зрабіў правільна, бо гэту п'есу К. Крапівы, якую доўгі час незаслужана ігнаравалі прыхільнікі «тэорыі» бесканфліктнасці, рознага роду лакіроўшчыкі, можна з поўным правам ставіць у адзін рад з яго класічнай сатырычнай камедыяй «Хто смяецца апошнім». Аўтар кнігі зрабіў даволі падрабязны і правільны аналіз гэтага выдатнага твора беларускай сатырычнай камедыяграфіі, які па-ранейшаму, слушна заўважае даследчык, з'яўляецца актуальным, «знаходзіцца на пярэдняй лініі барацьбы з markознымі жулікамі, махлярамі, авантурыстамі» і іх свядомымі ці несвядомымі апекунамі, бо «яшчэ нельга заявіць, што канягіны і жлукты поўнасцю выкарчаваны з нашага грамадства». Слушнымі з'яўляюцца і разважанні крытыка пра тое, як вырашаецца К. Крапівой праблема станоўчага героя ў сатырычнай камедыі «Мілы чалавек».

**Шкада толькі, што аўтар не звярнуў увагі на тую крытычную палеміку, якая вялася ў свой час вакол Язвы як станоўчага персанажа. Дарэчы, А. Сабалеўскі чамусьці наогул пазбягае ў сваім даследаванні ўступаць у спрэчкі з крытыкамі-папярэднікамі, а калі часам і робіць гэта, то не называючы прозвішчаў.**

Самым большым і самым значным раздзелам кнігі з'яўляецца трэці — «На сённяшнім этапе». Тут гутарка ідзе пра беларускую драматургію апошняга дзесяцігоддзя. У цэнтры ўвагі даследчыка знаходзяцца такія вядучыя сучасныя беларускія драматургі, як А. Макаёнак, К. Губарэвіч, А. Маўзон. Асабліва падрабязна і грунтоўна разглядаюцца п'есы А. Макаёнка, пісьменніка, які без перабольшання можа быць названы флагманам беларускай сучаснай драматургіі. Яго творы, правільна заўважае А. Сабалеўскі, «ужо занялі сваё вельмі прыкметнае месца не толькі ў беларускай, але і ва ўсёй нашай шматнацыянальнай савецкай драматургіі».

Разглядаючы творы таго ці іншага драматурга, даследчык імкнецца паказаць яго ідэйна-творчую эвалюцыю, рост яго прафесійнага майстэрства, падкрэсліць моцныя і слабыя бакі яго творчасці наогул і паасобных п'ес у прыватнасці. Часам ён робіць супастаўленні розных варыянтаў адной і той жа п'есы.

Так, напрыклад, супастаўляюцца тры рэдакцыі драмы К. Губарэвіча пра геранічных абаронцаў Брэсцкай крэпасці («Цытадэль славы» — «Брэсцкая крэпасць» — «Людзі і каменне»), гаворыцца пра іх агульнасць і рознасць і робіцца вывад, што апошняя рэдакцыя («Людзі і каменне»), якая ўяўляе сабою, па сутнасці, новы твор, перадае суровую праўду вайны, яе нечалавечыя цяжкасці, трагізм абаронцаў цытадэлі над Бугам, і ў гэтым, заўважае даследчык, «яна ў значнай ступені выйграе ў параўнанні з «Брэсцкай крэпасцю». Але тут жа адзначаецца, што трэцяя рэдакцыя драмы панесла і «вельмі адчувальныя страты», бо ў ёй «асобныя падзеі, а таксама і вобразы людзей выйшлі больш заземленымі, прыглушанымі, драматург нібы баіцца, цураецца рамантычнай прыўзнятасці, адухоўленасці, высокай грамадзянскай пафаснасці, чым вызначалася «Брэсцкая крэпасць». І ў гэтым плане новы драматычны твор яўна прайграе».

З другіх п'ес К. Губарэвіча найбольшую ўвагу даследчыка прыцягнулі гісторыка-рэвалюцыйныя драмы «Галоўная стаўка» і «Брэсцкі мір». Першую з іх ён лічыць, і не без падставы, найбольш дасканалым творам драматурга. У канцы нарыса пра К. Губарэвіча сказана некалькі слоў пра мову яго п'ес, усяго паўстаронкі, але і гэта добра, бо пра мову п'ес, пра майстэрства дыялога другіх драматургаў наогул нічога не гаворыцца. А нам не трэба забываць, што ў драматычным творы ўвесь унутраны свет персанажаў, увесь іх воблік выяўляецца праз іх дыялогі і маналогі ці, як гаварыў М. Горкі, «дзеючыя асобы п'есы ствараюцца выключна і толькі іх размовамі».

У манаграфічным нарысе аб драматургічнай дзейнасці А. Маўзона крытык гаворыць пра многія п'есы гэтага пісьменніка, але на першы план ставіць «Канстанціна Заслонава». П'есы ж А. Маўзона апошніх гадоў, справядліва заўважае ён, маглі б быць лепшымі ў сэнсе іх ідэйна-мастацкіх вартасцей.

Як ужо адзначалася, творчасці А. Макаёнка ўдзелена ў кнізе найбольшая ўвага, асабліва такім яго п'есам, як «Выбачайце, калі ласка!», «Лявоніха на арбіце» «Зацюканы апостал», «Трыбунал». Дзве першыя прааналізаваны вельмі падрабязна, і з ацэнкай іх даследчыкам увогуле нельга не пагадзіцца. Слушнай з'яўляецца і палеміка з тымі крытыкамі (на жаль, яны безыменныя), якія беспадстаўна дакаралі А. Макаёнка за тое, што ён нібыта вырашае канфлікт у сваёй сатырычнай камедыі «Выбачайце, калі ласка!» «адміністрацыйным парадкам», г. зн. пры дапамозе пракурора і карэспандэнткі, якія па абавязку службы павінны былі ўмяшацца ў афёрныя справы Каліберава, Моцкіна, Печкурова. Але выкрываюць афёру ўсё ж такі самі калгаснікі, у прыватнасці Ганна Чыхнюк, за якою стаіць маса, народ. І тут аўтару кнігі патрэбна было значна больш удзяліць увагі гэтаму станоўчаму персанажу, паспрачацца з тымі, хто імкнуўся даказаць, што Ганне Чыхнюк нібыта не пад сілу весці барацьбу з Моцкіным і Каліберавым, бо яна, маўляў, усяго толькі радавая калгасніца.

Нельга не пагадзіцца з думкай А. Сабалеўскага, што п'есу «Выбачайце, калі ласка!» па праву можна лічыць класічнай, г. зн. класічнай **сатырычнай** камедыяй. І вось у сувязі з гэтым нельга не папракнуць даследчыка ў тым, што ён вельмі мала звяртае ўвагі на аналіз тых **сатырычных сродкаў, прыёмаў**, якімі карыстаўся А. Макаёнак, ствараючы сваю камедыю. Дарэчы, гэта адзін з істотных недахопаў усёй працы А. Сабалеўскага, увогуле вельмі цікавай, удумлівай, карыснай для многіх людзей (не толькі філолагаў і тэатразнаўцаў).

**Згаджаючыся з агульным аналізам другой сатырычнай камедыі А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце», хочацца, аднак, зрабіць заўвагу адносна яе галоўнага персанажа. Справа ў тым, што многія крытыкі, і аўтар кнігі з імі салідарны, характарызуюць Лявона як «заўзятага» ўласніка, і толькі па той прычыне, што ён не хоча пазбавіцца сваёй каровы (адмаўляецца здаць яе ў калгас) і моцна трымаецца за свой прысядзібны ўчастак.**

Нам здаецца, што для такой характарыстыкі героя няма дастатковай падставы. А. Сабалеўскі ў канцы сваёй размовы аб п'есе наогул і аб Лявоне ў прыватнасці ўсё ж такі вымушан быў прызнаць, што «Лявон у **нечым** (падкрэслена намі. — **А. С.**) мае рацыю», што «выступаючы супроць яго поглядаў і ўчынкаў, мы, насуперак аўтарскай задуме, вымушаны ў **нечым** далучыцца да яго, а не да станоўчых герояў камедыі». Але ж гэта «нешта» і з'яўляецца ў творы тым, вакол чаго ў свой час разгараліся спрэчкі, таму гаворку пра Лявона патрэбна было весці некалькі ў іншым плане, звярнуўшы, безумоўна, увагу на тое, што ён дрэнны працаўнік-калектывіст: дбае галоўным чынам пра сваё, а не пра грамадскае, калгаснае.

Нарыс аб творчасці А. Макаёнка завяршаецца разглядам яго п'ес апошняга часу — трагікамедый «Зацюканы апостал» і «Трыбунал», твораў, якія з вялікім поспехам ідуць на сцэнах многіх тэатраў Савецкага Саюза. У першым з іх, слушна заўважае А. Сабалеўскі, драматург «узнімаецца да вялікіх абагульненняў, да глыбокіх філасофскіх высноў». Даючы «Зацюканаму апосталу» заслужаную, вельмі высокую ацэнку, даследчык зусім правільна сцвярджае, што гэты твор «па праву можа заняць адзін з самых пярэдніх рубяжоў у нашай барацьбе з буржуазнай ідэалогіяй».

**Думаецца, што такая высокая ацэнка п'есы вымагала і ад аўтара кнігі больш падрабязнага і больш глыбокага ідэйна-мастацкага аналізу яе. Прычым, нам здаецца, што вобраз асноўнага персанажа твора Сына не да канца прадуманы крытыкам: ён чамусьці разглядаецца больш у негатыўным плане, як чалавек, якога апанавалі думкі пра ўсемагутную ўладу, пра будучае месца прэзідэнта. «Урэшце, ён мог бы «выпрацавацца» ў таго чалавека, — заўважае А. Сабалеўскі, — хто сёння напалмам выпальвае в'етнамскія землі... і таму важна своечасова абяззброіць будучых фашыстаў, ліквідаваць тую глебу, на якой яны вырастаюць». Але ж з п'есы і вынікае, што Сын сваімі не па ўзросце глыбакадумнымі філасофскімі і палітычнымі разважаннямі якраз і выбівае з-пад ног апалагетаў капіталізму і яго воўчай маралі гэту глебу, аб чым красамоўна сведчаць звернутыя да сваіх бацькоў яго фінальныя бунтарскія словы, якія гучаць як прысуд усяму капіталістычнаму свету. І толькі стаўшы ідыётам, Сын прыміраецца з буржуазнай рэчаіснасцю, што, як слушна піша аўтар кандыдацкай дысертацыі «Беларуская камедыя пасляваеннага часу» М. Шаўлоўская, «вельмі сімптаматычна; тут закладзена глыбокая думка: толькі інтэлектуальна збяднелыя людзі, «ідыёты» могуць прымірыцца з такой рэчаіснасцю, з такой філасофіяй. Нармальны ж чалавек, інтэлектуальна развіты не можа жыць у такой атмасферы, ён павінен змагацца».**

Апошні раздзел кнігі змяшчае таксама два невялікія нарысы пра драматургічную дзейнасць І. Шамякіна і заўчасна памёршага, маладога пісьменніка І. Козела.

У заключэнне зазначым, што праца А. Сабалеўскага «Беларуская савецкая драма» — цікавае і патрэбнае даследаванне.

**А. СЕМЯНОВІЧ,**
доктар філалагічных навук.

А. Сабалеўскі. «Беларуская савецкая драма». Кніга другая. Выдавецтва «Мастацкая літаратура». Мінск. 1972.

# ЧАРОЎНЫ СВЕТ ДЗЯЦІНСТВА...

ХОЦЬ зборнік «Бегунок» Авяр'яна Дзержынскага адрасаваны дзецям малодшага школьнага ўзросту, у ім сустракаецца нямала вершаў, з якімі з радасцю і не без карысці пазнаёмяцца і дашкольнікі. Паэт змог пра розныя рэчы і жыццёвыя з'явы расказаць надзвычай проста, вобразна, з чыстым, па-дзіцячаму мягкім і лагодным гумарам. Асабліва добра ўспрымаюцца вершы «Зялёнка», «Снежка», «Фіялка», «Сварка», «Пчолкі», «Шчабятушка» і многія іншыя. Яны вабяць сваёй пяшчотнасцю, даступнасцю зместу, прастатой кампазіцыі, выклікаюць у дзяцей творчую фантазію. Паэт вучыць маленькіх любіць жывёлу і птушак, кветкі і дрэвы.

А. Дзеружынскі — паэт-лірык нават у вясёлых, крышачку жартаўлівых вершах. Лірыка і мараль, гумар і сур'ёзнасць у яго творах арганічна знітаваны, успрымаюцца як нешта адзінае цэлае. Вось як напеўна, па-мастацку проста расказвае аўтар пра чаяня:

Вылезла з яечка
Чаяня,
Закрычала:
— Мама, мама,
Гэта — я.
Паплыло па рэчцы
Зграбна, смела так.
«Толькі б чаяняці
Не схапіў шчупак». —
Неспакойна сэрца
Ў маці за дзіця.
Выплыла малое
На прастор жыцця

(«Чаяня»).

Вершы А. Дзеружынскага насычаны дасціпным гумарам, вясёлымі і запамінальнымі вобразамі і параўнаннямі. Так, грабянец у цецярука чырванее, як шышка, вясновы вецер прылятае на крылах шпакоў, ліска-жартаўніца кружыцца з мядзведзем у вясёлым танцы і г. д.

Авяр'ян Дзяружынскі. «Бегунок». Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1972.

# З ПАВАГАЙ ДА ЧАЛАВЕКА

У ДАСТАЕЎСКАГА ёсць такія словы: «Можна ведаць факт, бачыць яго асабіста сто разоў і ўсё-такі не атрымаць такога ўражання, як хто-небудзь іншы, чалавек асаблівы, стане побач з вамі і пакажа вам той жа самы факт, але толькі па-свойму, растлумачыць вам яго сваімі словамі, прымусіць вас глядзець на яго сваім поглядам. Гэтым якраз уплывам і пазнаецца сапраўдны талент».

Гэтыя словы вялікага пісьменніка як найлепш стасуюцца да творчасці кожнага, з'яўляюцца той высокай меркай мастацкасці і таленавітасці напісанага аўтарам-пачаткоўцам ці вядомым мастаком слова. Імкнуцца ў творы паказваць факты і падзеі з іх сацыяльным асэнсаваннем— гэта неабходны абавязак усіх літаратараў.

Прыемна чытаць такія творы, дзе ўменне аўтара ператварыць у саўдзельніка падзей і чытача неназойліва жыве ў кожным радку, у кожным эпізодзе.

Такім шчаслівым уменнем удала валодае і Міхась Даніленка. Ва ўсякім разе ў большасці яго апавяданняў, якія сабраны ў кнігу «Запаветны акіян», адчуваецца гэтае аўтарскае пранікненне ў душу герояў, уменне разварушыць пачуцці чытача і паклікаць у дарогу роздуму і развагі.

Развагі аб галоўным — месцы чалавека на зямлі, яго адказнасці за лёс іншых. У апавяданнях пісьменніка жыве характэрнае імкненне: паказаць чалавечнасць людзей, іх вернасць роднаму краю, зямлі-карміліцы, аддансць сваёй Радзіме, Бацькаўшчыне, сумленнасць у любых абставінах і ўчынках. І нездарма выбраў Даніленка эпіграфам да свайго зборніка словы Петруся Броўкі: «У дзень пагодны і ў навалу зямлі, цябе што ўзгадавала, будзь верны!»

З ёй — заўсёднай вернасцю ў сілу і моц роднай зямлі — жывуць многія героі пісьменніка. Такія, як Апанаска Лугавы з аднайменнай аповесці, пра якую пісалася ўжо ў штотыднёвіку.

Праз унутранае раскрыццё характару, праз трапныя дэталі аўтар апавядае аб звычайным жыцці чалавека, які ўсе свае сілы аддае зямлі, да скону дзён клапоціцца, каб яна і тыя, хто жыве на ёй, сталі яшчэ лепшымі.

Пераканальна малюе пісьменнік вобразы Федзі, суседа Апанаскі, дакторкі Доры Абрамаўны, сыноў Пятра і Васіля, дачкі Валі і іншых герояў апавядання.

У кожным з іх раскрыты пэўны чалавечы тып. Аўтар умее праз трапныя дэталі асобныя штрыхі выяўляць найбольш характэрнае ў сучаснікаў і аднагодкаў.

І ў тым, што пісьменнік не прэтэндуе на ўсеабдымнасць, на раскрыццё сусветных праблем, няма яго віны і пісьменніцкай недастатковасці. Міхась Даніленка глядзіць на падзеі праз чалавека. А гэта, здаецца нам, найбольш каштоўнае для кожнага пісьменніка, тое, чаго бракуе некаторым нашым літаратарам. Бо, як слушна заўважае Алесь Адамовіч, чалавек для мастака і ёсць тая прызма, што незвычайна ўзмацняе, павялічвае магчымасць паглыбіцца ў грамадскі працэс.

Значна лягчэй заўважыць пэўныя заканамернасці ў падзеях сусветнай значымасці, іх ролю і ўплыў на фарміраванне характараў і тыпаў. Куды ж складаней праз дробныя з пункту гледжання сусвету падзеі, у асобных характарах заўважыць тыповае, адметнае і ўласцівае не аднаму чалавеку, праз гэтага аднаго выявіць рысы пакалення. Пранікненне ў сутнасць з'явы — вынік многіх якасцей і ўласцівасцей пісьменніка. Гэта і тонкая назіральнасць, і багатая фантазія, інтуіцыя і аналіз, вопыт і дараванне свежасці ўспрымання, уменне дзяліць буйныя жыццёвыя з'явы на састаўныя дэталі і сінтэзаваць шматколерныя прыватныя выпадкі.

Няхай гэтыя якасці не ў поўнай меры можна дастасаваць да кожнага твора Міхася Даніленкі, важна, што ён імі валодае. Важна, што любы настрой у яго творах афарбаваны роздумам, імкненнем да аналізу. І да гэтага аналізу аўтар запрашае свайго чытача. Запрашае разам з ім прысутнічаць пры першых кроках у жыццё, пры нараджэнні чалавека як асобы. Гэта можна сказаць пра апавяданні «Ларыса», «Урокі жыцця», «Запаветны акіян» і іншыя.

Аўтар умее праз адзін эпізод паказаць характар героя, яго маральныя якасці. Як, напрыклад, у апавяданні «Падводная ляжнёўка». Іван Пятровіч ледзь не сілком выцягнуў сына ў паездку на возера Палік. Віктар незадаволены гэтым і стараецца пры кожнай магчымасці паказаць свой настрой бацьку. Таму і расказ Івана Пятровіча аб былых партызанскіх баталіях ля гэтага возера Віктар слухаў без асаблівага задавальнення.

Пасля быў невялікі паход з мэтай знайсці падводную драўляную дарогу, па якой перапраўляліся калісьці партызаны. Сам бацька не помніў ужо добра таго месца. І калі раптам яны заўважылі, што два дзецюкі «ломам выпорвалі з акамянелай гразі круглякі» і кідалі іх на машыну, Віктар першы вырваўся наперад і змог адстаяць гэтую дарогу — дарогу, што была сапраўдным помнікам мінулых падзей.

І праз гэты эпізод бацька зразумеў і характар сына, і тое, як мала ён да гэтага ведаў свайго Віктара.

Так жа праз асобныя эпізоды, дэталі, праз нечаканыя павароты абставін паказвае пісьменнік і вобраз Віктара Ермакова з апавядання «Урокі жыцця», апавядае пра чалавечую чуласць і спагаду да гора іншых — «Па дарозе ў Вільнюс».

Асобна хочацца сказаць пра ўключаную ў зборнік аповесць «Альпы». Зварот пісьменніка да гэтага жанру трэба вітаць. Міхась Даніленка апавядае тут аб адным з жорсткіх выпрабаванняў для чалавечага характару — мінулай вайне.

Аповесць мае свае названыя часткі, кожная з якіх — пэўны штрых да характару, пэўная з'ява ў жыцці галоўнага героя Андрэя Сініцы, ад імя якога вядзецца расказ. Асобная такая частка пабудавана па прынцыпу ўзрастання напружання падзей і мае на мэце трымаць у сваім палоне чытача.

На нашу думку, аўтару аповесці ў цэлым не ўдалося справіцца з задумай. І зрыў, здаецца, адбыўся іменна на тым, у чым пісьменнік звычайна адчувае сябе моцна — у распрацоўцы характараў.

Не заўсёды ўчынкі герояў псіхалагічна матываваны, часта ствараецца ўражанне, істотныя пэўныя факты ўжо знаёмы па іншых творах— напрыклад, палонная калона і яе апісанне.

Думаецца, не мела сэнсу ўключаць у адзін зборнік аповесць «Альпы» і апавяданне «Штраус у апраметнай». Бо абодва гэтыя творы на адну і тую ж тэму. Нават многія дэталі і эпізоды паўтараюцца. Да таго ж апавяданне атрымалася псіхалагічна больш матываванае, кампактнае.

Увогуле ж даводзіцца зазначыць, што зборнік Міхася Даніленкі зойме належнае месца ў нашай літаратуры.

**Анатоль БУТЭВІЧ.**

Міхась Даніленка. «Запаветны акіян». Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1972.

# НА РОЗНЫХ МОВАХ

## НА ЧЭШСКАЙ




«Дзяўчына з меднымі валасамі» — так называецца кніга казак народаў Азіі і Еўропы, якая нядаўна выйшла ў «Народным выдавецтве» (Прага) на чэшскай мове. У зборнік уключаны дзве беларускія казкі: «Бог, Ягор і Мікола» і «Як Мікола з Пятром куплялі на Украіне коней».

Казкі пераклала Здэнька Псуткава, афарміў кнігу мастак Ян Лебіш.

## НА НЯМЕЦКАЙ



Нядаўна ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы выйшла аповесць Васіля Быкава «Сотнікаў» (у нямецкім перакладзе яна атрымала назву «Пятля»). Адгукаючыся на выхад кніжкі, газета «Нойес Дойчланд» змясціла рэцэнзію Клаўса Глобіга, у якой гаворыцца:

«Мастацкае адлюстраванне чалавека ў Вялікай Айчыннай вайне застаецца па-ранейшаму актуальным — пра гэта сведчаць і кінаэпапея «Вызваленне», і раманы Канстанціна Сіманава. Беларускі празаік Васіль Быкаў укладвае яшчэ адзін каменьчык у мазаіку гэтай вялікай тэмы. Быкаў — вядомы ў нашай краіне пісьменнік, у нас былі выдадзены яго кнігі «Трэцяя ракета» і «Альпійская балада».

У «Сотнікаве» Быкаў паказвае абмежаваны ў часе і прасторы момант рэчаіснасці, якому, аднак, надаецца высокае псіхалагічнае напружанне... Аповесць пра адзін эпізод Вялікай Айчыннай вайны ставіць такія псіхалагічныя і ідэалагічныя праблемы, якія маюць значэнне і ў нашай сацыялістычнай рэчаіснасці».

**М. НАВІЦКІ.**

# ШЧЫРАЯ ЕДНАСЦЬ ТАЛЕНТАЎ

Братэрства талентаў, цесныя мастацкія сувязі ўкраінскіх, беларускіх і рускіх майстроў кнігі — друкароў, мастакоў, гравёраў добра паказана ў працы ўкраінскага даследчыка Я. Запаска «Мастацтва кнігі на Украіне ў XVI—XVII стст.», якія летась выйшлі ў Львове. Украінскі вучоны даследуе праблему ілюстравання і графічнага аздаблення старадрукаў, пачынаючы ад першынца ўкраінскага кнігадрукавання — львоўскага «Апостала» (1574) і да канца XVIII стагоддзя. Ён бярэ пад увагу мастацкае афармленне, шрыфт, тытульныя ўпрыгожванні, дэкаратыўныя аздобы, кампазіцыю старонак і інш., разглядаючы іх у непарыўным адзінстве.

«Даследаванне Я. Запаска пачынаецца з невялічкага, але вельмі ёмістага паводле зместу раздзела «Папярэднікі». У ім аўтар разглядае славянскія першадрукі, што папярэднічалі кнігадрукаванню на Украіне. Больш чым палова гэтага раздзела прысвечана выданням Францыска Скарыны. Украінскі вучоны надзвычай высока ацэньвае мастацкае афармленне кніжак нашага першадрукара.

Мастацтва ўкраінскай кнігі ў даследаванні Я. Запаска пачынаецца з аналізу львоўскіх і астрожскіх выданняў Івана Фёдарава. Пераехаўшы на Украіну з Заблудава, Фёдараў у 1574 годзе выдаў у Львове знакамітыя ўкраінскія першадрукі—цудоўна аздобленыя і бездакорна надрукаваныя кніжкі «Апостал» і «Буквар».

Я. Запаска паказвае, што групы львоўскіх і астрожскіх гравюр выданняў І. Фёдарава — творы зусім розных мастакоў. Паводле слушнай думкі ўкраінскага вучонага астрожскія выданні афарміў ураджэнец Заблудава Грынь Івановіч, які разам з Іванам Фёдаравым пераехаў на Украіну з Беларусі. Я. Запаска паказвае, што ў стварэнні аздоб астрожскіх выданняў Фёдараў і Грынь Івановіч шырока выкарысталі традыцыі сваіх славянскіх папярэднікаў, у прыватнасці, Скарыны.

Я. Запаска аналізуе мастацтва ўкраінскай кніжкі не ізалявана, а паказвае яе развіццё ў непарыўных сувязях з кнігадрукаваннем братніх народаў: рускага і беларускага.

Беларус Францыск Скарына, рускі і ўкраінскі першадрукар Іван Фёдараў, ураджэнец Заблудава Грынь Івановіч і ягоны настаўнік — львоўскі майстар Лаўрэнцій Піліповіч — ці ж гэта не жывое, сімвалічнае ўвасабленне даўняга шчырага сяброўства?

Вельмі цікавыя ў кнізе звесткі і пра наяўнасць на Украіне друкарскага матэрыялу і гравюр беларуса Пятра Мсціслаўца.

Арыгінальнае і глыбокае даследаванне ўкраінскага вучонага дае чытачу яскравае ўяўленне пра вельмі высокі ўзровень украінскай культуры, пісьменства, мастацкага афармлення кніжак XVI — XVIII стагоддзяў.

**В. ШМАТАЎ.**

Спадабаецца дзецям і паэтычная мініяцюра «З мылам»:

— Ганка, Гануля,
Ты яблыкі мыла?
Мыла, бабуля,
Ды нават і з мылам.
— Яблыкі мылам
Не мыюць, унучка.
— Дзіўна, бабуля,
Я ж мыю ім ручкі.

Такіх вершаў, ад пачатку да канца пранізаных цёплай фантазіяй, непасрэднасцю дзіцячага ўспрымання свету, у зборніку нямала («Пяць разоў», «Новыя туфлі», «Чаго плачаш?», «Баязліўка»).

У многіх творах А. Дзеружынскага гучаць грамадзянскія матывы. У прыватнасці, хораша напісана казка-мініяцюра «Калабок». Паэт памайстэрску «зрабіў» традыцыйнага Калабка — аднаго з найбольш любімых дзецьмі казачных персанажаў — нашым сучаснікам. Зухаваты Калабок прыйшоў у Палац піянераў. Ён спрабуе займацца ў танцгуртку, але паскакаўшы два дні, пакаціўся ў авіягурток. Не затрымаўся доўга Калабок і тут, неўзабаве ён ужо вучыцца іграць у шахматы, затым — займаецца ў драматычным гуртку. Але:

Дзень ці два ён там пабыў
І захныкаў, і заныў...
— Я і з танцгуртка уцёк!
З авіягуртка я ўцёк!
Я і з шахматнага ўцёк!
З драматычнага уцёк!
Пакаціўся Калабок
Невядома ў які бок.

Вось так паэтычна, пры дапамозе фальклорных вобразаў А. Дзеружынскі высмейвае некаторых вучняў.

Праўда, сустракаюцца ў зборніку і вершы павярхоўныя, не зусім дасканалыя ў мастацкіх адносінах («Зімовы сон», «Птушыны спеў», «Стракатуха»). А. Дзеружынскі часам перапявае творы некаторых паэтаў. Так, верш «Блізняты» нічога новага аўтар пра блізнят не сказаў, акрамя таго, што іх блытаюць аднаго з другім і дома, і ў школе. Стары, даўно вядомы матыў... Верш «Мурашыны дом» і інтанацыяй, і кампазіцыяй, і тэмай вельмі нагадвае цудоўную невялікую казку М. Танка «Заечы дом». А вось яшчэ такія радкі:

— Хто цябе любіць, Алесік?
Дзеду б ты, мілы, сказаў
— Дзебама, дзебма, дзебма,—
Унучак малы лепятаў
— Што ён такое мне, бабка,
Не разумею, дзяўбе?
Дзебама, дзебма, дзебма,—
У голаў ці прыйдзе табе?
— Ты нездагадлівы, дзедка,—
Тры словы ў гэтым дзебма.
І даражэй іх Алеську
Ў свеце, павер мне, няма..

Наўрад ці гэта назавеш творчай вучобай у М. Някрасава! Гэта проста-напраста перапяванне асобных строф «Дедушки» — шырока вядомага твора рускага паэта.

І тым не менш зборнік «Бегунок» — крок А. Дзеружынскага наперад.

**Радзівальт ЛІТВІНАЎ.**

# СЛОВА БЯРЭ ГЛЯДАЧ

## У ПОШУКАХ ПОСПЕХУ

У РАЗДЗЕЛЕ дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва выстаўкі «СССР — наша Радзіма» наўрад ці можна налічыць дзесяткі два работ. Вядома, і такая колькасць, калі яна кампенсуецца вартасцямі твораў, можа сведчыць аб развіцці жанру, аб дасягненнях мастакоў. Аднак, на мой погляд, менавіта навізны, арыгінальнасці, еднасці паміж функцыяй і прыгажосцю рэчы бракуе многім экспанатам раздзела дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У радзе работ паўтараюцца адпрацаваныя прыёмы, якія гадоў пяць — дзесяць назад былі амаль што адкрыццём, але з таго часу моцна пабляклі. Такія, на мой погляд, дробная пластыка М. Балюка — «Музыкі», «Дзед і баба», «Мужык і жонка», інкрустацыя саломкай П. і А. Гапакоў— «Паляванне на мядзведзя», «Сакалінае паляванне», дэкаратыўнае блюда «Лета» Ф. Зільберта. Паўтарае свае знаходкі Т. Кіршына ў мудрагелістых скульптурах «Ганчар», «Музыкі», «Цырк».

Вар'іраванне, зразумела, таксама від пошуку і, напэўна, мае пэўнае значэнне для мастака, але ў шэрагу падобных работы становяцца непрыкметнымі, губляюць вобразнасць.

Самая характэрная на выстаўцы з работ керамістаў, па-мойму, мініяцюра «Пано» А. і С. Зіменкаў. Шкло, заплаўленае ў кераміку, ажурная для такога матэрыялу ляпная ружа, абрамленне са скуры ствараюць выразны аб'ёмны і колеравы эфект. У такой жа манеры выкананы медальён А. Зіменкі «Профіль». Злучэнне блакітнага шкла з шэрай керамікай, узаемадзеянне розных фактур дазволіла мастаку выйсці з плоскасці ў глыбокі аб'ём, надаць медальёну чароўную таямнічасць, высакароднасць, надаць яму якасці, што нагадваюць камею. Шэраг мініяцюр А. Зіменкі працягваюць яшчэ дзве ў іншых тэхніках. Медальён «Выкраданне Еўропы» (роспіс па кераміцы), па-мойму, не ўдаўся аўтару. Ён прайграе побач з іншымі таму, што ў выразным контурным малюнку адчуваецца штучнасць прыўнесенага з графікі прыёму. Затое медаль «90-годдзе Пікаса» адрозніваецца гармоніяй паміж пачуццём і задумай, матэрыялам і тэхнікай. Лёгкае полымя свечкі мякка «выводзіць» з цемры профіль і слязу. Апраўданы сюжэтам пераход ад чырвонага, светлага да цёмнага, прыгожы малюнак, тонкае тэхнічнае выкананне надаюць рабоце рысы дасканаласці.

З работ керамістаў хочацца назваць яшчэ набор дэкаратыўных ваз Л. Панамарэнкі. Гэта тры тэракотавыя вазы, арыентаваныя на класічныя формы. Яны звязаны памерамі, колерам, формай у адзіную «жывую» сістэму, у цэльны мастацкі вобраз.

Работы дэкаратыўна-прыкладнога жанру глядзець на выстаўцы куды больш складана, чым жывапіс альбо графіку, таму што яны, у асноўным, разлічаны мастаком на пэўны інтэр'ер. Успрымаць жа іх прыходзіцца як самастойны твор. Натуральна, іх істотныя годнасці як бы стушоўваюцца, раствараюцца ў чужым інтэр'еры. Гэта адчулі на сабе ўжо названыя вазы Л. Панамарэнкі, невялікія, цікава глазураваныя вазы «Ізумруд», «Ажур», «Восень» С. Горбаль і А. Веранчыка, ганчарная скульптура «Ніць жыцця» Ул. Кузняцова. Сустрэча з імі ў натуральным для іх інтэр'еры была б больш цікавай і карыснай.

Таму асабліва прыемна адзначыць удачу габеленаў, створаных А. Бельцюковай і А. Кішчанкам. Абуджэнне — тэма аднаго з іх. Раніцай юная жанчына адчыняе дзверы ў дзень. Прачынаецца насустрач сонцу прырода. Гэты просты сюжэт разыгрываецца ў чорнабелай гаме, на фоне тытунёвага колеру. Лёгкая кампазіцыя, кантрастны, але спакойны, высакародны каларыт, «дывановы» малюнак, цеплыня фактуры, традыцыйнага матэрыялу — шэрсці. Усё ў меру проста, вольна, ненадакучліва, удала.

Другі габелен прысвечаны партызанам. Ён і названы аўтарамі шырока — «Легенда пра партызан» і рашаецца ў страі эпічнага расказу. Усе знешнія прыкметы тут стылізаваны і арыентаваны на міфалагічную героіку. Такі прынцып бачання ўжо распрацаваны ў жывапісе, і ў гэтых адносінах выбраныя для кампазіцыі сцэнкі нясуць на сабе сляды пераймання. І «Партызанская мадонна», і «Гулянне з канём», і строй галоў і вінтовак—усё гэта для нас прывычна. Але ў габелене гэтае прывычнае набывае незвычайнасць, цікавасць, хвалюе, таму што расказана іншымі словамі, інтэрпрэціравана праз другі жанр. Увесь габелен — плакальшчыцы, галовы партызан, зоркі, лес, ноч—звязаны ў адзіны паэтычны расказ колерам. Лепш нават сказаць—успышкамі сакавітага колеру, яго рухам. Нягледзячы на складаную кампазіцыю, шырокі набор колераў, багацце дробных дэталей, габелен не грашыць стракатасцю, ён роўны і велічны.

Абодва гэтыя габелены паказваюць, што наша сённяшняе ткацтва выходзіць за межы пачатковага эксперыменту і можа ісці «ў людзі», у грамадскі інтэр'ер.

**К. ТАРАСАЎ,**
журналіст.



І. СТАСЕВІЧ. Партрэт І. М. Сакольчыка, Героя Сацыялістычнай Працы.

## ЧЫРВОНАЕ, СІНЯЕ, ЗЯЛЁНАЕ...

ЧЫРВОНЫЯ, сінія, зялёныя кветкі самых розных адценняў пакладзены на палатно ўпэўненымі мазкамі. Яны ўтвараюць казачную прыгожую крону фантастычнага дрэва. Пад яго засенню, на фоне блакітнага неба і ружовых воблакаў, мірна пасвяцца вішнёвыя коні. Гэта палатно З. Літвінавай «Мая Беларусь». Яно вабіць позірк адразу ж і надоўга. У першы момант у памяці паўстае карціна французскага мастака П. Сін'яка «Дрэва». Але ў яго «Дрэва» — сімвал прыроды наогул, сімвал жыцця. Дрэва Літвінавай — гэта сімвал беларускай прыроды. І не толькі яе. Мастачка імкнецца, каб яно адчувалася, як сімвал Беларусі наогул, сімвал беларускага народа, яго творчага духу.

Не ўсё, на мой погляд, на выстаўцы «СССР — мая Радзіма» аднолькава цікава і здольна парадаваць наведвальніка.

І ўсё ж, у цэлым, выстаўка пакідае ўражанне святочнае, яркае і досыць самабытнае. Гэта дзякуючы працам такіх мастакоў, як Б. Аракчэеў, Я. Красоўскі, А. Малішэўскі, С. Каткоў, П. Данелія, Д. Алейнік. Беларусь у кожнага з іх розная. У Б. Аракчэева наша зямля лірычная. Вось «Вечар на ферме», напоўнены чырвоным святлом заходзячага сонца, яго блікамі і водбліскамі, рознагалосым вясёлым гоманам. Пачуццём радасці быццам пранікаешся, стоячы перад гэтай карцінай. І пачуццём лёгкага суму вее ад другой яго карціны — «Чарэйскае возера». На ёй — няяркая, але бясконца мілая сэрцу прырода роднай зямлі.

Беларусь Б. Аракчэева насяляюць магутныя прыгожыя людзі, накшталт «Кавалёў», якія ў гарачай схватцы з раскалёным металам куюць шчасце для другіх.

Адпавядаюць зместу карцін фарбы мастака, яго палітра. У асноўным пераважаюць чырвоныя колеры. Насычаныя, яркія. А там, дзе карціна набывае задуменна-сумны настрой, яны пераходзяць у амаль ліловыя.

Беларусь А. Малішэўскага — гэта краіна новабудоўляў, камбінатаў саманавейшых навукова-даследчых цэнтраў і ў той жа час— старажытны край з багатымі традыцыямі. Асабліва ўдалася, на мой погляд, мастаку работа «Палачанка».

На фоне гмаху Полацкага нафтаперапрацоўчага камбіната—твар жанчыны. У вачах яе застыла строгасць, але не сум — рашучасць і непакорлівасць. Полацкі камбінат — гэта і яе рук справа.

Другая работа Малішэўскага — «Анколагі» — выканана ў той жа манеры. Але ці не занадта ўжо схематычна яна ў параўнанні са сціплым партрэтам палачанкі?..

Па-рознаму падыходзяць мастакі да адлюстравання беларускай прыроды. Прырода ў П. Даненіі— грозная, насычаная, амаль былінная. Такой прадстае яна на карціне «Навальніцы прыходзяць і адыходзяць». Над магутнымі, напоўненымі ўнутраным жарам узгоркамі беларускай зямлі плывуць свінцовыя воблакі, кідаючы чорны цень на сялянскія хаты. Але на пярэднім плане ўжо — святло, якое шчодра льецца на ўрадлівыя палі і паўнаводную раку.

Казачна лірычная прырода ў Д. Алейніка ў яго «Веснавым матыве». Чымсьці яго карціна нагадала мне Чурлёніса. Паэтычная, крыху фантастычная і яго, Д. Алейніка, красавіцкая блакітна-зялёная паляна, ахутаная вяззю квітнеючага дрэва.

Прыцягваюць увагу паэтычныя пейзажы-мініяцюры Я. Красоўскага. Асабліва запомніліся яго «Ждановічы». Прырода на гэтай мініяцюры якаясьці на дзіва знаёмая, добрая.

**Віталь ТАРАС,**
вучань.

## ТВОРЫ РОЗНЫЯ, ЦІКАВЫЯ...

Сярод жывапісу на рэспубліканскай мастацкай выстаўцы «СССР — наша Радзіма» мяне найбольш зацікавілі два зусім розныя творы: партрэт народнага мастака БССР І. Ахрэмчыка на Браслаўшчыне, напісаны А. Шыбнёвым і карціна «Памяці подзвігу» А. Кішчанкі.

Партрэт І. Ахрэмчыка напісан сакавіта. Мастак на ім пільна ўглядаецца ў натуру. Кепка ад сонца насунута на вочы. Энергічны паварот галавы. Абветраны твар, маршчыны. У позірку — вастрыня, рашучасць і нават нецярпімасць, як перад боем. Усё дробязнае, мітуслівае — адкінута прэч.

Адна толькі цыгарэта пакуль яшчэ звязвае мастака са светам звычайнасці, але неўзабаве і яна будзе забыта. Здаецца, што калі звярнуцца да яго зараз з любым пытаннем, то ён накрычыць на вас за бестактоўнае ўмяшанне ў яго творчы свет. Ды мы і без лішніх слоў бачым, з чаго гэты свет пачынаецца — з поўнай самааддачы, нават самаахвярнасці дзеля мастацтва.

Твор А. Кішчанкі здзіўляе незвычайнасцю. Гэта карціна-сімвал, карціна-дэкларацыя. Аўтар заяўляе аб сабе як аб майстры, які востра адчувае і мысліць.

...У трывожным чорна-чырвоным небе лунаюць фігуры трох аголеных юнакоў. У адзіным парыве яны схіліліся нібы з самага космасу над дзіцячымі каляскамі, якія радком стаяць на гладкай яркай дарозе. Рукі юнакоў замерлі ў засцерагальных жэстах, твары суровыя і рашучыя. Прамая стужка дарогі імкне за гарызонт. На перакрыжаванні дарогі — жанчыны. Гэта маткі. Яны мірна гутараць. Маткі могуць спакойна весці ў будучыню сваіх дзяцей — плён міру і шчасця. Але якой цаной набыта ўсё гэта! Карціна пераканальна гаворыць аб цане шчасця.

Мне здаецца, раздзел жывапісу мог бы быць больш разнастайны. Многія бакі нашага жыцця выпалі з поля зроку мастакоў. Малавата творчага пошуку!

Па-мойму, больш разнастайнасці ў раздзеле графікі. Кола жыццёвых праблем, якія закраналі графікі, — шырэй.

Выдатныя ў сваім тонкім і мяккім гумары ілюстрацыі Н. Паплаўскай да беларускіх, літоўскіх, англійскіх казак.

Добрае ўражанне пакідаюць рамантычна ўсхваляваныя малюнкі Ю. Выхадцава «Абеліск» і «Вясёлка» (аловак). Шкада, што выстаўлена толькі дзве яго работы.

Акварэлі С. Волкава — выразныя па сатырычнаму гучанню. Іх таксама дзве: «Кватэрнае смецце» і «У крывым воку — усё крывое».

Усякі раз на рэспубліканскую выстаўку прыходжу з надзеяй убачыць што-небудзь значнае ў раздзеле скульптуры. І на гэты раз скульптура ў залах адыгрывае другарадную ролю.

**А. АСІНОЎСКІ,**
інжынер.

# ЧАМУ ЛУБІН ЗЯЛЁНЫ?

**Наша чытачка В. Палянава з Мар'інай Горкі даслала ў рэдакцыю «ЛіМа» пісьмо. Вось што ў ім гаворыцца.**

**«Дарагая рэдакцыя!**

**У апошні час у друку з'явілася нямала матэрыялаў, у якіх востра ставіцца пытанне аб узмацненні аховы прыроды.**

**Хацелася б ведаць, які ўдзел у гэтай высакароднай справе прымаюць кінематаграфісты? Ці створаны фільмы? А калі так, дзе іх можна паглядзець?**

**З павагай—В. Палянава».**

**Ніжэй друкуецца рэцэнзія журналіста В. Поляка, які расказвае пра новы фільм «Вытокі жыцця», прысвечаны ахове прыроды і навакольнага асяроддзя.**

ПРАГЛЕДЗЕЎШЫ гэты фільм — «Вытокі жыцця», я ўспомніў далёкае дзяцінства. Мы, вучні чацвёртага класа Хусенскай пачатковай школы, што на Петрыкаўшчыне, выйшлі аднойчы на ўборку лубіну. Плантацыя гэтай культуры, якая займала плошчу каля дзесяці гектараў, была роўная, нібы лётнае поле. Стаяў сонечны вераснёўскі дзень, адзін з тых, што пакідаюць уражанне вышыні і прасторы.

**Мы з настаўніцай Соф'яй Сямёнаўнай збіралі лубін у звычайныя, зробленыя рукамі дзядоў, лазовыя кошыкі.**

**— Соф'я Сямёнаўна! — пытаемся мы. А чаму колецца лубін?**

**— Таму што ён калючы.**

**— А чаму зялёны?**

**— Таму што ўтрымлівае хларафіл.**

**— А чаму жоўты?**

**— Таму, што выцвіў хларафіл.**

**— А чаму выцвіў?**

**І Соф'я Сямёнаўна пачынае тлумачыць нам, што такое хларафіл... А мы—яе выхаванцы—як і ў былыя гады, заглянуўшы папярэдне ў кнігу, скажам, слоўнік рускай мовы С. І. Ажогава, беспамылкова можам адказаць, што хларафіл — гэта «зялёнае фарбавальнае рэчыва лісця і іншых раслін, якое абумоўлівае засваенне раслінамі вуглекіслаты паветра».**

Але гэта так, для формы. На самой справе мы рэдка ўнікаем у сэнс гэтых слоў. Проста ў спякотлівы летні дзень сядаем у аўтобус ці электрычку і едзем на так званае ўлонне прыроды, каб там, пад ценем дрэў, узбадзёрыць сябе водарам хвоі або бярозы, альхі ці крушыны, або вярбы, або ясеню, адпачыць ад працы і клопатаў. І самі, можа, нават не ўсведамляючы, прычашчаемся да крыніцы свайго існавання, дараванага нам прыродай — фотасінтэзу.

Аб гэтым, вядома, мы ведаем ужо ледзь не з пятага класа, калі вывучаем прыродазнаўства — лісце дрэў паглынае вуглекіслы газ і выдзяляе кісларод.

Але, аказваецца, адно—падспудна ведаць аб гэтым і зусім іншае — калі нібы нанава пачынаеш спасцігаць гэтыя таямніцы цудадзейнага працэсу прыроды.

Такую грамадскую, мы сказалі б, сацыяльна-значную задачу паставілі перад сабою аўтары навукова - папулярнай пяцічасткавай стужкі «Вытокі жыцця» (сцэнарый А. Вольфсана, М. Каросціна, рэжысёр — М. Каросцін, аператары Г. Чумакоў, Т. Алейнікаў), створаный на кінастудыі Цэнтральнага навуковага фільма ў мінулым годзе.

Не перагружаючы свой твор навуковай тэрміналогіяй, аўтары кінастужкі даходліва і проста раскрываюць тыя галоўныя і істотныя працэсы, якія адбываюцца ў раслінным свеце, указваючы пры гэтым, што менавіта яму мы абавязаны сваім жыццём. І таму трэба прыкладаць усе намаганні, каб наш лясны масіў не падвяргаўся выпадковым высечкам, патравам, варварскаму знішчэнню.

Як ілюстрацыя таго, што трэба беражліва абыходзіцца з раслінным светам, прыводзіцца цікавы (і ў той жа час некалькі «жудасны») дослед з мышшу. Яе саджаюць у ізаляваны ад знешняга асяроддзя каўпак. Спачатку мыш трымае сябе натуральна, затым пачынае занепакоена шукаць сабе выхад, кідацца па баках, нарэшце, не вытрымлівае — і гіне.

Дослед пачынаецца спачатку — ужо з другой мышшу. Але ў каўпаку размяшчаюць невялікія расліны. І тая, другая мыш, адчувае сябе, мяркуючы па ўсім, нармальна — спакойныя рухі, рэакцыя, правільная арыентацыя...

Значыць, уся справа ў гэтым маленькім — дадатковым кампаненце — расліне. Яна садзейнічае падтрыманню «патрэбнага» клімату ў каўпаку, забяспечвае жыццёва неабходныя ўмовы. Гэта толькі адзін мікрапрыклад з таго вялікага свету, у якім жывём і дзейнічаем мы. Калі б не было гэтых раслін — зялёных лісточкаў, якія паглынаюць вуглекіслы газ і выпрацоўваюць кісларод, заглохла б «ніва жыцця».

Не, аўтары не «запалохваюць» нас. Яны папярэджваюць. Па-чалавечы стрымана, карэктна, але... і трывожна.

**Замест вялікіх дрэў у век бурнага прагрэсу да нябёс накіроўваюцца шматметровыя трубы, выкідаючы велізарныя клубы дыму, сажы, г. зн. вуглекіслы газ. А дзе дрэвы, лісце, здольныя паглынаць усю гэтую воблакападобную масу? Іх становіцца ўсё менш. І вось устае шэраватая хмара над горадам і людзі ўцягваюць яе дробныя часцінкі ў лёгкія... І калі адчуваюць, што вельмі многа «нахапаліся» гэтага шкоднага рэчыва, бягуць—ці то ў Н'ю-Йорку, ці то ў Токіо—да спецыяльных будак, якія напамінаюць тэлефоны-аўтаматы, каб за некалькі манет «акіслародзіць» сябе.**

Пагроза забруднення паветра, якая навісла над чалавецтвам, — не пустая выдумка людзей, якія займаюцца хіміка-біялагічнымі даследаваннямі. Яны аўтарытэтна, папярэджваюць: прырода наколькі добрая ў сваёй шчодрасці, настолькі і скупая ў рэсурсах. Папаўняць яе рэзервы — наша самая першачарговая задача.

**Але не адной сваёй прапагандысцкай накіраванасцю каштоўна гэтая стужка. У ёй, як, бадай, ніколі раней у кіно, надзвычай востра пастаўлена праблема фотасінтэзу, вялікай таямніцы зялёнага лісця. Умела падабраныя мультыплікацыі ўводзяць нас у кола складанейшых навуковых пошукаў, пераканальна ярка дэманструючы пры гэтым як самую «механіку» пошуку, так і сутнасць таго, чаму ён падпарадкаваны.**

**Ну, напрыклад, ці можна дабіцца таго, каб збіраць за год не адзін, а тры і больш ураджаі, дапусцім, такой важнай культуры, як памідоры або дапусцім, адзін раз пасеяўшы пшаніцу, збіраць яе ўжо кожны год, без паўторнага засеву. Аказваецца, можна. І ўжо дасягаюць гэтага. Праўда, пакуль што ў спецыяльных памяшканнях, штучных умовах, на паддоследных участках, прыбягаючы да паслуг аграхіміі і фізікі. Зноў жа ўсё гэта становіцца магчымым, дзякуючы паступоваму раскрыццю загадкі «зялёнага лісця».**

І няхай да канца не вывучаны вытокі арганічнага жыцця на Зямлі — адзінай планеты ў сонечнай сістэме, дзе ёсць пасрэднік паміж Сонцам і жыццём — **расліны**. (Менавіта яны ўлоўліваюць энергію святла і пераўтвараюць яе ў энергію хімічных злучэнняў, якую здольна ўспрыняць усё жывое). Няхай яшчэ шмат складаных задач неабходна вырашыць чалавеку, каб спасцігнуць векавыя таямніцы прыроды і, дабіўшыся гэтага, кіраваць ёю. Нам важна цяпер адно—тое, што, паглядзеўшы фільм, многія па-іншаму глянуць на навакольны свет — жывёльны і раслінны. Таму што ў ім усё звязана паміж сабой, абумоўлена, узаемна папаўняецца.

**Акрамя таго, мы блізка закранаем тыя пытанні, якія хвалююць сёння вучоных-селекцыянераў, перажываем разам з імі хвалюючыя мінуты ўдала праведзенага доследу, ганарымся вынікамі эксперыменту. Ганарымся таму, што галоўная іх мэта палепшыць бытавыя ўмовы людзей, зрабіць іх жыццё яшчэ больш спакойным, натхнёным, разумным...**

РАСЦЕ зялёны шыракалісты клён, сваімі галінкамі як бы абдымаючы сонечныя прамені. Растуць вучні былой нашай настаўніцы Соф'і Сямёнаўны, з гадамі ўсё больш і глыбей пазнаючы сутнасць таго, што было выказана ў бясхітрасным дзіцячым пытанні: чаму лубін зялёны?

**В. ПОЛЯК.**

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



«Мікітаў лапаць».



«Прымакі».

**Рэспубліканскі тэатр юнага гледача імя 50-годдзя Ленінскага камсамола Беларусі паставіў спектакль «Чаму ж мне не пець. Чаму ж не гудзець...» па камедыйных жартах Міхася Чарота «Мікітаў лапаць» і Янкі Купалы «Прымакі». Рэжысёр Л. Тарасава, мастацкае афармленне Ю. Турава, танцы харэографа Э. Друле.**

Фота Ул. КРУКА.

З пошты ЛіМа

## ДАПАМАГЧЫ ЗАВОЧНІКАМ-ФІЛОЛАГАМ

Ужо колькі гадоў нашы школьнікі праглядаюць і праслухоўваюць спецыяльныя тэлеўрокі па ўсіх важнейшых навуковых дысцыплінах. Гэтыя ўрокі трывала ўвайшлі ў жыццё нашай школы як незамянімы сродак актывізацыі яе работы. Змястоўныя і цікавыя ўрокі па геаграфіі, гісторыі, рускай і беларускай літаратурах і па іншых прадметах праводзяцца па спецыяльна складзеных графіках і раскладах. Тэрміны тэлеўрокаў супадаюць з тэрмінамі, вызначанымі на гэтыя ж тэмы ў каляндарных вытворчых планах школ, і таму ўрокі на блакітных экранах уваходзяць у школьны педагагічны працэс як арганічная яго частка. З нецярплівасцю чакаюць іх вучні, а разам з імі і настаўнікі.

Вялікую дапамогу аказвае тэлебачанне навучэнцам сярэдніх тэхнічных устаноў. Яны маюць магчымасць сістэматычна слухаць лекцыі па найбольш цяжкіх дысцыплінах, напрыклад, па курсах тэарэтычнай механікі, дэталей машын.

Удзячны тэлебачанню і завочнікі некаторых факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў. Гэтыя завочнікі могуць слухаць перадачу лекцый па вышэйшай матэматыцы, начартальнай геаметрыі, фізіцы.

Шкада толькі, што студэнты-завочнікі філалагічных факультэтаў, універсітэтаў і педагагічных ВНУ нашай рэспублікі не маюць такой дзейнай дапамогі, бо беларускае тэлебачанне не перадае лекцый нават па самых складаных пытаннях філалогіі. А такіх пытанняў, у якіх самастойна разабрацца вельмі цяжка нават чалавеку, што мае патрэбную літаратуру, у філалагічных навуках нямала. Ды і студэнтаў-філолагаў у нашай рэспубліцы, бадай, не менш, чым матэматыкаў ці фізікаў.

Вось чаму хацелася б, каб для студэнтаў-завочнікаў па тэлебачанні чыталіся лекцыі па курсах сучаснай рускай і беларускай моў, па рускай і беларускай дыялекталогіі, мовазнаўству, замежнай літаратуры, па найбольш складаных пытаннях рускай і беларускай літаратуры і фалькларыстыкі. Гэтыя лекцыі аказалі б вельмі добрую дапамогу завочнікам-філолагам, бо многія раздзелы названых курсаў асвоіць самастойна вельмі цяжка.

**Л. ЦАРАНКОЎ,**
в. а. дацэнта БДУ імя У. І. Леніна.

## ТУТ ЛЮБЯЦЬ КНІГІ Івана МЕЛЕЖА

Горад Нявінамыск—адзін з буйнейшых прамысловых цэнтраў Стаўрапалля. Тут жывуць хімікі, энергетыкі, будаўнікі...

Жыхары горада дружаць з кнігай. Любяць тут і кнігі таленавітага беларускага пісьменніка, лаўрэата Ленінскай прэміі Івана Паўлавіча Мележа. Гарадская бібліятэка нядаўна арганізавала завочную канферэнцыю чытачоў па творах пісьменніка «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». Быў афармлены спецыяльны стэнд, на якім змешчаны партрэт пісьменніка, назвы яго кніг, дадзена біяграфічная даведка аб творчым і жыццёвым шляху аўтара «Палескай хронікі».

Цёплыя, шчырыя лісты-водгукі прыйшлі ў бібліятэку. Апаратчык хімкамбіната Анатоль Зяневіч, сантэхнік «Гідраэнергабуд» Валянцін Каляеў, пенсіянер Мікалай Цялетаў з захапленнем пішуць аб майстэрстве беларускага пісьменніка. Не менш цікавую размову вядзе і пенсіянерка Эліза Рашчэпкіна, якая «прадбачыць» далейшы лёс герояў твораў І. П. Мележа, марачы з часам убачыць новы твор беларускага аўтара, які з'явіцца працягам «Палескай хронікі». Мы чакаем новых твораў Івана Мележа.

**К. ЧЭРНЯЦЭВІЧ.**
г. Нявінамыск.

# ДЗЕЦІ, ТЭЛЕБАЧАННЕ І БІЗНЕС

Два з паловай гады і мільён доларaў... Столькі менавіта часу і столькі грошай спатрэбілася, каб вывучыць вынік уплыву сцэн насілля, якія перадаюцца па амерыканскім тэлебачанні, на маладое пакаленне ЗША. Праца, што і казаць, нялёгкая, ды і тэма вельмі злабадзённая. Амерыканская грамадскасць не без падстаў звязвае небывалы рост дзіцячага злачынства ў краіне з тым, што паказваецца па тэлебачанні. Яшчэ ў 1968 годзе на 76-м з'ездзе амерыканскай асацыяцыі псіхолагаў пісьменнік Хаякава заявіў, што «рабункі, якія робяць і белыя, і чорныя, магчыма, з'яўляюцца ўзрыўчатым адказам на паказ па тэлебачанні гвалту ў якасці нашага вобразу жыцця». Праўда, ён не дадаў, што ў яго распараджэнні няма доказаў і што прыйшоў час, каб хто-небудзь, акрамя рэкламных агенцтваў, усур'ёз вывучыў пытанне аб пагубным уплыве тэлебачання.

Зразумела таму, з якім нецярпеннем чакалі за акіянам сур'ёзнага вывучэння гэтай праблемы. І вось нядаўна вынікі сталі вядомы. Праўда, спачатку шырокая публіка ў Амерыцы была шакіравана, калі прачытала ў газеце «Нью-Йорк таймс» артыкул рэдактара па пытаннях тэлебачання Гоўлда пад назвай «Насілле на экранах тэлевізараў бясшкодна для моладзі». Аўтар, спасылаючыся на знаёмства з 19-ю старонкамі вывадаў спецыялістаў, пісаў: «Насілле ў праграмах тэлебачання не аказвае згубнага ўплыву на большасць моладзі краіны, за выключэннем, магчыма, невялікіх груп маладых людзей, схільных у сілу многіх фактараў да агрэсіўных паводзін». Далей падзеі развіваліся вельмі хутка.

Аддзел інфармацыі галоўных тэлекампаній ЗША адразу ж узнавіў і накіраваў па пошце артыкул з «Нью-Йорк таймс» у тысячы іншых газет, у мясцовыя тэле- і радыёстудыі. Друкаваны орган тэлекампаній «Бродкасцінг мэгэзін» пераможна аб'явіў: «Гвалт на экранах і ў жыцці: прамой сувязі не выяўлена». Прыкладна такія ж аптымістычныя каментарыі з'явіліся амаль ва ўсіх часопісах ЗША.

Але ў пераможныя літаўры білі нядоўга. Неўзабаве амерыканцы прачыталі ў газетах і часопісах, што гэтыя вывады з'яўляюцца ні чым іншым, як «непаразуменнем коштам у мільён доларaў», «палітычнай пабелкай», «свядомым ашуканствам». Менавіта так адкрыта выказалася большасць з тых 40 спецыялістаў, якія доўга і старанна вывучалі пытанне аб уплыве сцэн гвалту ў амерыканскім тэлебачанні на моладзь. У выніку з'явілася пяць тоўстых тамоў даследаванняў, якія былі затым перададзены ўрадаваму навукова-кансультацыйнаму камітэту па тэлебачанні і паводзінам у грамадстве.

І вось пасля гэтага пачаліся дзіўныя, на першы погляд, метамарфозы. У камітэце пяць тамоў сціснулі да 260 старонак, а вывады, прызначаныя для шырокай грамадскасці, умясцілі ўсяго на 19 старонак. Яны і атрымалі тую агалоску ў друку, аб якой гаварылася вышэй.

Але, як высветлілася, гэтыя вывады не маюць нічога агульнага з аўтарытэтнай думкай спецыялістаў. Апошнія неабвержна ўстанавілі ясную і прамую сувязь паміж паказам гвалту па тэлебачанні і ростам злачынства сярод моладзі. Ды і як жа можа быць інакш, калі паводле падлікаў амерыканскага часопіса «Сатэрдэй рэвю» толькі за 8 гадзін вядучыя тэлекампаніі ЗША «Эн-Бі-Сі», «Сі-Бі-Эс», «Эй-Бі-Сі» і паўтузіна мясцовых тэлестудый паказалі на экранах 93 перадачы, дзе паказваюцца «садзісцкая жорсткасць , забойствы, зверствы на сексуальнай глебе і іншыя віды гвалту».

Уся гэта тлятворная тэлепрадукцыя прыносіць гаспадарам кампаній немалыя даходы, і таму з'явіліся патрэбныя ім вывады камітэта. Амерыканскі часопіс «Ньюсуік» прама ўказвае, што тэлебосы выступілі катэгарычна супраць уключэння ў кансультацыйны камітэт спецыялістаў, якія спасылаюцца ў сваіх работах на непасрэдную сувязь паміж гвалтам на экранах тэлевізараў і гвалтам на вуліцах амерыканскіх гарадоў.

Адсюль і бесцырымоннасць у абыходжанні з фактамі. Так, напрыклад, у вывадах камітэта ўказваецца, што толькі «некаторыя» дзеці, магчыма, стануць больш агрэсіўнымі пасля прагляду сцэны гвалту па тэлебачанні. Аднак на самой справе, паводле даных вучоных, колькасць такіх дзяцей складае больш паловы.

Другі прыклад. Камітэт сцвярджае, што дзеці ставяцца да сцэн гвалту, паказаных па тэлебачанні, як да «фантазіі». На самой справе, даследы гавораць аб іншым — «дзеці разглядаюць выдуманыя сцэны гвалту ў тэлепраграмах як у вышэйшай ступені рэалістычныя, нават больш рэалістычныя, чым пры паказе ў перадачах навін і дакументальных фільмах».

І трэці прыклад фальсіфікацыі. У вывадах камітэта гаворыцца, што ёсць факты некаторага адмоўнага ўплыву сцэн гвалту на гледачоў-падлеткаў, але гэты ўплыў, нібыта, кароткачасовы. Спецыялісты, наадварот, прыйшлі да цвёрдага пераканання, і гэта праверана на практыцы, што такі ўплыў адбіваецца на дзецях і падлетках ва ўзросце ад 8 да 18 год на працягу доўгага часу.

Карацей кажучы, амерыканцы даведаліся з вуснаў кампетэнтных асоб аб тым, што даўно ўжо было вядома — неабходна прымаць хуткія і рашучыя меры для засцярогі маладога пакалення ад усё нарастаючай лавіны гвалту, забойстваў, пошласці і садызму, якая нястрымна нясецца на яго з тэле- і кінаэкранаў.

Але ўся бяда ў тым, што справа абмяжоўваецца толькі размовамі аб такіх мерах. А саміх мер пакуль што не відаць. Між тым, час не церпіць. Як заявіў вучоны-псіхолаг Каліфарнійскага універсітэта Персі Таненбаум, «галоўнае зараз заключаецца ў тым, каб мы, як грамадства, перайшлі да дзеяння».

Адказу на гэта вельмі актуальнае для сённяшняй Амерыкі пытанне, як і раней, не прадбачыцца. І толькі таму, што пры «амерыканскім вобразе жыцця» гвалт ва ўсіх яго праявах з'яўляецца неад'емным спадарожнікам бізнесу.

**Г. НАВІЦКІ.**

# БЕСПРАЦОЎНЫЯ МУЗЫКАНТЫ

У перапынках паміж паяздамі на станцыі метро каля публічнай бібліятэкі ў Нью-Йорку гучаць мелодыі Паганіні. Спускаючыся ўніз, пасажыры разгублена паглядаюць навокал. Адкуль музыка?

Крыху воддаль шчыльны натоўп акружыў маладую жанчыну. Яна іграе на скрыпцы, захопленая музыкай, і не заўважае нічога навокал. Каля яе ног ляжыць футарал з некалькімі манетамі. Гэта беспрацоўная скрыпачка. Сваімі канцэртамі на станцыі метро яна зарабляе сабе на жыццё.

Беспрацоўных музыкантаў у Нью-Йорку сотні. У добрае надвор'е яны выступаюць на вуліцах і плошчах, у парках і на вакзалах. Восенню і зімою шукаюць сабе месца дзе-небудзь на станцыях метро і ў магазінах.

Нярэдка сярод выканаўцаў сустракаюцца пажылыя людзі. У іх пасівелыя скроні, глыбока запалі вочы. Яны звычайна ўладкоўваюцца ля ўваходу ў банк або рэстаран і пасля кожнай сыгранай мелодыі просяць міласціну. Некалі яны ігралі ў ансамблях або начных кабарэ. Сёння яны нікому не патрэбны: сталі старыя і нядужыя. Да таго ж слых прыкметна аслабеў.

Сярод кінутых на дно беспрацоўных музыкантаў нямала людзей з вышэйшай музычнай адукацыяй. Двое з іх цяпер выступаюць на крытым пароме ў Нью-Йорку. Гэта Гары Папач і Дон Кон. Раней яны ігралі на вуліцы. Але цяпер з надыходам халадоў перабраліся на паром. Грошай, якія яны збіраюць, ледзь хапае на харчаванне.

**Э. ШЫЛДС,**
карэспандэнт ТАСС.

Нью-Йорк.




— Давай пачакаем, мо ён яе застрэліць... (Малюнак амерыканскага мастака Вебера з часопіса «Нью-йоркер мэгэзін»).

# РАСІСЦКІ ВАРЫЯНТ «АТЭЛА»

Кожны школьнік ведае, што «Атэла» — славутая п'еса Шэкспіра, дзе адной з галоўных дзеючых асоб з'яўляецца венецыянскі маўр, чалавек з цёмным колерам скуры. Увогуле, гэтая праблема — колер скуры персанажа п'есы, як правіла, вырашаецца параўнальна проста. У ЗША, скажам, ролю Атэла з поспехам выконваў Поль Робсан, негр па нацыянальнасці. У іншых краінах акцёры, якія іграюць Атэла, прыбягаюць да грыму. І гэта не перашкаджае стварэнню яркага вобраза маўра ў многіх тэатрах свету.

Але ёсць адна дзяржава, дзе на сцэне ідзе другі «Атэла». Паўднёва - Афрыканская Рэспубліка — цытадэль махровага расізму, краіна, дзе палітыка апартэіду — адасаблення рас — узведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі. Апартэід у яго самай варварскай форме тут усюды.

У спакоі не пакінуты і тэатральныя падмосткі. У ПАР катэгарычна забаронена ставіць спектаклі, дзе б дзеючымі асобамі былі людзі розных рас. Ну, а як быць з «Атэла»? Тэатр у Кейптаўне неяк рашыў паказаць гэтую п'есу гледачам. Паказалі, але каб не выклікаць гневу расістаў і ўлад, ролю Атэла іграў белы акцёр, праўда, загрыміраваны. І ўсё ж гэтыя папераджальныя меры аказаліся недастатковымі. У друку ПАР з'явіліся пісьмы злосных фанатыкаў, якія абураліся на тое, што маўр абдымаў бялявую Дэздэмону. Спектакль быў забаронены.

Цяпер, як піша амерыканскі часопіс «Ньюсуік», нейкі «прагрэсіўны» тэатр у тым жа Кейптаўне зноў ажыццявіў пастаноўку «Атэла». І, трэба сказаць, вельмі арыгінальную. Відаць, памятаючы аб тым, што многае залежыць ад афішы, пастаноўшчык з Англіі Дапальд Гаварт пераіменаваў п'есу: «Атэла — толькі для белых». Гэта, натуральна, патрабавала пэўных змен і ў самой п'есе. І яны былі зроблены, і вельмі радыкальным чынам.

Як піша «Ньюсуік», «хаця Атэла ўсё яшчэ з'яўляецца галоўнай дзеючай асобай п'есы, на сцэне ён зусім не паяўляецца» (?!). Чаму? Аказваецца, каб «пазбегнуць сутыкнення з законамі апартэіду». Але, як кожнаму зразумела, адсутнасць Атэла на сцэне непазбежна павінна стварыць іншыя праблемы. І такія праблемы «даволі цікавага тэхнічнага характару» сапраўды ўзнікаюць.

Асабліва ў той сцэне, дзе Атэла, ашуканы паклёпнікам Яга, у парыве рэўнасці душыць Дэздэмону. Але хто ж душыць ні ў чым непавінную Дэздэмону ў тэатры ў Кейптаўне? Атэла ж на сцэне не з'яўляецца ні разу! Пастаноўшчык знайшоў цікавы выхад, які зноў жа дакладна адпавядае законам апартэіду. Дэздэмону ад імя Атэла задушыў... Яга.

Такім чынам, паўднёваафрыканскія чалавеканенавіснікі могуць быць задаволены. Поўнасцю захаваны іх варварскія законы — у тэатры для белых ні на сцэне, ні ў зале не было людзей з цёмным колерам скуры. А ў доўгі пералік злачынстваў расістаў з ПАР упісана яшчэ адна ганебная старонка.

**Г. КАНСТАНЦІНАЎ.**

# КЛОПАТЫ ФРАНЦУЗСКІХ СТУДЭНТАЎ

**У многіх універсітэтах і інстытутах Францыі новы навучальны год пачаўся з вялікім спазненнем. Французскі друк адзначае, што ўпершыню за пятнаццаць год колькасць студэнтаў у краіне не павялічылася. У французскіх вну цяпер навучаюцца каля 700 тысяч юнакоў і дзяўчат. У радзе універсітэтаў, і ў прыватнасці на гуманітарных факультэтах Руана і Нансі, колькасць студэнтаў скарацілася на 40 працэнтаў у параўнанні з мінулым годам. Аналагічнае становішча склалася ў эканамічных, юрыдычных і некаторых іншых вну.**

**«Колькасць студэнтаў у вну Францыі застаецца нязменнай або скарачаецца. Гэта вельмі небяспечная для краіны з'ява», — падкрэслівае газета «Юманітэ».**

**Адной з прычын таго, што навучальны год у радзе вну пачаўся са спазненнем, з'яўляецца недахоп выкладчыцкіх кадраў. Рэктар літаратурнага факультэта Сарбоны Л. Верньяс заявіў, напрыклад, што з-за недахопу выкладчыкаў і вучэбных памяшканняў яму давялося «надоўга адкласці адкрыццё навучальнага года, таму што не было магчымасці забяспечыць нармальныя ўмовы для вучобы».**

**Пачатак навучальнага года прынёс французскаму студэнцтву многа новых клопатаў. Ужо аб'яўлена аб павелічэнні платы за вучобу, за месца ў інтэрнаце і харчаванне ў студэнцкіх сталовых.**

**Паводле даных Нацыянальнай федэрацыі вышэйшых школ, агульныя расходы французскіх студэнтаў на жыллё,харчаванне і транспарт павялічыліся з 1967 года на 45 працэнтаў. Толькі два студэнты з дзесяці атрымліваюць у Францыі стыпендыі, якіх яўна не хапае для нармальнай вучобы. «Быць у нашы дні студэнтам — гэта значыць адначасова вучыцца і працаваць, калі, вядома, у цябе няма плацежаздольных бацькоў», — расказвае парыжскі студэнт Бернар.**

**Да 80 працэнтаў студэнтаў, піша часопіс «Эр клэр», вымушаны падзарабляць на баку нават у разгар экзаменацыйнай сесіі. Мне, расказаў студэнт Франсуа, сын настаўніка-пенсіянера, даводзіцца працаваць усе канікулы. Я не адпачываў ужо некалькі год і шэсць год не быў у тэатры. Каб сэканоміць, раніцай я не снедаю.**

**Цяжкае матэрыяльнае становішча большасці французскіх студэнтаў прыводзіць да сумных вынікаў. Многія з іх пакідаюць вышэйшыя навучальныя ўстановы, не правучыўшыся і года. З-за матэрыяльных цяжкасцей кожныя два студэнты з трох не заканчваюць вну.**

**Тым жа, каму пашчаслівілася іх скончыць, пагражае беспрацоўе. Перад многімі выпускнікамі французскай вышэйшай школы паўстае праблема ўладкавання на работу.**

**Р. СЯРЭБРАННІКАЎ,**
карэспандэнт ТАСС.

Парыж.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

## ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ




НЯДАЎНА я сустрэўся з аднакурснікам Зянонам Лапатай.

— Акім! Здарова, брат, — з радасцю кінуўся ён да мяне, дыхнуўшы ў твар вінным перагарам.

— Прывітанне, Зеня, — без асаблівай радасці я пацінуў яго руку.

— Так і думаў, што сустрэну цябе, — у наіўных вачах Зянона запаліліся іскрынкі шчырай радасці. — Нутром адчуваў, далібог праўда. Іду і думаю: няйначай Акіма сустрэну. Мы ж так рэдка бачымся...

«Зараз папросіць, каб пазычыў пяцёрку», — мільгнула ў маёй галаве.

— Як жывеш, Зеня? — ціха пытаю і трывожна гляджу на гадзіннік.

— Ха-ха-ха! — рагоча Зянон.— Не бойся, грошай прасіць не буду. Я цяпер працую. У шматтыражцы. Аклад, ганарар... Хоць і не вельмі... Справа да цябе ёсць іншага парадку. Ды не, не тут, давай зойдзем у зацішак, — і ён пацягнуў мяне за вугал дома.

Дастаў з-за пазухі кніжку даволі вядомага пісьменніка, таямніча спытаў:

— Ты ведаеш яго почырк?

— Творчы почырк? Вядома, ведаю. Яму ўласціва афарыстычнасць...

— Чхаў я на яго афарыстычнасць, — перабіў мяне Зянон. — Почырк ягоны мне патрэбен, звычайны почырк. Ну, як ён піша: размашыста, сцісла, з нахілам? Разумееш? І подпіс.

— Падробка дакументаў? — я аж адхіснуўся ад Зянона.

— Якая там падробка!..— Зянон ухапіўся за гузік майго паліто. — Ніякай афёры. Проста трэба, каб аўтар падпісаў мне кніжку. Ты ж на сустрэчах з чытачамі даеш аўтографы?

— Даю.

— А чаму мне аўтар не можа падарыць кнігу?

— Звярніся да яго.

— Параіў, называецца!—развёў рукамі Зянон.—Дзе загадаеш шукаць таго аўтара? Можа, ён жыве ў чорта на кулічках. А мне трэба тэрмінова, зараз.

— Навошта? — пытаю.

— Гэта на выпадак, калі ты прыходзіш дамоў «пад мухай»...

— Я—«пад мухай»?!.

— Даруй. Магчыма, ты і не прыходзіш. Згодзен. Вяду гаворку пра сябе. Прыходжу, значыць, дамоў «пад мухай». Жонка налятае: «Такі-сякі! Зноў нажлукціўся, набраўся! Дзе грошы ўзяў? З кім піў?» Ну скажы ёй, што з нейкім там Зубалеем ці Камарыкам — гвалт падніме. Успомніць і міліцыю, і дружыннікаў. А то яшчэ і трэсне чым. Ясна — забулдыгі яны, Зубалей і Камарык. Іншая справа, калі я назаву прозвішча вядомага пісьменніка і пакажу, так сказаць, рэчавы доказ — кніжку з аўтографам. Тут ужо іншы калянкор: ні крыку, ні шуму, самае вялікае — лёгкі дакор... Дык выручы, братка, што табе каштуе.

Гляджу на Зянона, і мне становіцца шкада яго.

— Ладна, — кажу. — Хадзем у кнігарню, куплю сваю кніжку, падпішу табе. Хоць я і не такі ўжо вядомы...

— Гы-гы-гы! — аж заходзіцца Зянон. — З табой я ўжо адзін вечар прасядзеў у рэстаране.

— Калі гэта было?

— Калі? Пад Новы год, здаецца. Здорава мы далі! Як цяпер помню, пачыналі з армянскага каньяку, а закончылі...

— Чакай, ты нешта блытаеш.

— Во лапух! — шчыра абурыўся Зянон. — Ды ты не лезь у бутэльку. Вядома, ты прысутнічаў не ў рэстаране, а ў маім уяўленні. Так сказаць, пачэсным кампаньёнам. Тваю кніжку за цябе падпісаў мне Міша Камарык. Хлёстка так, перакanaўча. І подпіс падрабіў — будзь здароў!

— Мой подпіс?

— А што? Не для грашовых дакументаў... Апрача жонкі, нікому не пакажу... Адным словам, лічы, што з табой я піў ужо. І з народнымі піў, і з лаўрэатамі... А вось з гэтым, — Зянон тыцнуў пальцам у прозвішча аўтара кніжкі, — з гэтым сустракаюся ўпершыню. Ну, братка, не ламайся, на ручку, пішы.

І я напісаў пад яго дыктоўку:

«Таленавітаму журналісту Зянону Лапаце на ўспамін аб так цудоўна праведзеным вечары. Аўтар».

— Дату пастаў, абавязкова дату! — патрабаваў павесялелы Зянон, схаваў за пазуху кнігу, развітаўся: — Прабач, сябры чакаюць.



— Ты што робіш з Зямлёй, нягоднік?!
— Нічога асаблівага, крыху падпраўляю сетку каардынатаў...



Звярніце ўвагу на аўтапартрэт — якая дасканаласць малюнка!



На астатняе не хапіла сродкаў, а без галавы было неяк няёмка...

Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА.

Мікола ДУБОЎСКІ

## БЕРВЯНО

Ляжала на дарозе бервяно.
Заганарылася яно:
«А хто мяне адважыцца крануць!
Я грузавік магу перавярнуць,
Калі які разява будзе ехаць.
От будзе смеху!..
Каму хачу — таму дарогу дам,
Каб кожны ведаў, хто тут уладар».
Ішоў дарогай дзед: «Вось ліха!
Бервяно...
Ці не з маіх саней звалілася яно!»—
Падумаў ён і гвазлануў абухам.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Дзе ж тое бервяно! Патруха...

## ЮГАСЛАЎСКІ ГУМАР

**БАЯВЫ СЯБАР**

*— Чаму ты называеш Перу баявым сябрам? Вы што разам ваявалі?*

*— Не, мы ў адзін дзень пажаніліся.*

**СУЦЯШЭННЕ**

*Жонка:*

*— Няўжо гэта бутэлька гарэлкі адзінае тваё суцяшэнне?*

*Муж:*

*— Не, у мяне ў партфелі ёсць яшчэ адна.*

**ПАДАБЕНСТВА**

*Перад самым закрыццём у краму, дзе гандлююць вогнестрэльнай зброяй, урываецца маладая жанчына.*

*— Мне патроны для пісталета! Тэрмінова!*

*— Калібр? — пытаецца прадавец.*

*Жанчына змерала позіркам прадаўца.*

*— Прыкладна ён такога ж самага росту, як і вы, але крыху таўсцейшы.*

**ВЫЗНАЧЭННЕ ЎЗРОСТУ**

*Настаўнік:*

*— Мірка, скажы хуценька, жывёла якога паходжання найстарэйшая?*

*— Каза... Казёл...*

*— Чаму?*

*— Яны ж барадатыя!*

Пераклаў з сербска-харвацкай Л. САМАСЕЙКА.

Віталь ПЯРОЎ

## СЯРОД МЕДЫКАЎ

**У СТАМАТОЛАГА**

Сястра са здзіўленнем глядзіць на ўрача, які безупынку смяецца.

— Вы ведаеце, што зараз будзе?

— Што?

—Да мяне на прыём прыйдзе інспектар аўтаінспекцыі, які ўчора зрабіў мне пракол на талоне.

**А ПРАВАЯ?**

— Доктар, вельмі ж баліць левая нага...

— Што зробіш, узрост...

— Але чаму не баліць правая? Хіба яна не такая старая?

## ЖЫРАФА

БАЙКА

У адным лесе, не памятаю ўжо дзе і якім чынам, у яму трапілі Ліса, Мядзведзь, Заяц і Жырафа. Сядзелі яны там дзень, сядзелі два, нарэшце, захацелі есці. А есці няма чаго! І вось Ліса прыдумала:

— Давайце, browні... 

Згадзіліся. Пачалі з Лісы. Смешны рыжая расказала анекдот. У Мядзведзя і Зайца нават жываты забалелі ад рогату, а Жырафа нават не ўсміхнулася.

Няма чаго рабіць, з'елі Лісу, бо не ўсім смешна было. Надышла чарга Зайца. Малоў, малоў Заяц, а Мядзведзь і Жырафа бы вады ў рот набралі. Маўчаць. І раптам Жырафа як зарагоча:—Ха, ха, ну, малайчына, ха-ха, вось гэта анекдот, гы-гы, вось гэта расказала, ай ды Ліса!..

Людміла ЛАРЧАНКА.


По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22 04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Х. Д. ЖЫЧКА.







Індэкс 63856 АТ 18670